Ꝣ чытаецца як „дз“,
Ꞡ—як „дж“.

(Гл. артыкул Дубоўкі „Проэкт літар для згукаў „дз“ і „дж“, „Узвышша“, № 4 (10), 1928 г.).

## ЗЬМЕСТ

*Бал.*


**Язэп Пушча**—Маўклівая радасьць мая (*вершы*) . . . . . . . . . . . . . . 3
**Кузьма Чорны**—Ліст Якуба Малькевіча (*апавяданьне*) . . . . . . . . . 7
✓ **Ул. Дубоўка**—І пурпуровых ветразей узьвівы (*поэма*) . . . . . . . . 17
**Лукаш Калюга**—Трахім-штучны чалавек (*апавяданьне*) . . . . . . . . 35
**Максім Лужанін**—Два вершы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 43
✓ **Ул. Жылка**—Над калыскаю (*верш*) . . . . . . . . . . . . . . . 45
**Пятро Глебка**—Эміграитцы, Песьня каханьню (*вершы*) . . . . . . . . 46
**А. Мрый**—Рабін (*апавяданьне*) . . . . . . . . . . . . . . . . . . 48
**Ул. Хадыка**—У мораку, Пад клёнамі (*вершы*) . . . . . . . . . . . 55
**Т. Трыкліні**—Казкі для малых і вялікіх (*вершы*) . . . . . . . . . . 58
**І. Плашчынскі**—Да пытаньня спэцыфікуму літаратуры (*артыкул*) . . . . . 62


### Культура мовы


**Ул. Дубоўка**—Падоўжаныя (або падвойныя) зычныя і спосаб іх азначэньня на пісьме (*артыкул*) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 72
**М. Карповіч**—Пра слова „вытвараць“ . . . . . . . . . . . . . . . 82


### *Слова—чытачу*


**Г. С.**—Апавяданьні Васіля Каваля . . . . . . . . . . . . . . . . 84
**Чарняўскі**—Пра „Ўзвышша“ і наогул . . . . . . . . . . . . . . . 92
**Сьцяпан Нортман**—Роман Кузьмы Чорнага „Зямля“ . . . . . . . . . . 94


### Кнігапіс


**А. Бабарэка**—Пра Бядулеву аповесьць „Салавей“ . . . . . . . . . . . 95
**Я. Плашчынскі**—Пра „Зямлю“ Кузьмы Чорнага . . . . . . . . . . . . 98
**Я. Плашчынскі**—Пра першы том збору твораў Янкі Купалы . . . . . . . 99
**Б. Папкоўскі**—Пра „Сонечну машыну“ В. Вінічэнкі . . . . . . . . . . 100


**Вокладка работы мастака М. М. Аксельрода**


Галоўлітбел № 923. Заг. № 1561. У ліку 2000 экз. Гомель, друкарня „Палесдрук“

**Язэп Пушча**

# Маўклівая радасьць мая

I

Урэзаўся цем'ем Ісакі
У водшыб абветраных зор;
Калюмны—халодныя самкі
Шлюць небу і зорам дакор.

Суровасьць на грузным граніце,
Маршчыны паўночнай тугі.
Учора тут падалі ніцам,
Сьпявалі адчаяньня гімн.

Вунь чорныя цені—фігуры
Над вежамі гнеў узьнялі.
Мне хочацца вочы зажмурыць
І слухаць узрыгі зямлі.

Ня муч мяне гэтак, чужына,
Гатоў воўчым яхам завыць!
Браты мае й сёстры 'шчэ жывы,
Хачу памаліцца за іх.

Бяз радаснай песьні поэт я,
Ад суму ніяк не ўцячы;
Краіна ўсё-ж стрэне прыветна
І песень падорыць ключы.

II

Паўночныя ветры, расклейце
Афішы ў асеньніх садох!
Трамвай па бязьлюдным проспэкце
Зьдічэла імчыцца на ўсход.

За ім электрычныя іскры
І ноч плямачорных лістоў.
Пад гэты звар'ёваны выкрык
Лініяе палёў хараство.

Цалую вачыма я зоры,
Рукамі лаўлю далячынь;
Там недзе абшчыпаны жораў
Схіліўся над смуткам маім.

Мой птаху падгалісты, лёгкі,
Ты выдзяўбі з слова сьлязу!
Пагналі далінаю вохкай
Поэты старую казу.

Яна іх сягоньня мадона,—
Ей радасьць, і песьні, і сьмех.
Поэты, ваш месяц мядовы
Прысьніцца вам толькі у сьне.

Зачынены зорныя клеці,
Няма да парога сьлядоў;
Паўночныя ветры, расклейце
Афішы ў асеньніх садох!

III

Над ціхай ракою лаза
Лісты атрусае ў ваду,
А я на шумлівы вакзал
Уцеху за повад вяду.

Ўпінаецца крыху, ня йдзе,
Ня верыць настроям маім.
Лісты на зялёнай вадзе
І зор мітусьлівых агні.

Тужлівасьці шэры пясок
Авеяў паўночную сінь.
У цёмных чухонскіх лясох
Азваўся сыгналам цягнік.

Глыбока ўздыхае зямля,
Чыгуніцца рэйкамі звон.
Я чую пах моцны вугля,
Індустрыю заўтрашніх дзён.

Над горадам сьвеціць маяк,
Над поплавам вырай буслоў.
Маўклівая радасьць мая
Ўсьміхаецца ціха, бяз слоў.

Ў кішэні пэронны білет,
А ў сэрцы абсыпаны сад;
То-ж я—беларускі поэт
Так сёньня расчулена рад.

Пітво надта хмельнае п‘ю,
Пітво нашых водарных хвой;

Я зараз сустрэну сям‘ю,
Я зараз сам буду ня свой.

Імчыся, чыгунны мой госьць,
Дай глянуць у вочы твае!
Апошні мінае ўжо мост,
Апошні сыгнал падае.

Вялізныя вочы—агні...
Жаданьні дзіцячай рукі...
— Мой тата, мой тата, зірні,
Вунь месяц вялікі які!—

IV

Мае браты, мае сябры,
Мы словы песень росьцім!
На ўсходе заўтрашняй зары
Хачу быць вашым госьцем.

Самотна жыць мне тут,
Нішто вачэй ня дзівіць;
Схіліцца хочу харству
Там, на сваёй радзіме.

Рыпіць як пад нагамі сьнег,
Ды толькі сьнег ня наскі.
Расказваў я сягоньня ў сьне
Зімовыя вам казкі.

Ня помню—слухалі, ці не,
Хоць і глядзелі ў вочы.
Я чую нарыпень саней,
Я чую плач сірочы.

Хто мне яго ў душу прынёс?
Які навеяў вецер?
На вуліцы скрыпіць мароз,
І ціха зоры сьвецяць.

Я праз вакно гляджу на іх
Адна... чатыры... дзесяць...
На перавясьле дзён сухіх
Зьбялеў зялёны месяц.

Здаецца мне, што хтось прышоў
Ка мне з мае айчыны.
Вось ён—з гарачаю душой,
З вялікімі вачыма.

Падходзь, падходзь! Ня стой за мной!
Чаго такі зьдзіўлёны?
Ты кажаш—гэтаю зімой
Па мне сумуюць клёны.

Я разам, разам з імі рос,
Там мне ірзалі коні.
Я чую шум сваіх бяроз
У гэтым вось пакоі.

Мае браты, мае сябры,
Мы словы песень росьцім!
На ўсходзе заўтрашняй зары
Хачу быць вашым госьцем.

**Кузьма Чорны**

# Ліст Якуба Малькевіча

На вуліцы стаялі людзі і гаварылі.

Варывон Вілач, высозны, пануры, згарнуўшы на жываце рукі, разважаў:

— У нас, васпане, заўсёды робіцца гэтак: калі чалавека агорне бяда, калі чалавека прыцісьне, дык няма, каб яму паспагадалі. Будуць усе дакопвацца, а чаму, а як, а калі... Я ні то што гавару, што от-бо, канешне, хоць-бы й гэты самы Хведар ня вінен. Я гэтага не кажу. Але нашто гаварыць, што ён ужо, васпане, гэтакі гад. Яшчэ не вядома, ад чаго яна была памерла. Мала што ён сядзеў. Але патом выразна сьведкамі гэтага не паказалі. Хто гэта, васпане, бачыў! Можа ён зусім нявінна пакутаваў два гады ў гэтым самым, васпане, допры.

Варывону Вілачу адказваў Якуб Малькевіч:

— Добра кажа, ліха яго тут ведае. Але патом, што ты тутака ні гавары, дык усёроўна, мусібыць, Хведара не апраўдаеш. Я сам на свае вочы колькі разоў бачыў... Колькі разоў на свае вушы чуў... ад людзей чуў...

— То чаму ты, васпане, за сьведку ня стаў?

— За сьведку стаць—дык я ня ведаю выразна, але людзі кажуць... і казалі... і цяпер кажуць, што ён яе жывасілам у труну загнаў. Суд-жа патом разьбіраецца; ня можа быць! Ён-жа яе і ўзяў толькі для таго, каб, добра кажа, як зямлю абразалі, дык каб больш душ у сям'і было. Начорта-ж ён—бо канешне браў-бы яе з дзіцём! Пажыў быў з паўгода, а тагды разлучвацца захадзіўся. Памятаеш?

— Але-ж жыў з ёю, не разлучаўся.

— Бо прыперлі, як вужа віламі. Ён думаў так выкруціцца. Адно-ж частку падай! Як прышлося ёй часьць выдзяляць дык і асеў. Дзеля чаго ён яе браў, як не дзеля таго, каб выгаду нейкую мець. Што, ня праўда?

— Чаму ня праўда!—абазваліся галасы.

— Пасьля ўсё грыз яе, як іржа жалеза, пакуль не забіў.

— Двое дзяцей асіраціў: і сваё і яе.

— Адседзеў два гады. Гэтакаму каб хаця дзесяць год.

— Я, васпане, за яго вельмі не абстайваю, але... Што мне ён—ні сват ні брат...

— А так сабе дружака.

— От можа сваяком зараз будзе.

— Гэта ўсё што хто, васпане, гаворыць... Калі што ў яго й было, дык ён за сваё адпакутваў... А можа яму самому гарчэй за каго.

Што яму ківаць, васпане, туды, ꙃе ён і сам бачыць. А цяпер ён прападае без сталае гаспадыні. Што-ж, сёстры гэтыя ꙃьве на вылёце з хаты—ꙃякуй богу абеꙃьве не малаꙃенькія.

— Можа даўно замужам былі-б, каб ня гэтакі брат. Можа ніхто й браць ня кваціць з гэтакае хаты.

— А што яны вінаваты!

— І старэйшая гэтакая самая. Яна-ж і памагала яму нябожчыцу грызьці; усё-ж і падвучвала, а без падпалу дровы не гараць. Можа-б гэта і ёй трэба было з ім разам у вастрог сесьці.

— А малаꙃейшая—дык гэтая—чалавечая душа. Пра·яе што хто скажа.

— Але, гэта інакшая.

— Жывучы, васпане, і так і гэтак бывае.

— Ня ўсьпеў яшчэ ад астрогу ачухацца за першую жонку, як ужо другую бярэ. От ахцак!

— Ды й гэтую бярэ за пасаг... Ты, Варывоне, думаеш, што гэта ён як небуꙃь іначай?

— А гэтым сіратам дабра, як ня было, так і ня буꙃе.

— Ꙃе ім тое дабро!

— У нас, васпане, калі на чалавека наваліцца бяда, дык ўсе толькі дакопваюцца яго грахоў,..

— А што-ж, яго па галоўцы глаꙃіць?

Варывон Вілач пашоў. Якуб Малькевіч зноў загаварыў:

— Усёроўна-ж і сам сабе бяды нарабіў. Што гэта яму вельмі шчасьце самому цяпер вялікае, што два гады сяꙃеў, што люꙃі пальцамі паказваюць? Патом ня буꙃе мець спакою ён. А ўсё горла шырокае, зайздроснае, вока ня поўнае. І сам сабе, гад, жытку атруціў і ꙃяцей пасіраціў. Колькі-б ні сяꙃеў, усёроўна таго не адсеꙃіш. Што зрабіў—назад ня вернеш. Няжывога з магілы не падымеш.. Што меў адразу, у маладыя гады узяць сабе добрую ꙃеўку ды жыць, як добрыя люꙃі, дык от бярэ гэтае пакіꙃішча.

— Роўны роўнага ўбачыў.

— А Вілачу абы з хаты збыць братаву ўдаву. Гэтаму што!

— А яна-ж таксама нікому свайго не перапусьціць.

— Што свайго, ёй і чужога мала!

---

Пасьля таго, як госьці падпілі, у хаце стала шумна. Больш за ўсіх гаварыў Варывон Вілач. Твар у яго быў чырвоны, а голас гучны, з лёгкай хрыпатою.

— Мертвым неба, а нам, васпане, выпіўка. Пускай, Хведар, чарку да свахі.

— Мае галубочкі, да мяне й першую чарку пускалі, і другую, і... я ўжо ўпілася.

— Што гэта вы?

— Яшчэ адну, цётка Аўгіньня.

Сваха піла ўсё з прыказкамі:

— Каб не стаяў над душой сват-прыганяты, вып‘ем па пятай. Хі-хі-хі...

Сам Хведар ня лішне піў і ня лішне пільнаваўся „маладое“. На тую ўсё налягала Аўгіньня.

— Нешта-ж ты, Зося, ня п‘еш. Ні калі бывае. Пускай гарэлку ня трымай ўсіх. Няхай людзі вып‘юць.

Варывон гаварыў Хведару:

— Мы гэта, васпане, прышлі, можна сказаць, у гэтыя самыя агляддзіны так сабе. Што мы ў цябе ў хаце ніколі ня былі, ці што? Мы гэта ў госьці прышлі, а не ў агляддзіны нават. Што мы ня ведаем, як ты жывеш, ці што? Мы будзем, васпане, лічыць, што гэта ты нас сабе ў госьці паклікаў. А раз мы, васпане, будзем, сваякамі, дык мы с дарагою душою прышлі. Дык я-ж кажу. Як нябожчык брат памёр, вечны пакой, дык мы-ж ня былі падзелены, ты-ж сам ведаеш. Мы сабе жылі гэтак, як з табою, васпане, будзем жыць. Дык я яму й гавару, калі ён канаў: я, кажу, васпане, твае Зосі ня скрыўдзу. Яе частка заўсёды будзе пры ёй. І я ад яе не адбіраю нічога і не хачу што-небудзь скруціць. У нас гаспадарка адна. Дам я за ёю, васпане, кабылу, цялушку і два, васпане, падсьвінакі. А там якое драбязы—збожжа ці што сабе яна трохі захоча, дык я цанавацца ня буду. Мы памяркуемся.

Хведар зусім ужо адцягнуў яго ад стала.

— Не, браце, ты мне дай не кабылу, а жаробку.

— Што табе гэтае жаробка, яна ня лішне складзістая. А кабыла добрых жарабят, васпане, водзіць. Гэта завод!

— Дык-жа й жаробка ад гэтае самае кабылы. А ты кажаш, што вельмі добрыя жарабяты.

— Н-ну, жаробка не ўдалася. Як цявіна. Бывае. Што меў ты, васпане, гэтую жаробку (яна-ж як дошка, паглядзі, які ў яе зад!) меў ты браць, дык я табе як добра—гатовую кабылу і... Што табе гэтая жаробка ў вока ўпала!

— Кабыла ўжо ў гадох.

— Ты, васпане..

Але тут сваха падцягнула яго да стала:

— Цераз вас, Варывоне, людзі ня п‘юць. Пускайце чарку.

Хведар падсунуўся сьледам за Варывонам і ўсё шаптаў сам сабе разважліва:

— Такі, мусіць жаробкі ня дасьць. От як упяўся. Тады няхай хіба яшчэ колькі авечак накіне...

— Накінь авечак,—сказаў ён, падсунуўшыся да Варывона.

— З авечкамі нешта, браце, нядобра. Сам-жа ведаеш, пазводзіліся.

Раптам сваха ўстрапянулася:

— А дзе-ж гэта паненкі?

— Матыльда, васпане, тут...

І глянуўшы сабе пад локаць, Варывон ня ўбачыў Матыльды.

— Нясу гарбату,—сказала Матыльда, зьяўляючыся ў дзьвярах з кухенькі.

— А я бо, васпане, гляджу, у брата, можна сказаць, гэтакі дзень сёньня, а сястра ўцякае. А дзе-ж Анэта?

— От гэта мне не падабаецца,—устрывожыўся раптам Хведар. Калі яна маладзейшая сястра, ды калі яна за нашымі галовамі была ў хаце за паненку, дык чаго яна яшчэ цяпер тут свае камэды паказвае. Дзе яна дзяецца! Я не пасаромлеюся і перад людзьмі скажу.

У Матыльды жоўты і злосны ад прыроды твар яшчэ пажаўцеў:

— Надулася, як смоўж, і сядзіць у бакоўцы.

— Чаго яшчэ ёй трэба. Анэта!

— Ат, можа яна нездарова, пускайце, мае родныя, чарку,—падагнала Аўгіньня.

Хведар раптам зноў сеў і прыгнуўся да Варывона:

— Ну то давай нечага будзем канчаць гаворку, трэба-ж рабіць які-небудзь лад.

— Я, васпане, не адказен хоць цяпер лад зрабіць... Што-ж, Зося засталася бязьдзетнаю, малое яе як памерла..

— Гэта-то ўсё нічога... Што ты мне пра гэта гаворыш... пра дзеці ўспамінаеш? Дык што калі ў мяне на руках іх двое—майму чацьвёрты год і яе, нябожчыцы,—восьмы год. Што-ж з таго! Большы ўжо гатовы пастух. А ў мяне гаспадарка!

— А як, васпане?

— А так што, я-ж кажу, мы лишне спрачацца з табою ня будзем...

— Не, не, васпане, што не—то не, спрачацца ня будзем.

Аўгіньня зноў устрапянулася.

— А дзе-ж гэта дзеці? Хай-бы яны па паўчарачкі выпілі. Шмат ня можна, а трошкі—няхай паспытаюць.

Зося адразу выявіла клапатлівасьць новае маці:

— Але дзе-ж гэта малыя?

Аглездзела трохі санлівымі ад гарэлкі вачыма хату і, кіўнуўшы галавою Матыльдзе, вылезла з-за стала. Яна ўжо назвала Матыльду братаваю:

— Хадзем, братавенькая, да малых.

І ўзяла Матыльду пад руку.

---

У маленькай бакоўцы стаялі два ложкі і памаляваны столік. Скрозь на сьцяне вісела адзежа, і вельмі было тут цесна.

На ложку сядзела заплаканая Анэта і трымала на каленях малога хлопчыка. Большы сядзеў на другім ложку, як стары, ўсьпершыся

локцямі на калені і падпёршы імі твар. Ён наморшчыў лоб, падняў вочы і глянуў на Зосю і Матыльду. Зося пагладзіла яго па галаве:

— Няхай-бы ты, сынок, туды, да таты, падышоў.

І Матыльда падышла да яго:

— Можа ты зьеў-бы чаго?

У Анэты зморшчыўся твар. Зося села поплеч з ёю. Матыльда, глянуўшы на яе, сьціснула губы.

— Нешта мусіць не здарова, Анэта, што сядзіш тут адна?

Зося прыхінулася бліжэй да яе і пастаралася паказаць ласкавай усьмешкай шчырае спачуваньне. Анэта бліжэй прыгарнула да сябе малога. Тады ўскочыла вёрткая Аўгіньня:

— Дайце-ж сюды сыночка, няхай-жа ён да стала падыйдзе. Хадзем-жа да таткі.

Яна папробавала сьцягнуць з ложка большага.

— Не хачу.

— Чаму? Чаму-ж ты ня хочаш?

— Не чапайце яго!—жорстка сказала Анэта.

— Чаму?—шчыра зьдзівілася Аўгіньня.

— Таму.

Матыльда пастаралася ўлагодзіць усіх, каб спыніць гэтакія непаразуменьні:

— Няхай-бы ты, Анэта, гасьцём гарбату падала.

— Добра.

І Анэта вышла ў кухню. Тады Аўгіньня сілком узяла пад пахі большага і падвяла пад гасьцей. Варывон Вілач паглядзеў на хлапчука:

— Расьце, васпане. Расьці, расьці, гаспадаром будзеш.

Аўгіньня наліла паўчаркі гарэлкі і дала малому. Той узяў і баязьліва паглядаў на ўсіх.

— Пі, сынок, пі.

Малы нясьмела глянуў на айчыма Хведара, як-бы баючыся, што той скажа.

— Пі,—сказаў той, нагінаючыся да Варывона, каб зноў загаварыць пра жаробку.

Усё застольле ўпарта пацьвердзіла:

— Пі, сынку.

Малы памачыў губы і скрывіўся.

— Пі, пі.

Малы пацягнуў белымі, худымі рукамі, шпарка паставіў чарку назад і моцна закашляўся.

— А-а, трэба было, васпане, разам!

Малы кашляў, цёр кулакамі па твары сьлёзы.

— Не, жаробкі я, васпане, ня дам,—адразу схіліўся да Хведара Варывон.

— А Зося як сама захоча?

— Мы з ёю, васпане, не дзяліліся й не сварыліся...

Анэта прынесла гарбату і ўбачыла: малы кашляў, за ім стаяла Зося і трымала на руках меншага. Аўгіньня нешта тлумачыла суседу.

— Хоць бы хто адвёў яго ад стала назад. Нашто яго тут трымаць,—сказала з пагардаю Анэта.

Хведар ускочыў:

— Чаго ты ўсё бурчыш? Чаго ты дзьмешся, сястрыца, на мяне! Што ты перад людзьмі мне брыдка робіш?

— Ціха, васпане.

— Бо я, калі добра, дык добра, а як захачуся, дык...

Зося занесла ў бакоўку малога і прышла назад, зьбянтэжаная.

— Мне як добра дык добра, а не—дык я не пагляджу.

— На што ты не пагляджіш?

— На ўсё. За шыю, ды з хаты як жабу. Перад людзьмі гавару.

— Ня можна, васпане.

— Каб у мяне тут у хаце!..

Анэта не даслухала, моўчкі пашла ў бакоўку. Матыльда глянула на Хведара.

— Ня крычы, Хведарка, што табе здалося...

Яна, відаць, трымала яго руку. Гасьцям зрабілася не па сабе.

— Пускайце, пане Варывоне, чарку.

— Я, васпане, не адказен. Здароў будзь, Хведар.

Але ніякавасьць гэтак шпарка не прайшла. Зося пашла сьледам за Анэтаю, а за Зосяю Хведар.

— Ня варт ісьці, васпане,—зазлаваў раптам, сам ня ведаючы з якое прычыны, Варывон Вілач.

— Ты што гэта?—сказаў Хведар Анэце яшчэ здалёк.

— Вам, можа, што трэба сказаць, браткенькае, ці што...

— Ат,—зьявілася раптам Матыльда,—што тутака лішне браць у шух. Калі ўжо на тое пашло, дык тут-жа льга сказаць у адкрытую.

— Але, васпане.

Ён ужо стаяў у дзьвярах, вялікі, плячысты, як гара.

— Панна Анэта, васпанна.

— Я ня панна і не васпанна!

— Ого!

— Я вас прашу, ідзеце вы і не чапайце вы гэтых малых! Што яны вінаваты перад вамі ці перад кім!

— Ого!

— Што табе не падабаецца?

Анэта закрыла рукамі твар і пайшла. Перад ёю расступіліся ў дзьвярах, далі ёй дарогу. Малыя кінуліся за ёю:

— Куды ты, цёця!

— Ня йдзі!

— А мой сынок,—абазваўся Хведар,—куды ты, чаго ты, хадзі да мяне. Ідзі от да цёці Зосі, да яе... Гэта-ж мама.

— Да мамы йдзі, васпане...

— Цёця Анэ-э-эта, —заплакалі малыя ўдваіх і кінуліся бегчы.

Анэта ўжо стаяла ў кухенных дзьвярах.

— Яны баяцца чужых людзей—сказала Матыльда.—Анэта, куды ты?

Дзеці сталі каля Анэты.

Хведар рвануўся.

— Анэта, што гэта!

— А гэта што?—крыкнула Анэта,—ты думаеш, дзеці нічога ня ведаюць? Ты думаеш, яны ня ведаюць больш за цябе? Ты думаеш, яны ня бачаць, што ты за бацька? Што каля іх робіцца?! А ты памятаеш, як гэты большы крычаў і людзей ззываў, калі ты біў яго маці. Можа ты яго навек скалечыў гэтым самым. Можа ён іншым цябе і ня можа бачыць, як з узьнятым паленам над яго нябожчыцаю маткаю. Можа тое, што ён убачыў тагды, навек сядзіць у яго сэрцы, і, колькі ён будзе жыў, ніколі ня вытравіцца з яго. Што ты тутака разьвёў гандаль перад імі—цераз гэты гандаль і тагды сям'ю раскідаў, і цяпер моцнае ня зробіш! Як тагды было не вясельле, а нейкі гандаль, дык і цяпер тое самае. Не навучыў цябе і вастрог; хоць бы ты малых дзяцей пашкадаваў...

— Што ты мяне, гадаўка, сарамаціш перад усімі людзьмі...

— Я табе гэта і без людзей гаварыла, кожны дзень дзяўбла табе ў галаву, што зноў пасьля пачнецца калатня ў хаце, толькі што тагды гатова больш сірат застацца.

— А божа-ж мой,—заплакала Зося.

— Васпане Хведар, што гэта робіцца.?

— Ці ты-ж ня бачыш, што ён цябе бярэ не як жонку, а як пасаг. Яму-ж мала, яму-ж—ён і сам ня ведае, колькі яму трэба, каб утхланіць сябе.

— Анэта!

— Гэты большы—дык можа й ня дзіва гэта, што ён цябе баіцца. Але тваё дзіцянё—чаго гэта яно ад цябе ўцякае, чаго гэта яно дрыжыць перад табою...

— Ты нагаворваеш дзецям на бацьку, ты сама адбіваеш іх ад мяне!

— Што ты робіш з свае хаты?!

Варывон адцягнуў Хведара да стала і сілком пасадзіў на лаву. Госьці заварушыліся; Аўгіньня выціскала сьлезы і цёрла далоняю сухія вочы. Твар у Матыльды больш яшчэ пажаўцеў, і сьціснутыя губы зрабілі яго больш худзейшым.

— Дзеці, васпанна, доўга ня бачылі яго і яшчэ ня прывыклі.

— І ня прывыкнуць ніколі. У дзіцячую душу што западзе, ніколі, колькі і жыць будзе чалавек, ня вытруціцца адтуль.

— Дык як загадаеце, васпанна Анэта, брату свайму Хведару: жаніцца яму ці не. Хэ-хэ-хэ! А нам як: пабыць яшчэ тут трохі, ці зараз-жа выносіцца з хаты?..

— Чаго-ж ты маўчыш, сястрыца мая, можа чакаеш, каб я цябе папрасіў?

Зноў яго сілком абсадзілі на лаву.

— Хэ-хэ-хэ, мы ня ведаем, што нам рабіць, васпанна.

— Што рабіць? Зараз-жа вон адгэтуль усе! Усе зараз-жа!

— Божа мой,—залілася сьлязьмі Зося, стукнуўшы локцямі аб стол.

Хведар быў белы, як палатно. Губы яго сьціскаліся і дрыжэлі. Дзеці трымаліся за Анэту і плакалі.

— Ты думаеш пра дзеці, ці не?

— Гэта каб падзякаваць мусіць мне, што я йду гадаваць чужыя дзеці—закрычала Зося, выбегшы на сярэдзіну хаты.

— Можа ты й дабра ім хочаш, але як гэта ўсё робіцца!

Варывон Вілач ужо ўсьцягваў на плечы кажух. Але адразу, адумаўшыся, уздыхнуў і сказаў да Зосі:

— Ціха, плявАць на ўсё.

І да Хведара:

— Ты тут гаспадар, ці хто? Каб гэта на мяне, дык я тут доўга лішне не глядзеў бы, а адразу...

— Што адразу?—крыкнула Анэта.

— Каб больш я твайго слова ня чуў!—кінуўся да яе Хведар.

— Не, будзеш чуць!

— Дай сюды хлапца. Мой сын, я над ім бацька.

— Ты бацька яго, але не над ім.

Ён адарваў ад яе меншага хлапчука і панёс на руках. Хлапчук немым зайшоўся плачам. Анэта з большым зачынілася ў кухні.

Варывон Вілач усё-ж усьцягнуў на плечы кажух і падаў вялікую хустку Зосі.

## Ліст

Як два разы жаніўся Хведар Тамілоўскі, вёска Канатопшчына, Бабелянскага раёну. Я чалавек просты і нявучоны, дык ня вельмі складна апішу, як жывуць малыя дзеці і ўся іх сям'я, але затое чыстую праўду скажу. Эх, горка і кепска жывецца бедным хлопчыкам бяз роднае маткі! Гэта ў Хведара Тамілоўскага. Дык адзін большанькі хлапчук, можа яму гадоў якіх сем, або восем—ня Хведараў, а яго жонкі, якую ён забіў, за што і адседзеў два гады. А меншы—родны сын Хведараў, і яму можа якіх год тры, ці трохі больш. Забіў Хведар жонку з зайздрасьці і ўзяў ён быў яе дзеля выгады, а жыць з ёю не хацеў. І гэтыя два хлапчукі за свой кароткі век вельмі-ж гора небарачыны ўжылі. Няма ў іх цяпер ніякага скутку, ці як тут сказаць, каб ім прасьветлую гадзіну мець. У Хведара дзьве сястры ёсьць, дык старэйшая Матыльда спрыяе Хведару, гэтакая самая, як і ён, наглая і ненаедная. А маладзейшая Анэта толькі і ёсьць абарона гэтых малых. Яна нейкі, можна сказаць, вырадак ува ўсёй іх сям'і, не падобна на ўсіх іх. Ёй і самой дрэнна тутака жыць пры гэтакім браце. Як ён у астрозе сядзеў, дык яна за мужчыну была і на полі і дома. А гэтыя

малыя нават жыцьцём сваім рашалі, плакалі і рыдалі, калі бацька жаніўся. Большы—ён-жа ўсё ўжо ведае. Пра яго гэта я й хачу напісаць, бо меншы-то гэты яшчэ як воск, што з яго хочаш, тое й зробіш. Ён яшчэ нічога ня ведае, і лепш, можа, каб і ня ведаў. А большы ўсё змалку дён сваіх уведаў, на няшчасьце сваё. Калі Хведар Тамілоўскі жаніўся, дык пад вакном народ стаяў, і некаторыя рагаталі з гэтага вясельля, бо ён ізноў узяў з-за выгады і набраў пасагу чорт-што. Дык ізноў у хаце з гэтаю Зосяю ў яго дабра ня буде. А большы хлапчук, ня Хведараў, а тае першае яго жонкі як дікі нейкі і як-бы скалечаны застаўся. Пра гэта я колькі разоў чуў ад самое Анэты, якая за малых вельмі абстайвае, а пасьля я пачаў сам прыглядацца—адно-ж праўда. Тагды я ўспомніў, што яшчэ як ён быў меншы, дык як Хведар біў раз на панадворку паленам яго маці нябожчыцу, дык я прыбег пасуседку ратаваць. А малы гэты стаіць каля платца і дрыжыць увесь. І нейк непалюдку глядіць. Можа ён тагды нічога ня бачыў больш, апроч гэтага палена, якое біла ў плечы яго маці. З таго часу ўжо колькі год прайшло, а ён часта гэтак сама глядіць. Памятаю, калі яна маці яго колькі дзён была непахаваная—усё сьледства вялі—дык ён не адыходіў ад яе няжывое і гэтаксама глядеў. Ня плакаў, а глядеў гэтак страшна. Я пасуседку прышоў зьняць з яе мерку, каб труну зрабіць, бо я сталяр, а ён стаіць і вокам ня зьмігне. Дык мне самому стала страшна ад гэтага яго зірку. Вялікі жаль агарнуў маё сэрца, і з таго самага часу я калі ўбачу яго, дык маё сэрца крывёю абліваецца. Бо я й сам, сказаць, гледячы на яго, успамінаю, як я гадаваўся. Я просты чалавек і ня ведаю, што са мною часамі робіцца. Паеду араць і ўспомню гэтага хлапчука; дык жаль душу агорне, і пакуль забудуся, дык хоць няма ведама де деццa. Гэтаксама і з яго цёткаю Анэтаю, сама гаварыла; за гэта яе ў хаце й ня любяць. А гэтыя люді ў іх у сям'і жывуць сабе—ядуць, п'юць, сьпяць, робяць, сварацца і нічога ня бачаць і нічога гэтага ня ведаюць, што можа быць усё гэта на сьвеце. А гэты хлапец нешта ўсё як-бы бачыць і маўчыць. Нешта з яго буде, калі ён вырасьце. Дык от я й хачу тут напісаць вам, дарагія таварышы, ў рэдакцыі газэты (бо я ня ведаю куды больш пісаць пра гэта), каб можа якая апека была над гэтым хлапцом, ці што, а то вельмі-ж і цяпер яму ня соладка жыць. А яшчэ каб які-небудь закон быў, каб прыглядацца, калі судяць, да таго, напрыклад, што Хведар зрабіў з гэтым хлапцом, калі біў і забіў яго мацеру, бо сядець у вастрозе то ён сядеў два гады, але што гэта памагло? Ён мог пасядець і адін месяц, і десяць год, і адно ўсёроўна было-б. І яго калі засуавалі, дык толькі і ўспамянулі, што хлопца асіраціў. А можа ён зрабіў з гэтым хлапцом нешта больш! А можа ён яго зрабіў гэтакім, што ён колькі буде жыць, дык ня буде падобным на ўсіх. Можа ён буде бачыць на сьвеце і ў людяцх больш чым усе; буде бачыць і ведаць тое, чаго ўсе навокал яго ня бачаць і ня чуюць. Ён буде разумнейшым за ўсіх. Ён буде бачыць навылёт усіх людей, а яго ня будуць бачыць і ведаць і разумець,

што ён гаворыць, і ўсе як ёсьць будуць ня толькі сьмяяцца, а аж зьдекавацца над ім. Можа ён сярод тых людзей, што бяз розуму і сэрца, будзе як трава на дарозе. Бо разумнейшаму чалавеку, таму, хто больш бачыць за ўсіх, хоць прападай сярод усіх. Гэта заўсёды было и ёсьць. Можа хіба пасьля ня будзе. Сярод усіх калі будзе адзін гэтакі, дык няма каб у разумнейшага вучыцца, дык яшчэ яго абсаcваючы сьмяюцца, крыўдзяць, каб ён от канешне быў гэтакі самы бяз розуму й сэрца, як яны самі. Можа я ня гэтак усё гавару як трэба, можа ня гладка, ці цяжка, але я чалавек просты. Хоць і бываў шмат дзе на сьвеце, але мала вучоны; можна сказаць ня вучаны, а мучаны. Трэба яшчэ, каб бралі на ўвагу тое, што гэты хлапец, калі нават пад'еўшы і адзеўшыся, усё адно мучыцца сэрцам сваім, бачачы заўсёды ў вачох сваіх, як дрыжаць губы і твар у яго мацеры, калі яе паленам забіваюць. На гэтым я канчаю. З тае самае вёскі *Якуб Малькевіч*.

Люты, 1929 г.

**Уладімер Дубоўка**

# І пурпуровых ветразей узьвівы...

Поэма

Ідзі часінай добраю у людзі
ты, вынік дум і творчага гарэньня.
Адзін усьцешыцца, другі асудзіць,
і той і той з цікавасьцю сустрэне.

Табе ня даў я рыфмы мілагучнай,—
ідзі, мой твор, кунегай апавіты.
Цябе бяз рыфмы думка добра лучыць,
шукаючы для духу акавіты.

Клапоцяцца на сьвеце больш аб шлунку,
яго капрызы—дыктатура проста.
І стравы рознастайнага гатунку
мы на спатканьне маем і на ростань.

А дух трымаем на галоднай норме,
а дух скарынкай эпігоннай сыты.
Яго суседзі, мабыць, не накормяць,
затым патрэбна духу акавіта.

Ня знойдзе містыкі у гэтым крытык,
хоць дзе-які і будзе клапаціцца.
Калі чамусьці выйсьце і закрыта,—
шукае выйсьця творчая крыніца.

Будзі шуканьні новага у стылі,
пакліч на спрэчкі думнае грамадзтва,
каб на здабытках даўніх не застылі,
каб не засьцюжылі у іх мастацтва.

Занадта ціха стала на Парнасе
у сэнсе творчасьці і дасягненьняў.
Сядзяць у эпігоннай апранасе
прадстаўнікі абудвых пакаленьняў.

Пакуль дайшлі—прытупаліся крышку,
няхай у добры час адпачываюць!
Ня трэба нам спыняцца у зацішку,
бо ў далі думка нас вядзе жывая.

Мае сябры, супольнікі у працы,
штурмуйце будучыны аванпосты!

Мы звыклі перашкодаў не баяцца—
яны спрыяюць нашаму узросту.

У час нялёгкі вышлі мы ў дарогу,
когорту нашу ксьцілі навальніцы.
Байкушы розныя ўздымалі скогат,—
імкнуліся прымусіць нас спыніцца.

А мы ішлі з імпэтам віратлівым,
а мы ішлі няспынна і упарта.
І пурпуровых ветразей узьвівы
трымалі курс на сонечнае заўтра.

З нас кожны рэволюцыяй праняты,
кладзём шляхі да новых дасягненьняў.
Узвышшы высім з пролетарыятам,
зьдзяйсьняючы квяцістыя імкненьні.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ідзі часінай добраю у людзі
ты, вынік дум і творчага гарэньня.
Магчыма, хто цябе там і асудзіць,
ці вывіх адшукае ў лятуценьнях...

Ад вывіхаў цябе я застрахую
замовай добрай, можа дапаможа...
У інтродукцыі замову надрукую,
каб бесьпячней было у падарожжы.—

**Замова ад сустаўных зьвіхаў і ад нясустаўных вывіхаў (каб памагла напэўна—трэба прачытаць адным духам)**

На моры, на лука-моры,
на моры, на акіяне
ёсьць выспа, на высьпе горы,
на горах вялікі камень.

Каралі на бераг прыносілі хвалі,
ў каралі і зьвіхі і гора хавалі,

каб гора ляжала,
пятрэла на скалах,
ў сьвет не хадзіла,
людзей не звадзіла,
ляжала-б высока,
сохла.

На высьпе стаіць сьвятліца,
ў сьвятліцы жыве дзявіца.
Хадзіла яна ў дубровы
ірваці травы шаўковай.

На зьвіх прыкладала, памогі давала,
каб зьвіх адкаснуўся на стромкія скалы,

каб гора ляжала,
пятрэла на скалах,
у сьвет не хадзіла,
людзей не вадзіла,
ляжала-б высока,
сохла.

Скаціўся той зьвіх на камень,
няхай ён адтуль ня ўстане,
няхай ён далёка едзе,
няхай ён загразьне недзе.

Як вёз яго жук па калінавым мосьце,
той мост праламіўся, пад мост ягамосьці.

І жук утапіўся,
і зьвіх той заліўся,
у сьвет больш ня пойдзе
ні ў якай прыгодзе,
ляжыць дзесь глыбока,
мокне.

Травіцаю зьвіх каралі,
ўвагналі яго ў каралі.
На мейсца суставы сталі,
а зьвіх пакаціўся ў хвалі.

Каралі на бераг прыносілі хвалі,
ў каралі і зьвіхі і гора хавалі,

каб гора ляжала,
пятрэла на скалах,
у сьвет не хадзіла,
людзей не вадзіла,
ляжала-б высока,
сохла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяпер ніякіх вывіхаў да скону.
Замоўкні, аўтар, хай ідуць гэроі.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Лілёвая ссуваецца заслона,
на сцэне нашых дзён гавораць двое.—

Лірык

У нашы дні і радасьці і гора,
у нашы дні руін і будаўніцтва
часінай хочацца мне адпачынку
для сэрца струганага і для нэрваў.
На думку прыдзе: кінуць хоць на тыдзень
і гарады і ўвесь штодзённы клопат,
узяць, пайсьці вандроўным бесхацінцам
па тых шляхох і крыжавых дарогах.
Паслухаць гоманы людзкога мора,

разгневанага мора-акіяну...
Пазнаць тугу бяскрайную ў дарозе,
пабачыць шчасьце без парфумы хцівай...
У нашы дні...

Матэматык

Дівак ты ці романтык,
мой дружа любы, гэта вельмі ясна.
У нашы дні руін і будаўніцтва
ты руйнаваць і будаваць павінен,
а не бадзяцца нейкім дзеньдівірам.

Лірык

У нашы дні і радасьці і гора
патрэбны дойліды і дзеньдівіры.
Аднолькава іх права на паветра
ды і на сонца такжа...

Матэматык

Ты разводзіш
крамолу нейкую і два ухілы!
Змагацца трэба з вамі... Ты ня чуеш?!
Чаго глядзіш так пільна ты на Захад?
Ці сонца вокам думаеш спыніць?
Яно з-за лесу водблескам крывавым
варожыць новы дзень, дівосны дзень,
такі-ж трывожны для цябе, як сёньня.

Лірык

Угледзься, браце мой, у сьлед яго,
навокал глянь... Што дзеецца навокал!
Здаецца мне—над лесам праплываюць
у край нязнаны ціха караблі.
І пурпуровых ветразей узьвівы
то дух тужлівы ўкрыжаваны мой,
тужлівы дух і жальба...

Матэматык

Годзе, годзе!
Жані тугу на шчырыя бары,
а калі ў ветразі ўвайшла—дык добра:
ня вернуцца ніколі караблі.
Ды гэта лірыка мне не да смаку:
у нашы дні руін і будаўніцтва,

і дыктатуры пролетарыяту
патрэбны нам поэты змагары,—
не ліквідатары, не смутнагляды.

Лірык

... Я запалю агнём свае імкненьні,
я запалю жаданьні і надеі,
і пурпуровых ветразей узьвівы
мяне над краем любым пранясуць.
Натхняючы прыдушаных пакутай,
бальзам на вусны смаглыя паклаўшы,
ад твараў струсаных тугу і смутак
я аджану і на палёх рассыплю,
пра радасьць новыя навею песьні,
а сам...

Матэматык

А сам?

Лірык

... з тугою і загіну,
бо мне прыемна з ёй, хоць дзіка-страшна...
І караблі праходзяць па-над лесам,
каб зноў вярнуцца заўтра раніцою,
каб зноў пабачыў я цяжар дзівосны
і пурпуровых ветразей узьвівы...

Матэматык

Дзівосна так... І ты дзівак, мой браце!
Якое ліха дзеецца з табою?
У сэрцы у тваім і непакою
і панікёрства нейкага занадта...
Ты адыходзіш ад жыцьця, змаганьня,
ты хутка станеш ворагам працоўных
і дыктатуры пролетарыяту.
Ты—шкодны тып! Наколькі я кахаю—
цябе натолькі скора зьненавісу!

Лірык

У кожным сэрцы рознае бывае,
бывае дрэннае у ім таксама.
Заўжды шукаем хібы мы ў суседзяў.
А як паглянем на свае учынкі,
а як прагледзім зробленае намі,
дык і ня вельмі радасьці багата...

Затым мяне і ня трывожаць дужа
твае упікі і твае асуды.
Народ наш ведае даўно пра гэта
і свайго сына ён не занядбае.
Вось ты паслухай толькі, што гавораць
дзяды сівыя пра вянец прыроды.—

## Народнае апавяданьне пра тое, як бог тварыў людзіну і як чорт сапсаваў усю гэтую работу

Бог, калі тварыў Палесьсе,
з гліны выляпіў людзіну
і на сонейку павесіў,
каб ямчэй падсохла гліна.

Не пасьпеў ён адысьціся,
адпачыць, ці што якое,
як аднекуль чорт-нячысьцік
тут зьявіўся ў непакоі.

Абышоў навокал твору
і памацаў і панюхаў:
не сьмяецца, не гаворыць,
не шманае цаца вухам.

Форма голая пятрэе,
як мастацтва для мастацтва.
— Бог, ня йначай, тут дурэе—
трэба з крытыкай узяцца.

— Сапраўды, ядрона шышкі,
а дзе зьмест у форме гэтай?
Хіба мала мае жыжкі
наша любая плянэта?!

— Мне ня трэба—хай нікому
гэта цаца ня прыдасца!—
Напляваў і так старому
апаскудзіў тую працу.

Ён пасьля пашоў у пекла,
гонорар зьдзіраць за ўчынак.
Бог, тым часам меўшы пекны
і прыемны адпачынак,

з лесу сунецца памалу,
напявае „Баядэрку“.
Каму што, а богу хвала,
на яе-ж ня зробяць мерку...

Бачыць—чорт хвастом накрыўся
і падаўся у балота.
— От, сварыся, не сварыся—
не адвучыш шкодзіць чорта.

— Пэўна нешта зблоціў недзе,
вось праклятая байкуша!
Лепш глядзеў-бы, як смоўж едзе,
ці на вербе рваў ігрушы.

Падыхоѕіць да люѕіны.—
— А, каб ты затонуў лепей!
Памясіў-бы, ўража, гліны,
паляпіў-бы, як вось лепяць!

Але ѕе ты зловіш чорта:
неѕе ў Фрыца жлукціць піва...
Так ня кінуў бог работы:
пачынае зноў цярпліва.

Хоць вазьмі ляпі нанова:
дрэнь з усіх бакоў абліпла.
Шкода—зроблена аснова
і на сонцы сохне сьціпла.

Ня спыняцца ў полі богу.
А было перад няѕеляй.
Каб ня думаць вельмі доўга,
каб сусеѕі ня гуѕелі,—

ён узяў свой тонкі выраб
і, перавярнуўшы наніц,
захаваў у люѕкай глыбі
тую чортаву ўсю памяць.

Выгляд звонку стаў ня дрэнны,
што-ж ля сэрца—ліха знае...
У жыцьці мы больш дарэмна
сэрца чыстага шукаем...

Матэматык

Ня ведаю, ці больш цябе шкадую,
ці больш сярѕіты на цябе, мой дружа.
Ты ня шукаеш вобразаў рэальных,
даступных і карысных у змаганьні.
Замест таго забраўся ў чартаўшчыну
і выцягаеш барахло старое.
У нашы дні руін і будаўніцтва
поэт на фронце антырэлігійным
павінен быць, а не баѕяцца неѕе
па балатох Палескіх і выгарах.

Лірык

Цудоўны скарб у творчасьці народнай
для нас сабраны мудрымі ѕядамі.
Яго адкінуць—значыць без пашаны
паставіцца да продкаў працавітых.

Матэматык

Пара адмовіцца табе ад баек,
ад гэтай дробна-буржуазнай твані.
Павінны мы тварыць на грунце новым
сучаснае мастацтва для працоўных.

Лірык

Тварыць зусім нанова, ці узяўшы
што кольвек і ад даўніх дасягненьняў?

Матэматык

Няма памылкі у маім сьцьвярджэньні!
Пра спадчыну культуры буржуазнай
даволі сказана і зразумела.
Але якое маюць дачыненьне
да гэтай спадчыны твае ўсе казкі—
ня ведаю і, больш таго, не разумею...

Лірык

Усё, што створана вяльможным панствам,
што створана культурай буржуазнай
ты дазваляеш карыстаць поэту?
А тое, што тварыў народ пакутны,
тварыў у полі пры цяжкой рабоце,
калі на гэтых творцаў буржуазных
ён ліў свой пот і сваю кроў, народ наш,—
ты адкідаеш словам рызыкоўным?!
Які страшэнны нонсэнс і абраза!

Матэматык

Дарэмна ты пакрыўдзіўся на праўду.
Табе даволі поркацца ў старызьне!
У нашы дні руін і будаўніцтва,
і электрычнасьці і фізкультуры,—
ты мусіш ведаць гэтыя законы,
няўхільныя, як заўтра і сягоньня.

Лірык

Ты можаш лаяцца усім, чым хочаш,
але майго ня зьменіш прананьня.
Ня веру я, што панская выгадка
перад сярмяжнай мае перавагу.
Пакуль ня маем мы уласных скарбаў,
павінны выбраць вартае увагі.
Мая увага выбірае тое,
што створана працоўнаю сям'ёю.

Матэматык

З тваёй упартасьці сьмяяцца трэба.
У гэтым бачу вынік шовінізму
і бачу тормаз разьвіцьця культуры.

Лірык

Ты уважаеш, што культура ходзіць
у портках ката слаўнае Комуны
Парыскае, у портках Галіфэ?
Або у марынарцы ходзіць Фрэнча,
другога ката, ката нашых дзён?
Ня веру я у гэткія акрасы:
я ненавіджу іх, змагацца буду!
І у імя змаганьня з рознай тваньню
вось гэтае шляхэтнае культуры—
я лепш вазьму акрасы Беларусі...

Матэматык

Пакінем лепш! А то далёка вельмі
закоцімся мы з гутаркаю гэтай!
Ня згодзен я з табой, а ты са мной,
заўсёды супроць буду я...

Лірык

А шкода!
Каб ты ня пырскаў так на нашу творчасьць,
сказаў-бы шмат прыгожага табе.
На стромкую гару цябе узьвёў-бы,
адтуль ты ўбачыў-бы зіхценьне пэрлаў,
праменьне самацьветаў нязьлічоных
і глыбіню народнае душы.
Ты пагля́дзеў-бы на зіхценьне гэна,
ты, як Тамаш няверны, дакрануўся-б
да гэных скарбаў—так яны рэальны.
Але дарэмна гавару з табою...
Пазнаў ты „двойчы два“ і тым здаволен.
Вітаю вас!

Матэматык

Чаго ты расхадзіўся?
Хіба пазбаўлен я правоў звычайных
і выказаць ня волен думкі сьмелай?
Як птушка вольная, я узьлятаю
у будучыну крозаю сваёю!
Сядзі з сваім брасьнелым барахлом,
з сваімі скарбамі тых самацьветаў:
ад іх ня горача, ня зімна мне.
Ты разумееш? Я бяз іх шчасьлівы!
Карысьці з іх ня бачу. Вось як!

Л і р ы к

Вось як?

Хацеў бы расказаць табе я казку,
але і сам ня ведаю, як лепей...
Бо вельмі добрую згадаў я казку,
яна як раз да гэтага выпадку.

М а т э м а т ы к

Усё ў цябе будуецца з выпадкаў.
Выпадкі—проста нейкая хвароба.
Імкніся лепш конкрэтнае суладзіць,
бо на выпадках будучына вяне...

Л і р ы к

Ды ты паслухай лепш, пасьля сварыся!
Магчыма так, але усё-ж ваструся
я расказаць пра дзіўнае здарэньне.
Калі зусім не да спадобы будзе—
прашу спыніць тады сваёй развагай.—

Народнае апавяданьне пра тое, як адзін Крыкса скардзіўся на крыўду

Залатая апаяска,
ў апаясцы пэрлы, лалы...
У страёх прыгожых казка
ходзіць, грае у цымбалы.

Хто вясёлы—смуткам дорыць,
хто ў тузе—надорыць ласкай.
І сьмяецца, і гаворыць
у страёх прыгожых казка.

Самацьветы ў ночы сьвецяць,
сьцежка выткана праменьнем.
Нехта сочыць праўду ў сьвеце,
каб увіць у лятуценьні...

Ён прайшоў краін ня мала,
ён, Цікавы, к сонцу крочыць.
Казка грае у цымбалы,
разганяе цемру ночы.

Вось ідзе праз лес Цікавы,
чуе зьнекуль немы лямант.
Ці то зьлева, ці то справа
хата высіцца за брамай.

Падыходзіць.—Тая хата
як стадола ці казарма.
Нехта ў ёй крычыць заўзята,
па усім відаць, што дарма.—

— Ой, ратуйце, людцы, цесна!
Ой, ратуйце, гвалт, загіну!
Узышоў Цікавы з весьніц,
глянуў скоса на хаціну.

Што за ліха! гэткі скогат —
адзін Крыкса толькі справіў.
Мабыць вые з-за нічога.
Дай-жа раду ў гэткай справе!

Цікавы

Слухай, Крыкса! Хто парушыў
твой спакой і тваё права?
Ці якія, скажам, душы,
ці які прывід крывавы?

Крыкса

Ой, ратуйце, цесна вельмі!
Дайце ўзьлёту і прасторы!

Цікавы

Як язык твой толькі меліць,—
бедны Крыкса! Вось дык гора!

Ты братоў усіх распудзіў
гартаваным скавытаньнем.
На цябе сьмяюцца людзі,
што рабіцьмеш, вось пытаньне!

Зарасьце травой дварышча
і дарога баравая.
Хочаш—плачаш, хочаш—сьвішчаш,
табе й хату даравалі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Няспыняная зявайла
усё скардзіцца, што цесна.
Плюнуў і пайшоў памалу
наш Цікавы з гэных весьніц.

Ліха ведае,—гаворыць,—
сьвет такі шырокі здэцца,
а вось на—няма прасторы
і няма дзе Крыксам дзецца...

Зноў праз лес ідзе Цікавы,
'шчэ лунае немы лямант.
Ці то зьлева, ці то справа
замест гэнай хаты—пляма.

Наш Цікавы к сонцу крочыць,
яшчэ трэ' ісьці ня мала...
Разганяе цемру ночы
казка, граючы ў цымбалы.

Самацьветы ў ночы сьвецяць,—
сьцежка выткана праменьнем.
Ён шукае праўды ў сьвеце,
каб увіць у лятуценьні...

Хто шукае—той знаходзіць,
хто пытае—той ня блудзіць,—
так суладана ў народзе,
навучаюцца так людзі.

І пра гэта ўсё гаворыць
у страёх прыгожых казка.
Хто вясёлы—смуткам дорыць,
хто ў тузе- надорыць ласкай.

У страёх прыгожых казка
ходзіць, грае у цымбалы.
Залатая апаяска,
ў апаясцы пэрлы, лалы...

Матэматык

Каго і што ты маеш на увазе
у гэтай казцы? Можа мне адкажаш?
Занадта рызыкоўна ты ўзяўся
каля мяне са скарбамі сваімі!
Ці не стварыў ты часам сам яе,
пасьля каб спэкульнуць „народнай“ назвай?

Лірык

Вазьмі, на ласку, зборнік нашых казак,
сабраны слаўным дзедам Сержпутоўскім,
і ў гэтым зборніку адразу знойдзеш
ты гэту казку, ясную, як зоры.
Каго народ у казцы тэй выводзіць,—
ня ведаю, бадай усіх патроху.
Калі удасца быць мне на Палесьсі—
я запытаюся і напішу.

Матэматык

Якую цноту ты тут прадстаўляеш!
Знайшоў сабе і абарону нават:
„у Сержпутоўскага чытай“! І Шэйна
за хвост прыцягнеш... Кінь такія жарты!
Яны, напэўна, шкодзіць нейк могуць.

Лірык

І сам ня ўцяміў добра, а гаворыш.
„Яны нам шкодзіць могуць“! Чым-жа шкодзіць?
Якая шкода можа з іх адбыцца?

Узяў ты моду гаварыць насупраць,
як той казаў—„дуду ты як надзьмеш,
яна іграе гэтак“..

Матэматык

На табе!
Ужо дуда якаясь выплывае!
А зараз ракам пойдуць дударцы...
Няма чаго казаць—удаўся лірык!

Лірык

Табе бяда вялікая! Хай ходзяць!
А зрэшты чым-жа дрэнна, што ў народзе
ёсьць прыказкі на розныя здарэньні?
Вазьмі дай запытаньне мне на спробу,
і я знайду ў адказ апавяданьне.

Матэматык

Ты хочаш ухіліцца ад адказу,
схаваўшыся за прыказкі і байкі?
Замест таго, каб высьвятліць пытаньне,
ты нейкую заводзіш „Віктарыну?!“
Ну што-ж... Падобна гэта на задачу—
плюс-мінус, ігрэк-ікс і ўсё такое...
Магу табе прапанаваць пытаньне:
няхай сабе жыве і „Віктарына“...

Лірык

Калі не „Віктарына“, дык „Віктося“.
У кожным разе—клічнік з запытаньнем.

Матэматык

Скажы ты мне... Пра што-б тут запытацца?
Пра сьмешнае ня варта мабыць сёньня.
Ізноў ты пусьціш нешта з падкавыркай.
Скажы ты лепш пра сьлёзы. Плакаць можна
і сьмяючыся нават...

Лірык

Сьлёзы, сьлёзы...
Ліецца многа вас на сьвеце нашым,
і днём, і ўночы, і у шэрым змроку.
Ліецца з воч і чорных і блакітных...
Вы глыбінёй мінулі акіяны,
вы палкасьцю мінулі сонца-косы,
цяжэй саміх сябе вы незраўнана...

Каб вас зьяднаць калі, сусьвету сьлёзы,
дык на зямлі патоп другі пачаўся-б.
У глыбіні і горкай і празрыстай
вы утапілі-б, сьлёзы, назаўсёды
усіх прахвостаў, зьдзірцаў, ашуканцаў,
накрыўшы іх і горам і нядоляй...
Сваёю палкасьцю, сваёй нялюдзкай
вы растапілі-б лёд на канцавосьсях,
лядоўню гэту нашага сусьвету...
Каменныя вы сэрцы растапілі-б
у катаў прошлых, ёсьцьных і наступных
сваёю палкасьцю, сваёю нялюдзкай...
Каб вас зьяднаць калі... О, сьлёзы, сьлёзы...
Ліецца многа вас на сьвеце нашым
і днём, і ўночы, і у шэрым змроку.
Сабраць у акіяны вас ня ўдасца,
ня ўдасца змыць усю брыду ад сэрцаў,
якая ў сэрцы пала на Палесьсі...
Дык ты прасіў сказаць табе пра сьлёзы?
Табе пра сьлёзы зараз раскажу я!—

Народнае апавяданьне пра сьлёзы.

У аднэй на сьвеце маці
узяла дачка памерла.
Сьлёз у маці—ня стрымаці,
сьлёзы буйныя, як пэрлы.

Гора матчына цяжкое,
не ўтамуецца спагадай.
Не знаходзіць супакою,
пахаваўшы сваю радасьць.

Прабавалі ўсьцішыць людзі:
хіба плачам вернеш страту?
Жаль вялікі сьцісьне грудзі,
Сьцісьне сэрца ён, праклятуы...

Нясьціханна плача маці
па сваёй дачцы памерлай.
Сьлёз у маці—ня стрымаці,
сьлёзы буйныя, як пэрлы.

Так было, пакуль аднойчы
сон ня сьніла маці тая.
..І у змроку, і у ночы
сны ў павекі прылятаюць.

Нешта думаў, нешта сьніцца,—
застаецца праўды зерне.
Зашуміць крылом дзяньніца,
да сапраўднасьці нас верне...

Сьніцца сон старой, што быццам
у царкве на „ўсе сьвятыя“
давялося ёй маліцца
перад вобразам Марыі.

І маліла і прасіла
маляваныя фігуры,
каб жывым давалі сілы,
а хаўтуршчыкам хаўтуры.

Покуль так складала хвалы,
ноч прасьцерлася над сьветам.
У царкве заначавала
гарацешная кабета.

А паўночы давялося
бачыць розныя дзівосы.
Стала-б кратацца валосьсе,
каб ня скручаныя косы.—

Здань іḍе, за ёй другая,
ня зьлічыць і не аглеḍець...
Тут прыблудная, чужая,
тут і блізкія, сусеḍі.—

Вось іḍе адкрыты чэрап,
ён мазгі нясе ў портфэлі.
Свае іклы злосна шчэрыць,
каб яму „асанну“ пелі...

Пятушок бачком кульгае
на высокіх на абцасах.
Вельмі подленька сьпявае;
кішкі з-заду, быццам пасак...

У гарсэце з парцаляны,
праз якую каву гонім,
проста з долу адкапаны
з „вуткай“ пхнецца штатс-псэўдонім...

Каранастая гарыла
у манішцы прасаванай
на хаду галіла рыла
і фокстроцік танцавала...

Ліха матары! і тота
увіхаецца ля жмуры,
быццам п‘яны каля плоту
вычварае шуры-муры.

Еḍе на байкушы ляпа,
штось раве у голас немы.
Вецер сьвішча цераз храпы,—
вывучай, лінгвіст, фонэмы!..

Далей—п‘яная капэля
еḍе, смаліць нешта ў гусьлі.
На сабе вязе, аж млее,
іх таркан наḍьмуўшы вусы.

Колькі ўсіх яшчэ было там,
дык дакладна і ня ўспомніш:
зварушылася балота,
выплюнула твань сягоньня.

Гарацешная старая
на‘т забылася пра гора:
на пачвар тых пазірае,
каб ня ўрок яе каторы.

Але вось пайшлі і душы
больш знаёмыя, суседзі...
Ня відаць усё дачушкі,
затрымалі, мабыць, недзе...

А тым часам бязупынна
праз царкву шнуруюць душы.
Ўрэшце—вось яна, дзяўчына,
белы кужаль апрануўшы.

Маці стала нярухома.
Вусны сьцяты. Што-ж ня клічуць?
Вочы кволяць стан знаёмы
і знаёмае аблічча.

А дачка, маўляў, нямая
і прымружаны павекі.
На сьпіне яна трымае
вялічэзны цэбар нейкі.

Маці

За чые грахі цяжкія
ты пакутуеш па сьмерці?
Ці знайшлі іх людзі злыя
ў тваім шчырым, чыстым сэрцы?

А ці-ж я сьлязьмі ня мыла
на зямлі твае сьлядочкі?
Ці-ж я бога не маліла,
цябе выправіўшы ў прочкі?

Хто, ня маючы сумленьня,
даў табе цяжар вялікі,
аж дрыжаць твае калені...
Як яго, злачынца, клікаць?

Дачка

Гэта, маці мая, маці,—
сьлёзы ўсе твае сабраны.
Іх вартую, як багацьце.
Плач яшчэ... Бывай... Дабранач...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сон як пяруном спаліла,
толькі крыльле завілося.
Па сваёй дачушцы мілай
маці болей не галосіць.

Матэматык

Дык вось табе і сьлёзы! Дружа любы!
Каб ты узяў другую форму толькі—
пацалаваў бы я цябе за тэму...
Якая думка, ах, якая думка!
І як жа сапсавана чартаўшчынай!
Вазьмі прыдумай ты для гэтай думкі
сучасную і блізкую нам форму...

Лірык

Прыдумаю, як буду мець магчымасьць.
Цяпер мне сумна стала, вельмі сумна,
як быццам сам навекі нешта страціў...

Матэматык

Адкінь ты сум, якую маеш страту!
Глядзі, каб некаму, як сьлёзы ў сьне,
твой сум ня стаў прызначанай пакутай.
Падумай толькі добра... Ты ня чуеш?
Чаго глядзіш так пільна ты на Захад?
Ці сонца вокам думаеш спыніць?
Яно з-за лесу водблескам крывавым
варожыць новы дзень, дзівосны дзень,
такі-ж трывожны для цябе, як сёньня.

Лірык

Угледзься, браце мой, у сьлед яго,
навокал глянь... Што дзеецца навокал!..
Здаецца мне—над лесам праплываюць
у край нязнаны ціха караблі.
І пурпуровых ветразей узьвівы—
то дух тужлівы ўкрыжаваны мой,
тужлівы дух і жальба...

Матэматык

Годзе, годзе!
Жані тугу на шчырыя бары,
а калі ў ветразі ўвайшла—дык добра:
ня вернуцца ніколі караблі.
Бяры ты прыклад з аўтара, з Дубоўкі,
паслухай, што казаў ён перад намі:
які запал, які настрой бадзёры.
Адкуль ты толькі смутак свой зьбіраеш?

Лірык

Я слухаў аўтараву ўсю прадмову:
з табою разам вышлі мы на сцэну.
Прадмовай гэнай аўтар даў настрой мне.
Чаго-ж яшчэ ты хочаш?

Матэматык

Ты жартуеш?!
Узяў ты, кажаш, свой настрой з прадмовы?
Ну, гэта сьвінства, так хлусіць нахальна!

Лірык

Давай да аўтара мы пойдзем лепш
і спрэчку нашу вырашым супольна.

Матэматык

А пурпуровых ветразей узьвівы
ці прынясуць нас да яго ізноў?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дубоўка

Пашлі шукаць мяне мае гэроі...
Хіба пра іх я дрэнна клапаціўся?--
Злажыў для іх ад вывіхаў замову,
за ўзор народную замову ўзяўшы...
Яны адін другога вінавацяць,
прычыны нейкія зьявіліся адразу...
І кожны з іх сябе праўдзівым лічыць
у гэтай спрэчцы, можа і цікавай!
Чакаць? Мірыць? Ня буду лепш займацца,
а то мае уласныя гэроі
мяне самога ў нечым зьвінавацяць.
Няхай ідуць да чытачоў гавораць,
супольна з імі вырашаюць крыўды...
Няхай нясе іх творчае гарэньне
і пурпуровых ветразей узьвівы...

**31/I—29, Масква**

**Лукаш Калюга**

# Трахім—штучны чалавек

Гэта й праўда, што штучны чалавек. Ці добра ён гаворыць, ці на глум, а ўсё здэцца, што штукуе. Людзям раіць, што як рабіць, а таго ня толькі рабіць, але й слухаць няма чаго. Толькі ніхто з нашых людзей ня бачыў, каб ён сам сабе добрую параду даў ды каб сам сябе й паслухаў—зрабіў так лёгка, як лёгка языком брахануць.

Усяго раз і было такое здарэньне, што Трахім паквапіўся на сабе практыку зьняць, ці добра будзе тое, што людзям раіў.

Усё лаганіў, па сяле ходзячы, што як работа робіцца ў чалавека, дык і яда тады есца. Ці ты яму смачнага дай, ці ня смачнага—не разьбіраецца чалавек, калі добра напрацуецца. Яму тады абы міску вялікую пад нос паставіў, абы ў місцы было многа, каб было на што расчыняцца. Хоць камень дай працавітаму чалавеку. Калі, не аглядзеўшыся, глынуў яго замест скваркі, дык і толькі таго. Стравіць і жывата ня прыпсуе. Ён зьесьць тое, што сабак трое. А адзін сабака паўздохлага цяляці можа асіліць.

Але-ж у гэтай Трахімавай мове нічога новага. І без яго гэта ўсякі ведаў.

Ды не аднаго працавітага чалавека ведае Трахім. Гультай, што толькі каля вуглоў ціцюляе, ці ня дзядзька яго прыходзіцца. Ведае ён, як і таму жывецца. Гэты, кажа, чалавек ня жыве, а сохне. Ён, і за стол сеўшы, пераборлівы і не варушкі надта, зьесьць тое, што адзін абскубены верабей. Гэтакія людзі й шукаюць сабе лёгкага хлеба. Тут і дзіва з іх няма. Хоць дарагі лёгкі хлеб, але колькі ім трэба. Гэта каб працавіты чалавек выстараўся сабе лёгкага смачнага хлеба, дык на адну кішку мала было й вунь якой пэнсіі: гэта—ня тое, што гаршчок картоплі ўвавіць аднаму.

Чорт ведама што-б зьеў працавіты вясковы чалавек, каб ня была капейка патрэбна.

Трахім, як чалавек разумнейшы за іх абодвых, паглядзеў і на працавітага чалавека і на гультайскага. Падумаў, як ім жыць даводзіцца. Падумаў і дадумаўся, што работу рабіць няма ніякага сходу. Трахім так усё людзям напроціў гаварыў, а гэты раз сказаў, што іх прыказка да праўды ўходзіць. Людзі кажуць: работа дурня любіць, а дурань раработу. Так яно й ёсьць.

Ды ня толькі да гэтага Трахім дадумаўся, што ўжо даўно ўсе людзі ведалі. Ён толькі сам праз сябе дазнаўся, як чалавеку на сьвеце жыць. Трэба работу ад першага дня кідаць рабіць і памаленьку патроху адвыкаць есьці. Што-ж чалавеку інакшае трэба, калі не яда й адзежа. Дзеля чаго чалавек працуе так цяжка, калі ня для таго, каб

кішку напхаць і сякую-такую рызу налажыць на сябе ад холаду й ад людзей. Есьці, Трахім дазнаўся, што льга адвыкнуць. А калі работы не рабіць, ніде не хадіць, а толькі ў цёплым месцы ляжаць не варушачыся, калі ў два месяцы раз перакаціцца з аднаго боку на другі ды, гаворачы (калі хто нагодіцца), рукамі нічога не паказваць, дык і адежа ня буде насіцца.

Раіў Трахім людям гэта сваё перакананьне ад шчырага сэрца, а яны ўсё думалі, што штукуе. Што-ж ты зробіш, калі такі штучны ён чалавек удаўся—няма ніякай паверкі. Дармо што мядьведя ўсе за разумнага зьвера маюць (соннага ды мяртвага не кране чалавека), дармо, што й ён так робіць, а потым баркаўчаньне Трахіму не паверылі, што чалавеку так жыць добра-б было.

Нямавернікі нашы люді.

Ды Трахім ня раіць як раз гэтак сама рабіць, як мядьведь. Мядьведь на́ зіму кладецца ў лагво ды бярэ лапу ссаць. Трахім-жа раіць, як толькі згоніць з поля сьнег і аж да вялікіх маразоў, класьціся людям у ложак. Тады самая работа, сама што адежа носіцца. Ды тады ня толькі ў ложку ляжаць льга буде. Можна де ў халодную будыніну зайці і там сабе добрае ціхае месца выбраць. Зімою-ж мусіш устаць, як мароз прыскічыць. Якое там чорта лежыва, калі трэба коўдраю накрывацца, а па коўдры кажухом ды 'шчэ папраўляць яго на сабе, як де крыху зьеде. Ужо работа хоць не вялікая робіцца, адежа хоць незапаметна, але дярэцца—а зараз і есьці гатова захацецца—от тады прапаў за адін раз увесь шчыры пост.

Ведаеце—многа халадней у нашым краі стала, як сельсавет стаў дровы назначаць людям. З розумам даюцца дровы. Сельсавет глядіць, каб люді не спрацаваліся надта. Тыя гады 'шчэ малацьба ёсьць у людей, а ўжо кінуць усё ды ў лес едуць. Цяпер лепей: дадуць дроў пад вялікдень, як ужо ў самага хітрага багатыра, што і сам усяе работы ня можа парабіць і наймітоў наняць баіцца, каб у кулакі не запісалі, на падатак процантаў не накінулі, і ў таго малацьбы й почату няма. Пакуль сьсячэш, дык тымчасам і паводка пойде. Калі дровы де ў балоце якім, дык возьмеш сабе човен ды вытралюеш на сухое, каб аб'ежчыку прыступней было адбіць, ды каб тады ўправіцца да тэрміну вывезьці з лесу, і ня трэ' было пісаць заяў, з-пад лясьніцтва сваіх дроў варочаць. Потым пойдуць люді на поле—і ты ўсьлед за другімі выедеш з сявенькаю. Уперамежку работу робіш. Да паўдня воз дроў з лесу прывязеш, а з паўдня каня ў барану запрагаеш. Хараство! І за возам пройдешся і за бараною прабяжышся, ад меж адбаронваючы, калі на скібу чужога поля сквапен.

От тут, у гэтым месцы, я ў адно слова з Трахімам гавару. І ён хваліць такую работу. Сама-ж больш Трахім хваліць людей, што самі ўмеюць у лясьніцтва заявы пісаць. З самай восені, як пачнуць гэтыя люді назад сьпісы варочаць, де былі дровы запісаны каму даць, дык сяк-так пад вялікдень утаймуюцца. Ато канца-краю няма на іх заявы.

Ďіва, што Трахім зіму пралежваць ня раіць. Няма ďіва, і што ён дома ніколі не распратваецца.

Усё штукуе Трахім. А раз вымкнуўся ды і ўляцеў з сваімі жартамі. Якраз яго на тое й павяло, каб, што з таго выйďе, папробаваць.

Быў раз надта з жонкаю пасварыўся.

Усё яна ўпікала, што людзі аднэю картопляю ўсю зіму абыходзяцца, а хлеб на вясну пакідаюць—як пойдуць на поле, дык трэба-ж што смачнейшае, лепшае зьесьці. А ў іх гэтай ашчаднасьці няма: адзін хлеб цяпер жаруць, а на вясну нічога не астанецца—ні хлеба, ні картоплі: хлеб самі ўпатрэбяць, а картоплю сьвіньнямі скормяць.

У такую вялікую спрэчку зайшлі былі, што траха ўзалабкі не спляліся.

Трахім ніколі-ж нічога сваёй жонцы не хваліўся. Гадкі жаночы звычай яна мае. Калі верыць, што праўда буďе што-небудзь, дык знарок буďе гаварыць наперакор, каб яшчэ больш пачуць, што так яно й мае быць, каб самой яшчэ лепш паверыць. Трахіму, мужыку свайму, яна бывае што й верыць, а наперакор гаворыць:

— Ат! Што ты здумаў, стары!? Ďе гэта відана, каб так і было, як ты кажаш?!

Калі-ж бывае і ўвалжэцца Трахім, дык і тады яму жонка злажыцца ня дасьць.

— А йдзі ты!—кажа.

Толькі ўсяго што гэты раз ня так ласкава ганіць яго мову, як той раз, калі міла слухаць было.

Ужо Трахім і пераканаўся, што нямаверніца жонка. Дабра яна яму ня мысьліць. Ніводнага слова не перапусьціць. Сам-на-сам яны ўдваіх ніколі ад шчырага сэрца не пагавораць. Ужо *як* бывае Трахіму драчыць язык, а слова да яе не прагаворыць, бо яму абы пачаць, а тады ўжо ўсёроўна ўгаворыцца—усё што ведае раскажа. Трахім адваротны чалавек: ён што далей жыве, дык таго не забываецца, што ўмеў, а што больш жыве, дык усё да лепшых (ці то горшых—хто яго разьбярэ) баек дадумляецца.

Яму як прыпрэ ахвота з добрымі людзьмі пагаварыць, дык апранецца й пойďе з хаты. От чаму ён і звык па сяле валачыцца; як з аднаго канца ў другі йďе—дадому не заходзіць. Бяда чалавека прымусіла свае хаты цурацца. Нядоля наўчыла па людзях хадзіць.

Цярпеў бывала. Лішняга слова баяўся да жонкі прагаварыць. А гэты раз пад злосьць ўзяў і вымкнуўся:

— Чорт-жа цябе й бяры, калі гэтак, калі табе шкода, што я часчасом скібачку хлеба зжую. Чорт твой хлеб буďе есьці! Але-ж—трасцу я табе буду й работу рабіць.

— Калі-ж можна-б было й прыдзержыцца. А калі ты на задзёр,—і ня еж. Чорт ад цябе буďе й работы дахоďіць.

— І начорта мне твая яда. Пражыву й так.

— І жыві. Я табе, як добраму... А калі ты на задёр—трасцу: не пападеш-жа ты ў мяне нічога.

Трахіміха ў сваёй хаце моцная пані. Яна дома ўсю работу робіць, яна й парадкуецца, яе й слухаюць. А Трахім—чалавек валачашчы. Яго й дзеці, як малыя былі, мала зналі. Хто яго ведае, ці гэта тата іх, ці так які чужы чалавек ходзіць да мамы, як толькі есьці пара, а як пад'есьць, ізноў за парог уцякае. Спаць, яны ні разу ня бачылі, калі прыходзіў, і ні разу яго на ложку сплючы не засталі.

Трахіміхі лепей дзеці слухаюць, бо пры ёй гадаваліся. Яна, што сказала, тое й зрабіла. Усё з стала прыняла: і лыжкі, і міскі й хлеб. У пасьценны шкапчык схавала, замкнула, а ключ сабе ў кішэню ў хвартух палажыла.

— Паглядзім: хто каму сагрозіць.

І Трахім гэтак сама ўпарты:

— Будзем бачыць.

Добра ўзлаваўся ён.

Лёг на свой ложак і на хату плячыма адвярнуўся. Так пад паўдня сонца бралася, як ён лёг. Зараз жонка паклікала дачок (у іх сыноў няма). Селі за стол. Уліла ім Трахіміха аднае стравы міску (капусты, здэцца, ці то буракоў) — зьелі. Другую поўную паставіла на стол (ні то куцьця там была, ні то крупнік—нешта забеленае)—і гэту спаражнілі. На гэтым і годзе—пад'елі. Трахім усё ляжыць. Хочацца й яму. Сьліны повен рот нацякло. Глытае ён яе ціханька й цярпіць. Гэта ўсё што ня прывычан, што першы раз. А далей:

„Ацярплюся,—сабе думае,—і хацецца ня будзе".

Меншая дачка, што ў хаце ня была, сваркі ня чула, хацела была спагадаць па бацьку.

— Ідзеце-ж і вы, татка!—пазвала.

Трахім нічога на яе словы не адказаў, а Трахіміха пасварылася:

— Даміцэля! Нашто ён табе? Надта ты ўпраўная — усюды язык уткнеш. Спагадаеш. Хай от ляжыць (хоць ён ня ўстане!).

— І ня ўстану,—аказаўся Трахім.

— І прасіць ня будзем. Будзем бачыць, да чаго далежышся.

Так і не пашоў Трахім палуднаваць.

А зараз сон яго змарыў. Прачнуўся аж тады, як сядзелі за сталом, вячэралі. Спаў на хату вачыма абярнуўшыся, дык толькі пралупіў вочы, паглядзеў ды зноў заплюшчыў. І духу не ўказаў, пакуль не павячэралі. Дочкі ня раз цікавалі на яго, і бацькі не запамецілі, што ня сьпіць, а слухае ўтаіўшыся, што на хаце будзе рабіцца, што будзе гаварыцца пра яго. Вельмі-ж хацелася Трахіму гэта на свае вушы пачуць. Ужо як яму добра-б было сербануць цёплай толькі што зваранай заціркі, а патом уцерпіў і носам ні разу ня чмыхнуў, каб хоць пах яе залавіць. Хацелася было ведаць, хваліць ці ганіць будуць яго пакуту.

Тады, як паў быў абуўшыся й апрануўшыся, сырамятнаю папругаю падпяразаны, дык першы ȝень Трахім і праспаў. А ўвечары так, бяз сну, лежачы сталі бакі паболеваць. Надумаўся, што калі ўсяе зімы пралежыць нельга, дык месяц яшчэ можна сяк-так пракачацца, калі чым найболей спаць. Паляжаў трохі—новае надумаў: што гэта ад таго, што шмат аȝежы наȝета, і ў бакі муляе, і нямаверныя думкі просяцца ў галаву.

Узяў падлягчыўся: сеў на ложку—сьцягнуў боты, раскруціў анучы, расьперазаўся, распрануўся ды зноў лёг. Ужо лёг не на сьмех—коўдраю накрыўся. Дармо, што коўдра падшываная, а холадна пад аднэю ёю. Кажухом яшчэ ўвярцеўся па версе.

Ужо й сон ад Трахіма ўцёк. Як ня мэȝіўся ён, каб і лепей легчы і мацней вочы заплюшчыць, не бярэ.

Адумаўся, што гэта затым, што не разьȝеты лёг—лішняя аȝежа муляе, і сон ня прыстае. Зноў устаў. Скінуў з сябе верхнюю аȝежу, пад галовы сабе палажыў. У адным ісподнім пад коўдру палез. Паправіў кажух на версе.

Аж палягчэла чалавеку, як сьцішыўся. Усяго бяда, што мала помачы ад усяе яго турбацыі: сну як ня было, так і няма. Аж покуль на ȝень ня стала займацца, пракачаўся Трахім. А тады так моцна прыкархнуў, што й сьняданьне праспаў.

Есьці хочацца. Ня еўшы ня вытрываць. І ратунку брыдка прасіць.

Адумаўся, што й месяца не пралежыш, а пралежыў бы з тыдзень, каб ціхенька сабе хлеба прыкрадаў штоȝень хоць па такой лусьце, як пастуху ў торбу даць у поле.

Ляжыць Трахім.

У роце высахла, а ён і не зварухнецца.

Ляжыць і думу думае здрадніцкую:

„От каб крошачку... Каб хоць з лыжачку... Каб хоць крапельку—у роце прамачыць. Больш бы нічога не хацелася. Пакаштаваў бы й гоȝе сказаў“.

Якраз і з хаты ўсе вышлі. Ніхто ня ўбачыць, каб і ўзяў чаго.

Памаленьку адхінуў Трахім коўдру. Ціхенька на дыбачках, прыслухоўваючыся, каб хто не найшоў, падышоў ён к пасьценнаму шкапчыку паглядзець, ці ня льга буȝе як дастаць чаго.

Ды—дудкі. Замкнена, і ніȝе такоўскай шчыліны ня відаць, каб праз яе скібку хлеба выцягнуць. Нічога ня зробіш, ключа ня меўшы.

Гэтаксама падышоў Трахім і к печы. Адчыніў засланку, пагляȝеў, што там ёсьць. А што ў печы буȝе—адны гаршкі стаяць там. Жалезьнікаў і глінянікаў паўнюсенька.

Далікатненька паставіў Трахім засланку пры качарэжніку, каб ня стукнула, каб хто з двара не пачуў. Узяў вілкі. Выцягнуў самы большы гліняны гаршчок. Зьняў з яго гнушку. Пагляȝеў, дык там капуста.

А тлустая-ж яна, з баранінаю. Скалкі плаваюць па версе. Такая смачная, харошая—хоць ты яе нагбом напіся. Так Трахіму хочацца напіцца—проста ня вытрываць.

Няма лыжкі. Ніде міскі не знайці. Усё пазамыкана. Але калі чалавек у горы, дык ён бяз усякай выгады абыйдецца, і бяз лыжкі прымайструецца пад'есьці, калі голад прыскічыць. ! Трахім узяў кварту ля вядра з чыстаю вадою. Поўну начэрпаў капусты. Хоць ад кварты й горача ў рукі, але з рук яе не пушчае Трахім. Кепская іх кварта, гарачая. З медзі яна, салдаты ў вайну з знараду неяк вылілі ды Трахіму на памяць пакінулі.

Толькі калі стане з раніцы не шанцаваць чалавеку, дык не пашанцуе й пад вечар. Пакуль Трахім у кварце капусту студзіў, нехта ў сенцах скрыпнуў дзьвярыма. Не давялося яму, беднаму, і разу глынуць. А такая была на погляд капуста смачная, харошая, з бліскучымі скалкамі. Аж шкода...

Спалохаўся Трахім. Супэнду ўпусьціў кварту з капустаю вобземлю. Хапіў гнушку, каб накрыць гаршчок, ды й тае ў руках ня ўтрымаў. Упусьціў. Разьбіў аб прыпек.

Старасьць—ня радасьць. Возьмецца пажылы чалавек якую далікатную работу рабіць—рукі ў яго трасуцца. А як перапуд які, дык і саўсім тады ходарам заходзяць—ведама цапу-лапу... Гэта самае сталася й з Трахімам.

Добра толькі тое, што ён скора здагадацца можа. Прышло ў памяць яму, спалоханаму чалавеку, што льга й на ката віну злажыць. Ня было калі Трахіму меркаваць, добра гэта будзе ці блага. Хутчэй на свой ложак пабег, коўдраю ўкрыўся. Усяго бяда, што кажух вобземлю зваліўся, але не пара было падымаць. Нехта ў хату прышоў.

Сьцішыўся Трахім. Прыплюшчыў вочы. Дыхнуць моцна баіцца. Толькі вушы натапырыў, каб па голасе пазнаць, хто зайшоў у хату.

— Што гэта за рабункі?

Толькі пачуў Трахім голас, дык і сьмел стаў. Дачка Даміцэля яму не вялікі страх.

— Што тут было?—пытаецца яна другі раз.

Пасьмялеў Трахім. Даміцэля—дачка добрая. Яна бацьку спагадае. Просіць ён яе!

— Хадзі сюды, Даміцэлька!

— Гэты вы тут былі, татка?

— Я, Даміцэлька...

Больш Трахім ня можа гаварыць. Солана ў роце стала. Сьляза сьлязу пабіваючы, пацяклі раўчукі з вачэй.

Зблізку як паглядзела Даміцэля на Трахіма—шкода ёй бацькі стала. Давай яго цешыць:

— Дармо! Што-ж там такое, калі й вы.

— Даміцэлька! Ты-ж прымі там усё, скажы што—кот.

— Добра. Я прыму. Скажу, што—кот.

— Ну, гляді ж.

Не таго Трахім плача, чаго думала Даміцэля. Яна папрымала ўсё—і гаршчок на сваё даўнейшае месца паставіла, і печ засланіла, і хату ў тым месцы замяла, дзе наліта было, і кварту выпаласкала, выцерла скарачом—а ён усё не перасьціхае. Усхліпвае й усхліпвае. Надта-ж ужаліўся ён.

Ізноў падышла Даміцэля да бацькі.

— Чаго-ж вы, татка? Што вам баліць?

Дзе ён скажа, што баліць. Нічога ў яго не баліць. Гора ў чалавека, дык і плача. З тае прычыны йдуць сьлёзы з ачэй, што над сваім добрым волі ня мае, сваё добрае замыкаюць ад гаспадара. Дзе-ж ён гэта скажа?! Дачка цешыць, а Трахім і ня скардзіцца.

— Я так сабе. Што мне будзе балець?

— Дык ня плач-жа! Чаго-ж вы?

Трохі разважыла бацьку, ды пашла Даміцэля за парог. Яна з мацерaю й з меншаю сястрою цэпам малацілі гарох у таку. Ня было калі доўга ў хаце забаўляцца. Трэ' было глядзець работы.

Адумаўся Трахім. Адным плачам сам сабе ў горы не паможаш.

— Даміцэля!—паклікаў дачку.

Аж з двара мусіла яна вярнуцца ў хату.

— Што вам, татка?

— Дай ты мне, дачушка, хлеба з скібачку.

Даміцэля ведае дома ўсе ўходы. Выняла ключ з пячуркі. Адамкнула пасьценны шкапчык. Ня скібку, але дужаватую лусту ўкавяліла й дала Трахіму. А сама і нож на тым месцы, дзе брала, палажыла шкапчык замкнула і ключ у пячурку йзноў схавала.

Напрамілуй бог яе Трахім просіць:

— Гляді-ж, не кажы нікому нічога.

— Добра. Не скажу.

Пашла Даміцэля работу рабіць, а Трахім стаў хлеб есьці. Такі яму просты, ня сеяны хлеб смачны здаўся, што ніколі такога пірага на вялікдзень не каштаваў. І ў касьбу ня еў з такою ахвотаю. Цяпер Трахім і пераканаўся, што не ад аднэй работы есьці хочацца, а можа хочацца і ад лежні. Гэты раз яму ад лежні так захацелася, што ня вытрываць. Але Трахім не галодны. Ня душыцца ён хлебам, а толькі каштуе, толькі лепшую форму лусьце дае. Жуе і прыслухоўваецца, каб хаця смак быў у памяць, каб да сьмерці ведаць, які ён.

Як ня мэдзіўся ён з хлебам, але такі, пакуль жонка ў хату, зьеў усю лусту. Зьесьці хто чыста зьеў, але крошак ня ў голаве было пазьбіраць, не здаўмеўся іх далоў з падушкі стрэсьці. Па іх Трахіміха й пазнала, што ня шчырым постам посьціць ён, а загадзя прызапашаны хлеб ціхенька жвакуе, на ложку лежачы.

— От ты які галадамір! Работы рабіць не хачу, а есьці-есьць.

Калі ўспала яна на яго, калі раскрычалася, разьлякаталася. Ня так ёй таго хлеба шкода, але нашто-ж бо быў задзёр.

Ня вытрымаў такі Трахім жаночай зьвягі. Мусіў адзявацца, абувацца, апратвацца ды йці на сяло. Каб дома быць, трэ'было вушы затыкаць. Няма ведама, як ацерпіцца трэба чалавеку, каб жаночую зьвягу ціхенька слухаць. Спрыцен Трахім да гаворкі, а да сваркі ня варт. Ад першага слова спудлуе яго Трахіміха.

А ўсе кажуць на Трахіма, што валачашчы ён чалавек. Нехаця звалачэшся, калі дома у сваёй хаце, неспакой. Няма чаго ганіць Трахіма - благое яго жыцьцё. Здаўна звык свайго дому не пільнавацца. Цяпер дык, каб і хацеў, цяжка яму было б пакінуць сваю благую (ці то добрую—я ня ведаю) моду. Абы толькі пасьнедаў, дык і цягне схадзіць даведацца людзей, як яны жывуць, пачуць.

А таго самага дня, як кінуў жыць аб шчырым посьце, пашоў Трахім у Баркаўцы ды й давай расказаваць, як цыган сівую кабылу хацеў ад яды адучыць.

— Ваду,—казаў,—і сама, бэцю, кіне піць.

Яго й праўда была: ня даў есьці—кінула ваду піць. Але ад першага тыдню ў трэску высахла, як у хваробе якой паляжаўшы. Потым ня ўстала на ногі, а ў рэшце й саўсім іх выпрастала.

Было-б гэта самае й Трахіму. Толькі ён ня такі дурны, як тая сівая цыганская кабыла—як прыпёр голад, пашоў каля гаршкоў шнырыцца. Цяпер, пасьля таго, ходзіць па сяле ды сьмяецца з дурной цыганскай работы, з яго практыкаў.

Штукар наш Трахім. Змалку яго на ўсякія штукі здало. Бывае, што штукуючы сам сябе да жалю давядзе, але свае натуры не пакідае.

**Максім Лужанін**

# Два вершы

## Ростані

Аж апрыкрала: ростані й ростані!
Пад чыгунныя рытмы калёс,
ацярушаны суму пялёсткамі,
паравік яе з Менску павёз.

У каго-ж я цяпер запытаюся?
З кім умыюся жоўтай зарой?
Я ня ўмею ні плакаць, ні каяцца
за няпэўна пастаўлены крок.

Можа шчасьце балюча ударыла?
Можа дзён нам сваіх не падняць?
Я знаходу глыбіні над хмарамі,
і ў далінах мая вышыня!

Ты, як тая, што ўчора паехала,—
не магу ні кахаць, ні зласаць!
Найвялікшая ў сьвеце уцеха ёсьць—
гэта радасьць людзям раздаваць.

Толькі песьняй сваёю багаты я,
я сустрэну вялікі прыплыў,
бо ніякімі вуснаў стыгматамі
не загояцца раны зямлі.

Я ні з воднай ня быў яшчэ Каінам,
хоць ты едзеш пад жоўтай зарой.
Я ня ўмею ні плакаць, ні каяцца
за няпэўна пастаўлены крок!

## Песьня бадзёрасьці

Кветкі зьвіліся... Там рыцар у панцыры,
у дзіўным шаломе з зялёнымі пёрамі...
Хто разгадае, што думы сялянскія
заўжды ўбірае такімі уборамі?

Хочацца новага, хочацца блізкага!
Хочацца сьвет і жыцьцё перайначаваць!
Пэўна ня зблудзім мы, зоры нам бліскаюць,
зоры чырвоныя—нашыя, нашыя!

Праца краіне. Трывога пявучая
вечна ўздымацьме магутныя молаты.
Кветкі нясу я юнацтву бліскучаму,
каб не жабрачкай праходзіла моладасьць.

Вось чаму часта здаюся я схімнікам,
рыцарам думным з вясёлымі словамі,
з любай на конях праношуся зімнікам—
гэта ўсё моладасьць, моладасьць, моладасьць!

Будуць гадзіны развагі і сталасьці,
крокі ня страцяць напружнай упартасьці.
Толькі-б жыцьцё,—бо нічога ня мала нам—
сонца у сёньняшнім, сонца у заўтрашнім!

Што-ж заўгадзя убірацца маршчынамі!
З нуднае мудрасьці пазасыхаеце.
Тут-жа вясна... І такою дзяўчынаю!
Хлопцы! Музыкі! Чаго-ж вы сьціхаеце?

Скажаце лепей да часу састарыцца,
ў поле жыцьця падысьці неданоскамі?
Што мне казаць! Хай старэйшыя сварацца—
хочацца бросьні—ідзеце і бросьнейце!

Хопіць юнацтва. Сягоньня з вагзалу мы.
Роспач на ляды праводзілі з музыкай.
Сёньня й прыехалі, з поўначы дальняе,
ў сонечны сьвет, хоць вагончыкі вузкія.

Раз у жыцьці праяжджаць на дарэмшчыну,
пад скошаным вокам сівога кондуктара,
бо не заплаціш-жа песьняю грэшнаю,
песьня для сьвету—хістаньні індукцыі.

Выпішуць потым білеты і пашпарты,
рупнымі будзем усе грамадзянамі.
Мы ня укленчым ля згніўшае паперці,
сонцавы дзеці і сонцу адданыя.

Будуць гадзіны развагі і сталасьці,
крокі ня страцяць напружнай упартасьці.
Толькі-б жыцьцё,—бо нічога ня мала нам—
сонца у сёньняшнім, сонца у заўтрашнім!

**Ул. Жылка**

# Над калыскаю

Маё дзіця, маленькі мой...
Якое шчасьце—маці ты
Сьцяблінкі кволай і слабой
І воч нябескай яснаты.

Заводзіць, звозіць пачуцьцё
І лятуценьні завялі,
Нялёгка жыць, гняце жыцьцё,
Гняце і хіліць да зямлі.

Згрызотамі аб чорны хлеб,
І працай чорнай смычуць дні,
І на абліччы смутку крэп
Без глыбіні, без вышыні.

А я усьцяж пяю—дармо,
Па-за дзьвярыма сэрца—жах!
У паўнаце душы такая моц,
Мой сын—і зброя мне і сьцяг!

І хай ня раз, нібы штылет,
Пратне душу ці злосьць, ці ноч,—
Збавеньне мне ласкавы сьвет
Дзіцячых ціхіх, ясных воч!

Надзей нязьдзейсьненых з вякоў,
Усьмешлівых маіх часін,
Усіх уздыханьняў, гардых сноў
Вясёлы, гучны бераг—сын!

11–12—1928 г.

**Пятро Глебка**

# Эмігрантцы

Раскажы, каханая мая,
адчаго маркота на аблічча?
Мо' затым, што устрывожыў я
супакой твае сьвятліцы?

А ці думы вечныя прышлі
аб краіне, ворагам забранай?
Знаю—сьніцца зацьвітаньне ліп
у ружовы летні ранак.

Ї, здаецца, маці будзіць жаць,
але сон зацяў твае павекі.
Асыпаецца празрыстая імга
на твае абветраныя вейкі.

Ты ідзеш дарогаю адна,
углядаешся ў аддалі пільна:
галасы імкнуцца пераняць—
гэта водзыўкі з далёкай Вільні.

Каляровасьць познае вясны
упрыгожыла праменьнем ранак.
Знаю я, что сьняцца сны
аб краіне, ворагам забранай.

Аднаго ня ўмею разгадаць,
адчаго ты сумная такая:
а ці вецер дальні нагадаў,
што і ты далёкая, чужая?

А ці зірк мой, любая мая,
абудзіў трывогу на аблічча?
Адкажы—не патрывожу я
супакой твае сьвятліцы.

## Песьня каханьню

У подыхах ветру, у шэлестах траў,
у пасмах касы твае чорнай
жаданьне тваё прачытаў, разабраў
у сініх вачах, як вазёрных.

І песьні пакінуў, прышоў да цябе,
шукаю для сэрца прыстанку.
Якую-ж уцеху падорыш цяпер
за страты мае і за раны?

У згібах шалёных адчаянных рук,
у зьвівах крамянага цела
я ўсё для цябе і табе падару
за зірк хітраваты, нясьмелы.

Ты-ж бліжай туліся, мацней спавівай
рукамі, як поясам дзіўным,
і смутак і радасьць маю апявай,
як свой падарунак адзіны!

А. Мрый

# Рабін

Мне трэба было адпачыць ад тлуму і пылу нашага гораду, і я не паехаў ні ў Крым, ні на Каўказ, а параходам заехаў у м Гілёўку і спыніўся там ў заежным доме Гіршы Карасіка.

Я нічога раней ня ведаў пра гэтае мястэчка. Яно нічым не вызначалася ў нашай гісторыі. Я проста разглядаў карту населеных мясцоў па Сожы, і калі прачытаў назву Гілёўку, яна мне здалася месцам ціхім, маўклівым, дзе няма тлуму гарадкога, дзе чалавек яшчэ мала налажыў свае рукі на непакорную прыроду.

Прыехаўшы, такім чынам, у гэтае мястэчка, я ня вельмі шкадаваў на гэта, бо быў пад моцным уражаньнем толькі што закончанага вандраваньня.

Цэлы дзень я ехаў параходам, а дзень быў ціхі, сонечны, сіні і пахучы. Перада мною праносіліся прыгожыя дубовыя гаі, бярозавыя ляскі, сасновыя гушчары і бязьмежныя прасторы лугоў. Самае мястэчка яшчэ здалёку вабіла вока сваёю вежаю старой ратушы, зграбнымі мурамі двох касьцёлаў і кумпаламі двох цэркваў!

Заняўшы пакой, які адвёў мне гаспадар дому, я адчыніў вакно на вуліцу, і ціхі гоман кірмашу, які заціхаў, і вясёлай гульні яўрэйскай дятвы, парушыў маўклівасьць заежнага дому. З вакна разгортваўся перад вачмі вялікі кругавід, і я глядзеў на сінюю стужку Сожа і складаў у сваёй галаве плян, як у мяне пройдзе час тут, у гэтым мястэчку. Першым чынам, я, канешне, не застануся ў гэтым заежным доме, а знайду ціхую хатку ў садку над Сожам... Другія думкі ня йшлі ў галаву. Хацелася самых простых фізычных перажываньняў. Добра было-б асьвяжыцца ў хвалях Сожа, аддаць свае цела яго цёплым плыням, перажыць радасьць злучэньня з воднай стыхіяй!

Гэтае жаданьне было вельмі моцным. Я расчыніў портфэль, дастаў адтуль рушнік і накіраваўся на вуліцу. Але ў самых дзьвярах мне прышлося затрымацца. З другога пакою, як раз такога, які заняў я, выйшаў ня зусім звычайнага выгляду чалавек.

Гэта быў яўрэй гадоў за 40, з вельмі шырокай і доўгай, старэнна пешчанай чорнай барадой, з рэдкімі—сям-там сівымі валасінкамі. На ім быў старамодны сурдут, вельмі старэнна пачышчаны і зусім без плямаў. На галаве была нейкай асаблівай формы ярмолка. Вочы ў яго былі сьмелыя, рухавыя, з нейкай схаванай насьмешкай. Яўрэй зірнуў на рушнік у маіх руках і запытаўся.

— Купацца? Я таксама іду. Можа пойдзем разам?

— Не супярэчу!—адказаў я і першы выйшаў на вуліцу.

Праўду кажучы, мне хацелася пабыць аднаму, аднаму паляжаць на пяску пад цёплымі праменьнямі сонца і ціха заснуць пад рытмічны бег ракі, але я ня вельмі злаваў, што сустрэліся перашкоды майму жаданьню.

Мы некалькі хвілін ішлі моўчкі. Я думаў і хацеў здагадацца, што за чалавек іде са мною... Гандляр які-небудь? Не! Зусім не падобны да гандляра! Чысты сурдут, асьцярожныя рухі, рукамі не махае, іде кулацца, а гандляром усё жыцьцё „некалі" пачысьціцца, усё ганяюцца за грашыма! Хто-ж ён? Каб даведацца, я загаварыў:

— Вялікае ваша мястэчка?

— Ня ведаю! Яно зусім не маё. Я тутака першы раз і такі самы прыежджы, як і вы.

— Вы прыежджы? Якія-небудзь справы?

— Я—рабін!—зусім проста і як быццам з гонарам адказаў яўрэй.

— Рабін?—троху расчаравана перапытаў я і падумаў: „ну, канешне! і як сам я не здагадаўся пра гэта, а яшчэ вывучаю быт і соцыяльныя праслойкі!

— Так! Я рабін. Ужо больш тыдню жыву тут, і абрыдла мне гэтае мястэчка, ой як абрыдла! Толькі адін Сож і радуе.

— А што, пашаны мала?

— Ня ў тым справа! Я—рабін, якога ведае ўся Літва, уся Польшча, Аўстрыя і Нямеччына! Пашаны яшчэ хапае з мяне!.. Можа вы чулі пра рабіна Мардуховіча?

— Таго самага, што з пачаткам вайны...

— Але, але!—ня даў дагаварыць рабін:—я і ёсьць той самы Мардуховіч!

Мы падыйшлі да самага Сожу і, абраўшы выгоднае месца, пачалі распранацца.

— Чаму вам абрыдла мястэчка, і што вы робіце тут?—запытаў я, вельмі зацікаўлены.

Я ежджу па ўсіх мястэчках і вяду прапаганду за рэлігійнае ажыўленьне, вяду сярод яўрэяў дыспуты з бязбожнікамі...

— За гэта што-небудзь плацяць?

— Вядома! Хто ж паедзе так? Ды яшчэ такі вядомы чалавек, як я? Канешне, цяпер людзі не такія шчодрыя, як раней. Яны не даюць і пятай долі ад таго, што калісьці давалі. Цяпер грошай больш усяго шкадуюць, жыцьцё зноў пачалі страхаваць! А моладзь зусім адышла ад рэлігіі, ні шэлега гарэлага ад яе ня вырвеш, ды яшчэ бацькоў падгаварваюць... Але, як там ні ёсьць, а наша справа яшчэ моцная. Мне, напрыклад, ахвотна плацяць па 10 руб. за дзень.

— Праўда, па гэтым жыць можна!—сказаў я і ўсьміхнуўся, параўнаўшы свой заробак з рабінскім:—Праўда! Справа ваша яшчэ моцная, мацней, чым папоўская!

— Але слабей, чым ксяндзоўская! Толькі ўсё гэта мне абрыдла: і грошы іх, і пашана. Вельмі хочацца дамоў. Два месяцы ўжо разьяжджаю

і кожны дзень гавару, гавару, гавару. Рабін пагладзіў свой напукі лены жывот, пачухаў валасатыя грудзі, хвіліну памаўчаў і загаварыў:

— У мяне ёсьць жонка і яшчэ вельмі прыгожая жонка. Па праўдзе сказаць я надта занудзіўся па ёй. Цяжка мне кінуць яе адну на такі доўгі час і, ой, як страшна, а самому хоць прападай. Гэтыя два месяцы я сам ня свой. Усё думаю пра жонку, усё баюся за яе. А яшчэ трэба месяц валачыцца па гэтых мястэчках.

— Прыгожая жонка—турбота чалавеку! Але кажуць, што жонка рабіна, як і жонка цэзара павінны быць вышэй усякіх западозраньняў.

— Так было раней, а цяпер зусім ня так. Вы ведаеце, што сказаў адзін разумны чалавек пра жанчыну? Ён сказаў: „жанчына ў 20 год—дзікая, пустэльная Азія, у 30 год—гарачая Афрыка, у 35—палкая Эўропа, у 40 год—вольная Амэрыка і ў 50—закінутая Аўстралія.

— А ваша жонка да якой часткі сьвету належыць?

— Ёй 37 год. Кажуць, што ў гэты пэрыод у жанчыну ўлазіць нейкі д'ябал ды абудзае зьвера. Цяпер ні за кога нельга паручыцца. Вы кажаце, што жонку рабіна ніхто не зачэпіць. Як раз наадварот. Празмусьціць жонку духоўнай асобы—гэта так прынадна! Гэта самую рэлігію падрывае. Нават пачуцьцё граха ня можа спыніць чалавека. Ня было яшчэ выпадку, каб чалавек, якога захапіла каханьне, ці прасьцей кажучы—фізыолёгічнае імкненьне, спыняўся ці думаў аб грахоўнасьці. Чалавеку гэта і з галавы вон! Такая гарачая кроў запылае ў жылах, так усё нутро загарыцца, што ніякае пекла, ніякі сьмяртэльны агонь, ніякі суд божы не запалохаюць чалавека. Што будзе далей—няважна. Пасьля можна каяцца, але гэта позна ходзіць!

— Гэта праўда і ня зусім голая, як кажуць. Цяжка адзін раз перайсьці мяжу, а пасьля лёгка сходзіць у пекла! Альбо, як кажа народ, „усьцервіўся воўк жарабятак рэзаць!". Вы гэта так кажаце, як быццам часта перажывалі гэта пачуцьцё ўсемагутнага любоўнага інстынкту, які ня спыняецца ні перад чым. Ксяндзы, вядома, найбольш напрактыкаваныя ў гэтых грахох. Ды й папы ня ўпушчаюць моманту... А як рабіны?—запытаўся я.

Мардуховіч усьміхнуўся:

— Рабіны—не! Скажу вам, што я асабіста чужых жанчын нават мязінцам не зачапіў!

Я палез у ваду. За мной нясьмела, асьцярожна ступаючы, пасунуўся і рабін, але як вада дайшла да грудзей, ён спыніўся і пачаў, як дзіцёнак, пялескацца каля берагу. А я паплыў на другі бераг. Плывучы думаў пра сваю жонку, якая ня вельмі вернай мне была (як і я ёй). У гэтым годзе, мне здаецца, што яна належыць і другому чалавеку, таму, якога я паважаю, з якім я не магу парваць дачыненьняў, якому я шмат чым абавязан. Я не хачу разблытваць гэту гісторыю, не хачу і не магу кінуць жонкі. Яна ні ў чым мне не супярэчыць, яна вельмі ласкавая, у яе няма дзікунскіх фантазій, яна проста скарб для мяне. І я нават баюся калі-небудзь захапіць іх... Я думаю, што ў гэты час

там на дачы мая жонка не адна. Мне зрабілася лядашна, і, каб зьнішчыць дрэнны настрой, я моцнымі ўзмахамі пачаў перасякаць плынь ракі.

Мардуховіч выйшаў з вады і моцна расьціраў цела шурпатым рушніком. Як нейкую надвычайную навіну, ён паведаміў мяне, што мае нэўроз сэрца, праводзіць бяз сну ночы, усё, думае, думае, думае...

Я зірнуў на ўсю постаць Мардуховіча, на яго напуклены жывот, і мне сьмешна зрабілася. Я прыпамятаў удалую характарыстыку, якую дае народ такім людзям: „на плечы тонкі, дык на пуза ўсядзісты!".

Я сказаў рабіну:

— Вам трэба фізычнай працай заняцца, трэба тлушчу пазбыць, дык кінуць сваю профэсію. Тады ўсё пройдзе! Па мойму, ад сыці чалавек шалее, а кажа: нэўроз!

— Бываюць дні, што я нічога ня ем! А нэўроз вельмі няпрыемная хвароба! Я ў вас запытаю: што з вамі робіцца, калі жонка скажа: паляжы троху, а я сабе пагуляю. Што тады робіцца!

— Ня ведаю! сказаў я.

— А тое робіцца, што сэрца тыхае, як ня выскачыць! Так і самною, калі пачынаю думаць ды вырашаць праклятыя пытаньні. Сэрца стукоча. І так гэрасна робіцца ва ўсім целе і галаве! Ад таго і ночай ня сплю.

— Вы ўжо не малады чалавек! Можа ад гэтага? Пад старасьць часта ня сьпіцца!—Нічога ня зробіш! Быў конь, ды зьезьдзіўся!

Рабіна, як відаць, зачапілі мае словы аб яго старасьці, і ён энэргічна адказаў:

— Па узросту яшчэ я ня зусім стары. Я магу вам адказаць на гэта тое, што адказала адна тоўстая жанчына. У нас думаюць, што ў тоўстых жанчын няма запалу ў справах каханьня. І калі я запытаўся ў аднае тоўстае жанчыны, ці праўда гэта, дык яна з пагардай адказала: „Пашукай больш тоўстую жанчыну і запытайся, няшчасны, у яе!" Ія вам тое самае скажу: пашукайце больш старога чалавека, чымся я.

Мы апрануліся і пайшлі па сьцежачцы, якая вінталём вяла нас на гару. Мы зноў ішлі моўчкі. Мне прышла ў галаву адна думка, і, калі мы падняліся на гару, я ўсьміхнуўся і таемна загаварыў з рабінам:

— Я ведаю, чаму вы ноччу ня сьпіцё, чаму у вас сэрца б'ецца, чаму вы шмат думаеце і ні да чога не дадумаліся.

— Ну?—неахвотна адклікнуўся рабін, адчуваючы неякія хітрыкі.

— А таму, што безнадзейная справа—абараняць цяпер рэлігію! Рэволюцыя зьняла прыгожы убор з яе, і цяпер выразна агалілася брыдота, распуста, глупства! Мне здаецца, што кожны разумны чалавек з вашага стану ня можа не адчуваць страшэннае маны ўсяго гэтага, ня можа ня мучыцца.

Рабін нечакана схапіў мяне за руку і хутка загаварыў:

— Праўду вы кажаце! Ведаеце, як пачалася рэволюцыя, у мяне часта зьяўляецца спакуса і моцнае жаданьне расчыніць вочы людзям, якія яшчэ вераць. Ніхто з яўрэяў ня можа так лоўка гэтага зрабіць, як я. Я мог-бы напісаць самыя сэнсацыйныя выкрыцьці адносна бібліі і талмуду. Я мог бы хоць кожны дзень даваць усё новыя і новыя факты і думкі супроць рэлігіі. Гэта так прынадна, што я, прызнаюся вам, спрабаваў пісаць такія корэспондэнцыі ў „Бязбожнік", але напісаўшы, ірваў іх на мэтлахі. Неяк сорамна робіцца. Я ня маю права гэтага рабіць!

— Не разумею! Чаму ня маеце? Вы ўпэўнены ў правільнасьці сваіх думак?

Я баюся разьбіваць ілюзіі. Рэлігію нельга разбурыць, бо тады будзе страшэнная распуста!

— Гэта недарэчнасьць. Замест рэлігіі будзе новая мораль, больш чалавечная, свабодная і рэальная!

— Чаму-ж цяпер у вас няма гэтае маралі?...

— Яшчэ мала часу прайшло, каб новая мораль аформілася, але яна аформляецца...

Рабін ня слухаў мяне:

— Чаму так каламажыцца народ, якому няма прыстану, бо вы лейцы з рук выпусьцілі, разбэсьцілі яго? А чаму моладзь так матар'ялістычна, бяспрынцыпна і прагна на грошы?

— Вашы словы —хлусьня! раззлаваўся я. Моладзь матар'ялістычная? Так і трэба. Няхай прызнае толькі рэальнае! Але ў яе сталыя, акрэсьленыя прынцыпы. За грошы яе ня купіце!.. Я ня бачыў, каб яна цаніла грошы самі па сабе!

— Моладзь?! Ім усё гігікі! Усё яны гатовы вынесьці на сьмех...

— Усё, што варта сьмеху...

— Да рэчы, я хачу запытаць, што азначае слова „абскурвант", якім яны абазвалі мяне ў аднэй іхняй газэце?

— Абскурант? Яно азначае прыхільніка цемры народнай.

— Я так і думаў, што гэта нешта няпрыстойнае! Добра яшчэ, што ніхто з маіх прыхільнікаў ня ведае сэнсу гэтага слова!

## II

Быў абедны час. Сеўшы на ганку, у цяні старых ліп, я глядзеў на вуліцу і людзей, якія сонна рушыліся па ёй. Выйшла гаспадыня дому і таксама на хвіліну прысела на ганку. Яе звалі Цыляй. Гэта была яшчэ маладая, прыгожая і чарнавокая жанчына. З белымі пульхлымі рукамі, вішнёвымі губамі, белымі як часнок зубамі і стромкай фігурай. Я думаю, што Цыля ў кожнага здаровага мужчыны бязумоўна выклікала нейкую фізычную радасьць, нейкае няяснае хваляваньне ў крыві ад аднаго толькі ўзгляду яе вачэй... Цыля была поўнай

процілегласьцю свайму мужу Гіршу—слабаму, хударляваму, неахайнаму і немаладому мужчыне, які ўвесь дзень цацкаўся з дзіцёнкам, маленькім сынком Ёселькай, што ледзьве дыхаў і жыў.

Прыходзілася дзівіцца, што ад такой здаровай маткі зьявіўся зусім слабы адростак.

Цыля запытала, ласкаючы мяне сваімі вачмі і сьвежымі губамі:

— Ці ня хочаце, таварыш, абедаць? У нас ёсьць фаршыраваная рыба, ёсьць крупеня і яшчэ што-небудзь знойдзецца!

— Добра! Дайце рыбу, дайце крупеню, дайце бутэльку піва, сказаў я, стараючыся ўкласьці ў гэтыя словы ўсю сваю зацікаўленасьць ёю. Я пашоў усьлед за Цыляй і сеў за стол. Рабін, пабачыўшы, што я ўсаджваюся абедаць, выказаў жаданьне паабедаць разам, заявіўшы мне разьвязна:

— Я люблю ў кампаніі.

Абедаючы, зноў гаварылі аб рэлігіі.

— Гэта праўда, што чым адукаваней чалавек, тым менш яму патрэбна рэлігія!—гаварыў Мардуховіч:—я маю вялікую здольнасьць самыя заблытаныя тэзы тлумачыць проста, зразумела. Сярод яўрэяў няма такіх, якія выступілі-б супроць мяне, калі я кажу за рэлігію. Але пад сэкрэтам скажу вам, што таксама я здолеў-бы гаварыць і супроць рэлігіі, і тады не знайшлося-б чалавека, хто гаварыў-бы.

— Значыць, вы ня шчыра кажаце? Ня шчыра прапаганду ведзяце, а за грошы?

— Гэта ня зусім так,—сказаў ён, пачырванеўшы.—Дагэтуль я шчырым быў, але гады два ўжо нейкі д'ябал супярэчнасьці жыве ў маёй галаве, і я ня ведаю, чым гэта скончыцца. Гэтыя два месяцы зусім змардавалі мяне і яскрава падкрэсьлілі, што хоць мы і маем патэнт на жыцьцё, але справа наша скончаная.

— Лёгічны вывад?

— А вываду і няма. Калі цяпер рэлігію разбурыць, дык, зноў кажу, будзе распуста, людзі кінуць трымацца якіх-небудзь прынцыпаў, усёроўна як тая жонка, каторай муж усё дазволіў. Яна асмакавала, густ у распусьце і забажаліла яе, як зельля якога ці сьмерці.

— Рэлігія цяпер ня можа быць кіруючым прынцыпам! Людзі перарасьлі рэлігію!—сказаў я, адчуваючы непатрэбнасьць далейшай размовы.

— Я з вамі ня згодзен!—ня ўнімаўся рабін.—Для большасьці людзей яна неабходна. Вось вам прыклад. Бачылі вы гаспадыню гэтага дому? Бачылі яе нікчэмнага чалавека? А дзіцёнка? Гэтай Цылі не такі мужчына патрэбен і не такі дзіцёнак радзіўся-бы! Праўда?

— Праўда!—сказаў я.

— І вось каб ня рэлігія,—урачыста сказаў рабін,—бацькі кінулі-б гэтага рахітычнага дзіцёнка! Дужа ім трэба цацкацца! Толькі рэлігія і яе законы прымушаюць песьціць гэтага заморка.

— Рэлігія тут ні пры чым. Інтарэсы роду, інстынкт пашырэньня індывідуяльнасьці.

— Інстынкт сьляпы! Яго трэба акрэсьліць законам.

— Гэта можна акрэсьліць звычайным законам, чалавецкім.

— Вось вам яшчэ прыклад,—сказаў рабін:—у старыя часы я меў шмат грошай і часта даваў людям пазыкі на гаспадарчы ці гандлёвы пераварот.

— На процантах?

— Вядома! Дык вось мой вывад: тыя гандляры, што былі набожнымі, ня скруцілі ні аднае капейкі, а хто быў так сабе, у каго была цьверж натуры і вольнадумства, той часта кудысьці зьяжджаў і даводзілася яго шукаць законам, судом.

Рабін раптам змоўк. Ён зірнуў у вакно і пабачыў на вуліцы нейкага чорнага барадатага чалавека, які зрабіў нейкі ўмоўны знак. Мардуховіч папрасіў у мяне прабачэньня і вышаў на ганак, дзе завёў доўгую размову з барадатым чалавекам.

Я быў вельмі рады гэтаму. Рабін пачынаў выклікаць варожасьць і пачуцьцё нейкай трухлявіны. Я пашоў аглядаць прыгожыя ваколіцы мястэчка.

III

Ноччу я доўга ня мог заснуць на новым месцы. Здавалася, што па ўсім целе поўзаюць няўлоўныя агідныя стварэньні, якія выклікалі непераносную ісцу на целе. Я ніяк ня мог супакоіцца і толькі, як запелі другія пеўні, на хвіліну задрамаў. Але раптам пачуўся моцны стукат ў дзьверы. На стукат ніхто ня выйшаў адчыняць дзьверы, але разам з гэтым (што мяне вельмі зьдзівіла) у пакоі гаспадара пачуўся нейкі таемны шэпт, нейкая мітусьня, нейкае ойканьне. Я падумаў, што нешта нядобрае здарылася, схапіў сярнічкі, хутка запаліў сьвечку і пашоў да дзьвярэй, дзе стукалі яшчэ мацней. Вачом маім давялося пабачыць дзіва: з пакою гаспадара выходзіў рабін. Вочы яго былі апушчаны. Ён баяўся зірнуць на мяне і, цяжка дыхаючы, шмыгануў у свой пакойчык.

Я пашоў да дзьвярэй і запытаўся:

— Хто там?

— Я! пачуўся голас Гіршы Карасіка. Уся гісторыя зрабілася мне зразумелай. Ня ведаю, па якой асацыяцыі прыпамяталася калісьці абрыдлая латынь:

Facilis est
descensus averni!

А па нашаму: лёгка дайсьці да пекла!

**Ул. Хадыка**

# У мораку

Пад сталом злавіла кошка мыш—
Хруст касьцей напоўніў морак хаты.
Нeяк модна ты ў вакно глядзіш,
І настрой твой выдаўся—пракляты...

Кропка глеваньня была твая
Сумаваць за садам кожны вечар.
А цяпер (ў чаргу) сумую я...
Хто-ж мяне (гаротнага) палечыць?

Не хачу цябе агітаваць,
Знаеш ты, чаго мне варты мітынг.
У цябе таксама галава,—
Каго хочаш, слухай і любі ты.

Да сяброў хацела,—дык ідзі—
Думаеш, шукаю я ахвяры?
І з табой ўсё роўна я адзін
Ў падарожжы жвірыстым і чмарым.

Пойдзеш ты, напэўна, праз раку:
Паглядзі ў люстэрак роднай плыні...
Некалі давала ты руку,
Што ня здрадзіш ў нашай пуцявіне.

І тады я ведаў гэту... быль—
Я даўно слоў звонкіх знаю таннасьць...
... Прашумелі ў досьвітках дубы
Бедны верш пра шчырую адданасьць.

Ў сэрцы сьмех тугой не апавіць
І напорнасьць думак не расплёскаць.
Не затым (гарэць агнём крыві)
Расьцьвіталі раньнія пялёсткі.

Не затым да зор ішлі і мы,
Каб стаяць на сходках нашай раты...
...Пад сталом злавіла кошка мыш,
Хруст касьцей напоўніў морак хаты.

# Пад клёнамі

Я стомлены, любая, стомлены,
Мне нельга табе дагадзіць.
Ты-ж можаш пад сьпеўнымі клёнамі
Па нудных сьлядох не хадзіць.

Ты-ж можаш вясёлай дзяўчынаю
Ня ведаць з другімі мяжы...
Так шчыра упобач з айчынаю
Я хочу змагацца і жыць.

Адвеку яе, нашу родную,
Калечыў раз'юшаны пан.
Ў балоце жабрачкай галоднаю
Яна памірала ад ран.

Вураднікі лёталі п'яныя,
І польскі тут лётаў жандар...
На варце аддана ёй стану я,
Як сын і сумленны пясьняр.

У сэрцы мэлёдыі гордыя,
Кастрычнік у сэрцы гарыць!
На шпалы пакладзена цьвёрдыя
Чыгунак сталёвая ніць.

Прасторы зарою асмужаны,
Пярэданьня ў далях узор.
Рукамі будуецца дужымі
Ў нязломнае сонечны тор.

Айчына раскована бойкамі,
Айчына ня плача ужо...
Мы пройдзем змаганьнямі стойкімі
Між хмар, навальніц і крыжоў.

У землях з старымі парогамі
Разбойніцкі голас ня сьціх.
Там долы гародзяць вастрогамі,
Там песьня пакуты ў трысьці.

Такімі падкупнымі, хітрымі
Там гнезьдзяцца людзі—зьвяры...
А ты забаўляешся цытрамі
Ў кустох знакамітай гары.

Альтанак густымі шатрамі ты
Мяркуеш наладзіць цішу...
І плачаш, як сінім атрамантам
Поэм аб табе ня пішу.

Дзе-ж выбраць мне гутарку пэўную?
Між намі бяссэнсіцы лік...
Ты меціш зрабіцца князеўнаю,
А я—беларускі мужык.

З табой я спаткаўся на цьвінтары,
Калі патухала сяло.
Імчаліся кулямі літары
Ў радкі упрыгожаных слоў.

Я марыў аб зорах з ахвотаю,
Я слухаць хадзіў чараты.
Такой далікатненькай цнотаю
Раней мне здавалася ты.

Ды, мусіць, квяцістае полымя
Нядоўга на сьвеце жыве...
І нэрвы становяцца кволымі
І сьмецьце адно ў галаве.

Я стомлены, вельмі я стомлены,
Мне трэба інакшых дарог...
... Як ласка, ты можаш пад клёнамі
Ня тупаць па нудных сьлядох.

Т. Трыкліні

# Казкі для малых і вялікіх

## 1. Для малых

Гэтая пародыя
Тэмаю з сучасься.
Рознага народу я
Назьбіраў з Парнасу.

Простыя нататкі
Пра літаратуру.
Мы-ж, браты, ствараем
Новую культуру.

Сеем новы побыт
У гушчары масы,
Каб жыцьцё аздобіць
Дыктатурай клясы.

Мы супроць ухілаў,
Мы ідем наперад.
З намі ўсе, хто заўжды
Ў будучыну верыць.

У гэтакім паходзе
Не дамо туляцца,
Бо культуру родзіць
Ня выгляд, а праца.

## 2. Для вялікіх

У аднэй дзяржаве,
Дзесьці за гарамі,
Горад быў на славу
Нават з ліхтарамі.

Там жылі поэты
І людзей ня мала.
Седзячы на ветках,
Яны ўсё сьпявалі.

Сонца ім лілося,
А уночы месяц.
Хараша жылося
Пад такія песьні.

Але ў кожным родзе
Розная старанасьць.
Быў у іх галоўны,
Што пісаў романы.

Так пісаў, бывала,
Пра штаны якія
Цэлыя падвалы,
Вокам не акінеш.

Неяк на каляды
Творы я прагледаў—
Сьнег у сэрцы хрупаў,
Але „соль" ў наступным.

Тут вам будуць тыпы—
Цэлая плеяда,
Шэраг—на вярсты тры.
Аж узьнікла радасьць.

Але трэба розьніць,
Гэта ўмова перша:
Частка піша прозу,
А другая вершы.

Проза ў нас ня ные,
Так рыпіць патроху.
Сьвістуны-ж лясныя
Крытыкаў аж хохляць.

Крытык ў абурэньні
(Падыход марксыцкі)
—Твор на грып хварэе,
Друкаваць ні блізка.

Лірыка ў загоне,
Але не качаем:
На паўмэтры гонім,
Каб не дакучала.

Вось напрыклад: Жылка,
Ён па праўдзе жыў каб—
Ня было-б каганьня
Паху і маленьня.

Але, мабыць, сэрца
Так пабудавана.
У хлапца-ж, паверце
Ёсьць замілаваньне.

Гэта знаю добра.
Скажам, Янка Бобрык,
Год яму пад дваццаць—
Ўсюды рад старацца.

Рознае бывае,
Гэта-ж не загана,
Цераз год, ці рана,
Возьме й засьпявае.

Ніканoвіч—гэта
Ортодокс у прозе,
Ён ня горш поэты
„Уцялесіць“ можа.

У романах заўжды
„Мужычкі“ сьпяваюць.
Можа што й хацелі-б,
Але скачуць—
Знаюць.

Хведаровіч лоўка
Напісаў пра воўка.
Каб-жа тут каровы,
Напісаў-бы новы.

Бачыце, забыўся.
Тэм хапае розных.
У паходзе быў усё,
А вярнуўся—позна.

Трус Паўлюк увесну
Ён зусім ня трусіць:
Сіраціў Алесю,
Як ляцелі гусі.

Бедная Алеся!
Не ўцякайце, гусі,
Лепей зазімуйце
Тут на Беларусі,

Ў полі ды на волі,
Ці-ж вам мала месца?
Ў полі тры таполі
І трава на месцы.

У легэндах тут-жа
Пасьвіцца Барашка.
Ён зусім ня тужыць
Хоць у вершах бражка.

Піша, творыць байкі
Пра жыцьцё Яэля,
Што памёр, я знаю,
Да Архэйскай эры.

Не, браток Іլары,
Я патаварыску,
Лепш пішы сцэнарыі,
Ці зусім ні блізка...

Драматург Сташэўскі,
Дабрадзей вясковы,
Піша тож ня кепска—
Быт ствараe новы?!

Ён адін ня мае
Дрэннага ўхілу:
Проста піша, знае,
Дзе каза хадзіла.

Адным словам, крыху
Можа й сумнавата
Але што-ж, на ліха
Чым багаты...

### 3. Для малых і для вялікіх

На мастацкіх градах
Добрая расада
Узрастаць павінна,
Гэта-ж не навінка.

Габлявaць навошта
У мастацкіх муках.
Дайце твор харошы
На старонкі друку.

Стаўкай гонарарнай
Я не пахвалюся
Але, веру, горна—
Перамогуць плюсы.

Менск, 1929 г.

І. Плашчынскі

# Да пытаньня спэцыфікуму літаратуры [1]

Пытаньне спэцыфічнасьці ня толькі літаратуры, але кожнай зьявы (вядома, якая мае яе), якую-б мы ні пажадалі вывучаць, вывучаць навукова, не зьяўляецца другарадным, а адным з асноўных. Адно тая зьява, якая мае свой спэцыфікум, можа прэтэндаваць на стварэньне аб ёй самастойнай навукі, бо ў іншым разе яна зьявіцца ўсяго адным з момантаў дасьледваньня тае ці іншае навукі, але не адзіным яе прадметам. Вызначэньне спэцыфікуму літаратуры патрэбна таму, што, вырашаючы гэта пытаньне, мы тым самым вырашаем пытаньне аб прадмеце нашага вывучэньня. Мала ведаць пра наяўнасьць факту, каб яго вывучаць, а не займацца чым-небудзь пабочным і малаважным, выдаючы яго за сапраўднае дасьледваньне гэтага факту. Для сапраўднага дасьледваньня літаратурнага факту патрэбна перш за ўсе зразумець яго своеасабліваcьць, яго адрознасьць ад падобных яму фактаў, г. зн. ад фактаў ідэолёгічнага парадку. Неразуменьне спэцыфічнасьці літаратуры азначае неразуменьне самай літаратуры, неразуменьне яе, як своеасаблівага прадукту чалавечай чыннасьці. Адказаць на пытаньне спэцыфічнасьці літаратуры—азначае даць адказ на пытаньне: што такое літаратура, якая ідэолёгічная катэгорыя жыве пад назвай мастацкай ідэолёгіі.

Трэба памятаць, што пытаньне спэцыфікуму зьяўляецца пытаньнем адзнакі, а не пытаньнем мастацкасьці (гэта пытаньне якасьці адзнакі) і што блытаніны гэтых проблем не павінна быць, калі жадаем прыйсьці да станоўчых вынікаў.

„Фауст“ Гётэ і забыты твор Марлё, „Шляхам жыцьця“ Янкі Купалы і „Ўрачыстасьць“ Цішкі Гартнага ў аднолькавай ступені зьяўляюцца прадметам літаратурзнаўцы, хоць мастацкая вартасьць іх неаднолькавая.

Глыбока памыляюцца тыя асобы, якія сьцьвярджаюць немагчымасьць вызначэньня спэцыфікуму літаратуры. З адмаўленствам, якога-б характару яно ні было, згадзіцца нельга, бо няма ніякай магчымасьці ўгрунтаваць яго на фактах самай літаратуры.

Мне нядаўна давялося быць сьведкаю таго, як адзін таварыш, які належыць да нашых літаратурных колаў, выказаў думку аб немагчымасьці даць азначэньне спэцыфікуму літаратуры. Хоць гэта думка была выказана і ня ў друку, а вусна, усё-ж ад гэтага яна не перастае

[1] Друкуецца ў парадку абмеркаваньня задач марксыцкага літаратуразнаўства. Першы артыкул такого характару выдрукаваны ў „Узвышшы“ № 5 і 6 за 1928 г.: Ю. Бярозкі „Пытаньні сучаснага марксыцкага вывучэньня літаратуры“. У чарговых нумарох будзе зьмешчан яшчэ шэраг падобных артыкулаў.

Рэдакцыя.

быць фактам, а застаецца ім, і яго абмінуць нельга. Ён думае, што ў літаратуры ёсьць частка нейкага „чыстага" мастацтва, якая ня можа быць пазнанай, з якім-бы мэтадам пазнаньня да яе ні падыходзіць. А вось якраз у ёй і зьмяшчаецца спэцыфікум літаратуры, але ён носіць характар нейкай неразгаданасьці, няяснага адчуваньня, і розум чалавека бясьсільны перад гэтай таямніцай мастацтва. Згадзіцца з гэтай галюцынацыяй „мысьліцеля" нельга ўжо па тэй простай прычыне, што яна зьяўляецца думкай адмаўленьня магчымасьці існаваньня сапраўднае навукі пра літаратуру, якая, бязумоўна, мае справу з фактамі, якія пазнаюцца, і ня мае дачыненьня да нейкага няяснага адчуваньня. Па-другое, з навуковага пункту глеѕаньня, у нас няма магчымасьці гаварыць, што ўсяго нейкая частка складае спэцыфікум літаратуры. У дадзеным выпадку зьяўляецца патрэбнай адна вельмі важная мэтодолёгічная перадумова: трэба мець на ўвазе толькі цэлае, а ня частку, бо гэта-ж цэлае мы імкнемся ўразумець у яго своеасаблівасьці.

Спэцыфікум літаратуры адчуваецца вельмі пэўна і з прычыны гэтай пэўнасьці пазнаецца—пераводзіцца на мову розуму.

На адмаўленьні зусім іншага характару, якое нядаўна было выказана ў друку, спынімся пасьля.

* * *

Калі сягоньня спытаць, што такое літаратура - дык ня толькі ад розных дылетантаў, але нават і ад спэца пачуеш адказ: „літаратура ёсьць сродак жыцьцебудаўніцтва". Бязумоўна, ніводзін марксысты ня можа адмаўляць гэтай важнай соцыяльнай функцыі літаратуры, як ня можа лічыць яе і функцыяй, якая ўласьціва аднэй літаратуры. Той вучоны, які ашчарэпам трымаецца за такое азначэньне літаратуры, у прастаце душы свае нават і не адчувае, што наконт прадмету літаратуразнаўцы нічога пэўнага не сказаў. Прыведзенае азначэньне літаратуры можна з аднолькавым посьпехам ставіць да кожнай ідэолёгічнай катэгорыі ў паасобку, як і да ўсіх іх разам. Усе надбудовы так ці інакш, але ўплываюць на жыцьцё, організуюць яго і ў тэй ступені, у якой для іх магчыма, як для надбудоў. Для нас гэта застаецца непарушным законам—законам, які ўстанаўляецца на аснове фактаў надбудоў, а не зьяўляецца прадуктам нашага выабражэньня ці жаданьня.

Вось чаму мы і не падзяляем думак проф. Шміта, які сьцьвярдзае, што мастацтва зьяўляецца адзіна магчымым сродкам організацыі жыцьця, „гуртаваньня" соцыяльнасьці. Такое разуменьне яўна ідэалістычнае.

У нас часта можна пачуць галасы такіх актывістых, якія ў імя жыцьцебудаўніцтва адмаўляюць жыцьцепазнаньне. Азначэньне літаратуры, як жыцьцепазнаньня, трэба разумець у двух сэнсах: функцыянальным і генэтычным. Тое, што літаратура расказвае нам пра „былое

і думкі" пакаленьняў, застаецца фактам, і ніякія наіўна-філёзофскія разважаньні не давядуць таго, чаго давесьці нельга. Адмаўленцы у даденым выпадку ідуць супроць фактаў і гэта робяць таму, што па сваёй нізкасьці на вочы ня бачаць фактаў ці ня хочуць іх бачыць, баючыся згубіць свой актывізм, гэта—па-першае. Па-другое, у дачыненьні да поэты і да тае соцыяльнае катэгоры, сьвядомасьць якой ён выражае, сэнс азначэньня „жыцьцепазнаньне" становіцца іншым, не функцыянальным, а генэтычным, калі так льга сказаць. Літаратура ў гэтым сэнсе ёсьць выражэньне жыцьцепазнаньня, выражэньнем усьвядомленай рэчаіснасьці, зьяўляецца фактам ідэолёгіі, якую і трэба зразумець у яе спэцыфіцы.

Зразумела, што тыя асобы, якія цалкам адмаўляюць азначэньне літаратуры, як жыцьцепазнаньня, не разумеючы самі таго, адмаўляюць самую літаратуру, адмаўляюць яе, як сьвядомасьць, а марксыстым яна інакш і не разумеецца. Памыляецца той, хто думае, што жыцьцепазнаньне супярэчыць жыцьцебудаўніцтву; жаднай супярэчнасьці тут няма, і аб гэтым ня можа быць гутаркі. Адно азначэньне дапаўняе другое, як і абодва разам не даюць азначэньня прадмету літаратуразнаўцы, г. зн. спэцыфікі літаратуры. Функцыя жыцьцебудаўніцтва і функцыя жыцьцепазнаньня гаворацъ толькі аб вялікім грамадкім значэньні літаратуры. Але гаварыць аб значэньні літаратуры і адказаць на пытаньне, што такое літаратура, не адно і тое.

* * *

Вырашаючы пытаньне спэцыфікі літаратуры, нельга абыйсьці поглядаў формалістых, як нельга і пагадзіцца з імі. Якіх-бы адценьняў ні былі формалістыя, чым-бы ні розьніліся яны паміж сабою, іх погляды на спэцыфічнасьць літаратуры, як і мастацтва наогул, у самай існасьці застаюцца бадай аднолькавымі. Усе яны зьвяртаюць увагу на адін і той-жа момант, хоць разуменьне гэтага моманту ў іх бывае і рознае, што, аднак, ня шкодзіць таму, каб іх працы насілі аднолькавы характар.

Для ўсіх формалістых своеасаблівасьць мастацтва—у форме. Шклоўскі разумее мастацтва, як суму прыёмаў. З яго пункту гледжаньня творамі мастацтва будуць тыя, „которые были созданы особыми приемами"[1]). Разьвіцьцё мастацтва, узьнікненьне і сьмерць розных плыняў—гэта разьвіцьцё прыёмаў, іх узьнікненьне і сьмерць. Прыёмы найбольш важныя для мастацтва, у іх уся сутнасьць, адрознасьць ад немастацкага.

З такога разуменьня, як лёгічная неабходнасьць, выходзіць і тое, што дасьледчык пры вывучэньні твораў мастацтва павінен усю сваю ўвагу засяродкаваць на форме, на тым, як „рэч зроблена", бо „сделанное в искусстве неважно"[2]).

[1]) Шкловский. „Теория прозы", бал. 9.

[2]) Там-жа, бал. 12.

Як відаць, у аснове формалістычнага падыходу да вызначэньня спэцыфікі мастацтва ляжыць прынцып, які можна было-б назваць прынцыпам „важнага і няважнага". Мы маем тут справу з выдзяленьнем аднаго і ігнараваньнем другога моманту поэтычнага твору, маем справу з прынцыпам антымарксыцкім. Без марксыцкае гносэолёгіі ня можа быць і марксыцкае эстэтыкі, г. зн. адзінае навуковае эстэтыкі. Эстэтыка формалістых—гэта эстэтыка ідэалістых. Перш за ўсё, поэтычны твор не зьяўляецца чымсьці мэханічным, а ёсьць „організм", для якога патрэбны ўсе часткі, як для „організму". Вызначэньне спэцыфікуму—гэта не выдзяленьне найбольш важных частак і ігнараваньне менш важнымі, гэта і ня сума іх, а сыстэма. Трэба, каб вызначаны спэцыфікум адпавядаў самой зьяве, а ня быў вымыслам чалавечай галавы. Вызначаны спэцыфікум толькі тады будзе адпавядаць навуковым запатрабаваньням, калі ён будзе зьмяшчаць паўнату зьявы, паказваць на патрэбнасьць усебаковага яе вывучэньня, як пэўнага цэлага, якое выконвае пэўныя соцыяльныя функцыі, дзякуючы сваёй еднасьці, ці, інакш кажучы, магчыма яго жыцьцё адно пры ўмове суіснаваньня аднаго ў другім.

Калі ўзяць якое-небудзь лёгічнае паняцьце, якое зьяўляецца адмаўленьнем другога лёгічнага паняцьця, дык яно ў той-жа час зьяўляецца і сьцьвярдзэньнем нечага новага. Адмаўленьне і сьцьвярдзэньне—гэта ня што іншае, як два бакі аднаго і таго-ж процэсу, яго дыялектычная еднасьць. Адмаўленьня ня можа быць без сьцьвярдзэньня, чыстае адмаўленьне—ілюзія, яго няма. Дыялектыка, як мэтад пазнаньня, ёсьць адмаўленьне мэтафізыкі, а значыць і сьцьвярдзэньне процілеглага ёй. Сьветапогляд пролетарыя ёсьць адмаўленьне сьветапогляду арыстократа і разам сьцьвярдзэньне новай дадзенасьці. Больш чым сьмешна было-б ставіць у дачыненьні да прыведзеных прыкладаў пытаньне, што тут важней: адмаўленьне ці сьцьвярдзэньне. Як тое, так і другое аднолькава важна, бо адсутнасьць аднаго зьяўляецца адсутнасьцю цэлага, адсутнасьцю об'екту нашых разважаньняў. Калі-б, скажам, дыялектыка ня была адмаўленьнем мэтафізыкі, дык і ня было-б самой дыялектыкі і ў той-жа час, калі-б яна ня была сьцьвярдзэньнем процілеглага мэтафізыцы, таксама ня было-б яе, як вынік адсутнасьці адмаўленьня. Усё гэта ясьней яснага будзе для таго, хто хоць крыху думае. А вось якраз таксама і з літаратурным творам. Жаднай формы ня можа быць бяз зьместу, як і наадварот. Літаратурны твор—гэта дыялектычная еднасьць узаемазалежнасьць частак, дзе адсутнасьць якой-небудзь аднае часткі зьяўляецца сьцьвярдзэньнем нябыцьця.

Адыходзячы ад гэтай важнай перадумовы марксысты ня ставіць так пытаньня, як формалісты. Для марксыстага аднолькава важна як форма, так і зьмест, бо ён добра памятае аб дыялектычнай еднасьці зьявы, а ў гэтай еднасьці ён жадае пазнаць і яе спэцыфіку—самую зьяву.

* * *

На вялікі жаль, проблема спэцыфікуму літаратуры да апошняга часу зусім ня ставілася на абгаварэньне ў друку нашымі літаратурнымі коламі. Праўда, у № 5 „Узвышша“ за 1928 год быў надрукаваны артыкул Юрыя Барозкі „Пытаньні сучаснага марксыцкага вывучэньня літаратуры“, у якім аўтар названага артыкулу, закрануўшы гэту проблему ня толькі ня даў азначэньня спэцыфікі літаратуры, але нават лічыць немагчымым і няправільным, з марксыцкага пункту гледаньня (не з марксыцкага, а з яго ўласнага), даваць такое азначэньне. Мэтадолёгічная ўстаноўка Бярозкі, пункт, ад якога ён адыходзіць у сваім сьцьвярдзэньні, зьмяшчаецца ў тым, што літаратура не зьяўляецца нечым статычным, а ўяўляе развой, кожнае-ж азначэньне носіць статычны характар, і яно ня можа абхапіць рэчаў несуразьмерных. Бярозка думае, што агульнае азначэньне можа даваць кожны, але не марксысты. Калі марксысты займаецца такой справай, дык у вачох Бярозкі ён губляе сваю ортодоксальнасьць, і яго высновы ня могуць прэтэндаваць на сваё прызнаньне, бо яны супярэчаць дыялектыцы. Бярозка піша: „Пытаньне—што такое мастацтва“ становіцца навуковым толькі пасьля растлумачэньня, пра якое, уласьне, мастацтва ідзе гутарка. Мастацтва „наогул“ нам невядома. Адмаўляючыся адказаць на пытаньне, „што такое мастацтва“, можна гаварыць на тэму, што такое мастацтва Грэцыі ў Пэрыклеву эпоху і што такое мастацтва Рэнэсансу. Усё сказанае адносіцца, бязумоўна, і да літаратуры“[1]), і далей чытаем наступнае: „значна горш, калі замілаваньне да статычных вызначэньняў пранікае ў марксыцкае літаратуразнаўства, калі марксысты, пачынаючы адбор літаратуры мастацкай ад немастацкай, узбройваецца якім-небудзь адзіным крытэрыем гэтай мастацкасьці, адзіным маштабам для рэчаў несуразьмерных. Дагаворнасьці тут нельга дамагчыся ўжо таму, што яна стаіць у супярэчнасьці з дыялектыкаю. Літаратура ёсьць развой, і статычнае вызначэньне літаратуры можа быць сапраўдным толькі для якой-небудзь конкрэтнай часткі гэтага развою. Агаварваюся, што гутарка ўвесь час ідзе пакуль-што наконт вызначэньня літаратуры ў яе спэцыфіцы, як асобнага гатунку людзкой чыннасьці, а не наконт высьвятленьня соцыяльна-біолёгічнае ролі мастацтва“[2]).

Каму невядома, што чалавечае грамадзтва зьяўляецца надзвычайна складанай сыстэмай, што ў ім ёсьць вагромністыя супярэчнасьці і несуразьмернасьці, што тут ня статыка, а развой ува ўсёй яго складанасьці. Думаю, што гэта вядома кожнаму.

Можна наперад сказаць, што Бярозка, калі-б яму прапанавалі даць адказ на пытаньне, „што такое грамадзтва“, дык ён, доўга ня думаючы, „узброіўшыся“ мэтадам дыялектыкі, сьцьвярдзіў-бы, што адказаць на гэта пытаньне немагчыма. Бухарын жа, напэўна, не палічыў мэтафізыкай адказаць на такое пытаньне. Ён дае такое азначэньне

[1]) „Узвышша“ № 5 (11), 1928 г., бал. 120.
[2]) Там-жа, бал. 121.

грамадтву: „это есть наиболее широкая система взаимодействующих людей, обнимающая все длительные их взаимодействия и опирающаяся на их трудовую связь"[1]). Бухарын здолеў даць агульнае азначэньне грамадтву, бо на аснове аналізу грамадкіх сыстэм адшукаў тое, што ўласьціва грамадтву „наогул" (ня будем баяцца гэтага „наогул", як яго баіцца Бярозка), без чаго яно ня было-б грамадтвам. Гэтым агульна-патрэбным і зьяўляецца „трудовая связь" людей. Зразумела, што „трудовая связь" у першабытным камунізьме была зусім іншай, чым у клясавым грамадтве (выбачайце за такое абагульненьне, бо і ту. трэба рабіць падел), а ў клясавым грамадтве яна насіла і носіць ін..ы характар, ніж той, які яна буде мець пры соцыялізьме. Аднак, усё гэта зусім нічога не гаворыць аб тым, што „трудовая связь" де-небудь перастае ёй быць. Не, яна ўсюды застаецца „трудовой связью", толькі яе характар зьменьваецца ў кожную эпоху, ад простага да надзвычайна складанага.

Таксама, як з грамадтвам стаіць справа і з літаратурай, і Бярозка вельмі памыляецца. Для марксыстага развой літаратуры яшчэ не дае грунту для адмаўленьня магчымасьці даць адзначэньне спэцыфікі літаратуры. Гэтай магчымасьці ня было-б толькі тады, калі-б літаратура ня была спэцыфічнай зьявай. Але паколькі літаратура нам вядома, як зьява спэцыфічная, патолькі мы павінны і можам даць азначэньне гэтай спэцыфічнасьці. Марксысты гэта робіць деля таго, каб мець об'ектыўны крытэры для адбору мастацкага ад не мастацкага, ён робіць гэта деля таго, каб ня лічыць об'ектам сваіх досьледаў прац Гізо і Т'еры, як гэта зрабіў Лянсон, і на што вы, тав. Бярозка, зазначаеце, як на адну „са шматлікіх ахвяр ідэялістычнай мэтадолёгіі". Разуменьне спэцыфікі літаратуры ў марксыстага не застаецца разуменьнем для разуменьня, а з яго выходзяць і пэўныя мэтадолёгічныя патрабаваньні пры яе вывучэньні.

Дарэмна было-б думаць, што Бярозка ня мае адінага крытэрыя, з якім ён падыходіць да адбору мастацкага ад не мастацкага. Такі крытэры ў яго ёсьць, і гэта крытэры адноўленага формалістага „во всеоружии" Маркса.

* * *

Мастацтва, як і кожная чалавечая чыннасьць, ня можа быць чым-небудь іншым, адно як вынікам дачыненьня суб'екту да об'екту—мастака да рэчаіснасьці, часткай якой зьяўляецца і ён. Але дачыненьне мастака да рэчаіснасьці своеасаблівае, іншага характару, ніж скажам, вучонага, своеасаблівасьць успрыяцьця яе і парадае своеасаблівасьць мастацтва, а значыць і своеасаблівасьць літаратуры. Калі параўнаць літаратурныя творы, напісаныя на пэўныя гістарычныя тэмы з тым, што пра гэта напісана ў падручніку па гісторыі, дык адразу выявіцца ўся розьніца паміж тым і другім. Даволі для гэтага

[1]) Н. Бухарин. „Теория исторического материализма", 1924 г., бал. 72.

ўзяць усім вядомыя хронікі Шэксьпіра. Тады, як гісторык даў нам уяўленьне аб гістарычных фактах лёгічнымі паняцьцямі, Шэксьпір „паказаў“ тую-ж рэчаіснасьць конкрэтна—у вобразах. У яго хроніках мы бачым жывых удзельнікаў гістарычнага жыцьця з іх думкамі і пачуцьцямі, з іх хістаньнямі і пераконаньнямі, з іх імкненьнямі, акрыленьнем „духу“ і падзеньнем яго долу. Можна было-б прывесьці шэраг прыкладаў, і ўсе яны сьцьвердзілі-б адно: конкрэтнае выражэньне ўсьвядомленай рэчаіснасьці, вобразнае яе выражэньне—спэцыфікум літаратуры, як і мастацтва наогул. Ад антычнасьці і сярэднявечча да новага і найноўшага часоў, ня гледзячы на глыбокую розьніцу літаратур гэтых эпох, ня гледзячы на тое, што літаратура аднае эпохі па сутнасьці адмаўляла літаратуру другой эпохі, як вынік адмаўленьня адных вытворчых дачыненьняў другімі, на груньце якіх вырастала і адпаведная ім літаратура,—і ўсе-ж, ня гледзячы на ўсё гэта, літаратуры эпох насілі ў сабе ў той-жа час і агульна-уласьцівае ім, што іх родніць паміж сабою і што складае адрознасьць у дачыненьні іх да іншых гатункаў сьвядомасьці эпох. Гэтым агульным, адрозным, характэрным і ёсьць, як ужо адзначалася, вобразнае выражэньне ўсьвядомленай рэчаіснасьці, а характар гэтага выражэньня, сыстэма вобразу ці сыстэма вобразаў, яе(сыстэмы) разьвіцьцё заўсёды абмоўлена клясавай прыналежнасьцю мастака.

На вобраз, як на дадзенасьць мастацкага, зазначаў яшчэ Гэгэль. Думку дыялектыка ідэялістага Гэгэля „ўспрыняў“ дыялектык матарыяліст Плеханаў, якую ён ня раз выказваў у сваіх працах так, акрэсьлена і ясна.

Толькі адыходзячы ад вобразу, як ад спэцыфічнай для мастацтва зьявы, льга даць правільнае яго азначэньне. Аднак і тут могуць быць разыходжаньні і памылкі з прычыны не аднолькавага разуменьня сьвету мастацтва—дадзенасьці вобразу ці вобразаў. І калі некаторыя таварышы азначаюць мастацтва, як „сыстэматызацыю пачуцьцяў у вобразах“, дык яны дапускаюць вялікую памылку. Лічыць гэта азначэньне правільным няма магчымасьці, бо супроць яго гаворыць само мастацтва. Нас цікавіць пададзенае азначэньне ў стасунку яго да літаратуры а таму і спыняем на ім сваю ўвагу адно ў гэтым кірунку.

Як ужо адзначалася, літаратура ёсьць вобразнае выражэньне ўсьвядомленай рэчаіснасьці. Зразумела, што зьмест паняцьця „рэчаіснасьць“, бязумоўна, куды шырэйшы за зьмест паняцьця „пачуцьцё“. Я глыбока ўпэўнен, што той, хто пажадае навукова давозіць правільнасьць пададзенага азначэньня, той у сваіх довадах павісьне ў паветры бо ня знойдзе прыкладаў ува ўсёй сусьветнай літаратуры для іх угрунтаваньня,—такіх прыкладаў няма.

Грамадзкі чалавек ня толькі адчувае; акрамя розных пачуцьцяў, яму ўласьцівы і развaжаньні, думкі. Іншымі словамі: грамадзкаму чалавеку ўласьцівы і „стыхія“ пачуцьця і „стыхія“ розуму. Паколькі літаратура мае справу з грамадзкім чалавекам, бо другога на зямлі няма,

патолькі яна мае справу з усім яго духовым складам, з адзначанымі двума пачаткамі.

Нават калі мы зьвернемся да такой літаратурнай плыні, як сэнтымэнталізм, дык і там ня знойдем твораў, якія сьцьвердзілі-б правільнасьць такога азначэньня. Розныя Бедныя Лізы, разам з усімі сваімі пачуцьцямі, носяць у сабе і адпаведныя думкі. Поэзія адзінокасьці і мэлянхоліі ангельскіх поэтаў сэнтымэнталістых Юнга і Грэя далёка не зьяўляецца толькі поэзіяй пачуцьцяў, але і поэзіяй пэўных думак. Творчасьць кожнага поэты, кожная літаратурная плынь сьцьвярдаюць нашу думку. У літаратуры гэтыя два пачаткі цесна зьвязаны паміж сабой, і для нас няма патрэбы і грунту разрываць на часткі гэта цэлае, калі жадаем быць об'ектыўнымі ў сваіх высновах. Гэтыя думкі могуць быць надзвычайна мізэрнымі нязначнымі, заблытанымі і алёгічнымі, як могуць быць і празрыстымі, высокімі і павабнымі. Але справа не ў характары думак, а ў іх наяўнасьці ў літаратуры, чаго мы ня можам ня мець на ўвазе пры вырашэньні пастаўленай проблемы. Тое, што спэцыфікум літаратуры ў вобразе—гэта факт, але сьвет літаратуры, дадзенасьць вобразу мы не павінны разумець адно як сыстэматызацыю пачуцьцяў, а трэба яго разумець як сыстэматызацыю ўсьвядомленай рэчаіснасьці, як сыстэматызацыю пачуцьцяў і думак, як характар, як выражэньне суцельнай і непадзельнай сьвядомасьці. Іншае разуменьне—голая абстракцыя.

Плеханаў, крытыкуючы погляды Талстога на мастацтва пісаў: „Неверно также и то, что искусство выражает только чувства людей. Нет, оно выражает и чувства их, и мысли, но выражает не отвлеченно, а в живых образах. И в этом заключается его самая главная отличительная черта"[1]).

З паняцьця вобразнага ня выходзіць і так званая чыстая лірыка, а ёсьць тым-жа вобразам, які мы маем у эпічнай ці драматычнай творчасьці. У лірычнай творчасьці імя гэтаму вобразу—„я", які зьяўляецца прадстаўніком у літаратуры пэўнай социяльнай групы ці клясы, выражальнікам яе сьвядомасьці, а не прадстаўніком усяго адной якой-небудзь індывідуальнасьці. Калі гэты вобраз называем вобразам „я", дык адно ў формальным сэнсе. Кожны верш, кожная песьня поэты ёсьць частка гэтага складанага вобразу „я". У гэтым сэнсе верш можна параўнаць з такім монолёгам гэроя драматычнае творчасьці, якім зьяўляецца монолёг Гамлета „быць ці ня быць". І як ніводзін монолёг, нават такі важны, на які мы паказалі, вырваны з усіх выказваньняў гэроя, ніколі не выяўляе і ня можа ўсебакова выявіць існасьць гэроя, так і паасобны верш не паказвае поўнасьцю абліччa „я", хоць падчас і выражае значны момант яго жыцьця.

З сказанага напрашваецца вывад і ён будзе правільны.—Па адным ці двух вершах ніколі нельга даваць безапэляцыйна-агульнага судзеньня

[1]) Плеханов, т. XIV, Письма без адреса. Письмо первое, бал. 2.

аб поэце, што датычыць да ўстанаўленьня социяльнай прыроды ўсяе яго творчасьці і яе мастацкай вартасьці. Значэньне і сэнс паасобнага вершу ўва ўсіх яго адценьнях куды лягчэй зразумець ў сыстэме другіх вершаў. Нельга падыходзіць да творчасьці, як да нечага мэханічнага. Тое, што падчас здаецца мэханічным у развоі творчасьці адно відомасьць, на самай-жа справе тут наяўнасьць зьвязанасьці, і зьвязанасьці ня вонкавай. Ня трэба спыняцца на вонкавым бляску творчасьці, а патрэбна пранікаць у самую існасьць рэчаў, каб іх зразумець і даць правільную ацэнку.

Мы сьцьвярдзалі, што спэцыфікум літаратуры ў конкрэтным выражэньні усьвядомленай рэчаіснасьці, але яшчэ ня далі дакладнага азначэньня самой літаратуры, не паказалі яе адрознасьці ад іншых гатункаў мастацтва. Ясна, што адрознасьць кожнага гатунку мастацтва выходзіць з яго выяўленчых сродкаў, з якіх выходзіць і адрознасьць саміх вобразаў мастацтва. Возьмем вобразы трох гатункаў мастацтва: музычны, малярскі і поэтычны. Композытар для выяўленьня жыцьця карыстаецца пэўнай сыстэмай гукаў, створаны ім вобраз —вобраз нутранога сьвету чалавека. Маляр карыстаецца фарбамі, ён перадае зрокавыя формы і, наколькі магчыма, псыхічны стан чалавека праз гэтыя-ж зрокавыя формы. Але маляр можа перадаць усяго адзін які-небудзь момант псыхічнага жыцьця чалавека, яго магчымасьці абмежаваны. Поэта карыстаецца мастацкім словам, яго выяўленчыя сродкі багацейшыя за сродкі композытара ці маляра. Ад вонкавага да самых глыбін нутранога даступна для поэты і ня толькі адзін момант, а ўсё жыцьцё чалавека ў яго разьвіцьці і супярэчнасьці. Калі параўнаць поэтычны вобраз з музычным і малярскім, дык ён у дачыненьні да іх будзе зьяўляцца да некаторай ступені сынтэзуючым.

Такім чынам адрознасьць поэтычнай творчасьці ў яе выяўленчых сродках—у слове. Слоўная сыстэма абумоўліваецца лёгікай разьвіцьця вобразу ці вобразаў, якая, у сваю чаргу, зьяўляецца сыстэмай социяльнай. Наша разуменьне поэтычнае мовы ня мае нічога агульнага з формалістычным яе разуменьнем.

Азначэньне літаратуры павінна быць азначэньнем яе, як асобнага гатунку грамадзкай сьвядомасьці. Дзеля таго, каб азначэньне літаратуры было вычэрпваючым, трэба, каб у яго ўваходзілі дзьве адзнакі: родавая—спэцыфікум мастацтва і відавая—выяўленчыя сродкі; сынтэз гэтых двух момантаў і складае існасьць літаратуры. Вось чаму для літаратуразнаўцы-марксыстага павінна быць бясспрэчным азначэньне літаратуры, якое даў Бяспалаў. У сваім артыкуле „Проблемы літературной науки“ ён піша: „...об‘ект изучения науки в литературе можно было-бы отграничить, как образное сознание, овеществленное в словесной системе“ [1]).

[1]) Беспалаў, „Проблема литературной науки“. Литературоведение, зборник, бал. 27.

Творчасьць пісьменьніка марксысты разумее, як сыстэму вобразаў ці вобразу, разьвіцьцё якой знаходзіцца ў прычынна-вынікавай сувязі з разьвіцьцём социяльным. З такога разуменьня творчасьці выходзіць і патрабаваньне адпаведнага яе вывучэньня. Вывучэньне творчасьці пісьменьніка павінна ісьці пад знакам узаемадачыненьня суставаў яго творчае сыстэмы, пад знакам яе разьвіцьця і поўнага ўразуменьня яе соціяльнае існасьці, пад знакам каўзальнасьці, як адзіна-навуковага прынцыпу. Найлепшым прыкладам такога вывучэньня літаратуры сярод сягоньняшніх прац зьяўляюцца працы Перэверзева.

# КУЛЬТУРА МОВЫ

## Падоўжаныя (або падвойныя) зычныя і спосаб іх азначэньня на пісьме

1

Падоўжанымі (або падвойнымі) у пэўных выпадках бываюць бадай усе зычныя беларускага гукавога альфабэту. Часам такая падоўжанасьць зьяўляецца вынікам спалучэньня аднолькавых гукаў прыстаўкі і кораня слова (рас-сыпаны; аб-біўкі і да т. п.). Часам—мае інтонацыйнае пахаᴣэньне: зьᴣіўленьне, кліч, параўнаньне („а льліханька!“; „бррацятка“; „божжухна“; „вяльлікі, вялікі“; „цальлюткі ᴣень“...) Першая група не выклікае ніякіх непаразуменьняў у практычным карыстаньні, другая мае выключнае значэньне для мэлёдыкі мовы, але, паколькі гэта галіна ў нас ня вывучана, гаварыць пра яе не даваᴣіцца. Застаецца найбольш пашыраная частка, якая фактычна і вядома ў нас пад назваю падоўжаных або падвойных зычных і мае пэўныя спосабы напісаньня. З цьвярдых зычных сюды ўвахоᴣяць *ж*, *н*, *ц*, *ч*, *ш*, а з мяккіх *з'*, *л'*, *н'*, *с'*, *ц'*, *ᴣ'*. Прырода гэтых зычных грунтоўна высьветлена ў адмысловых артыкулах многіх дасьледчыкаў, а абагульненьне даᴣена акад. Е. Ф. Карскім („Белорусы“, т. II, в. 1, б. б. 358-374). Належную ўвагу вылучаюць гэтаму пытаньню і практычныя граматыкі, ᴣеля гэтага я доўга ля іх спыняцца ня буду. Зазначу толькі, што я далучаю да групы цьвярдых падоўжаных *ц* у ᴣеяслоўных канчатках („імгліцца“...) паводле тых меркаваньняў, як і *н* у прыметніках („каменны“...). Розьніцы ў працяжнасьці самога гучаньня ніякай ня бачу, ды і няма яе.

Перш-на-перш—сама назва гэтых зычных у нас не зьяўляецца ўстаноўленай канчаткова. Навуковая граматыка схіляецца да назвы *падоўжаныя зычныя* ў той час, калі практычныя граматыкі называюць іх бадай выключна *падвойнымі*. Паколькі ўжо сама назва часткова вызначае спосаб напісаньня, спынімся ля яе.

У пераважнай большасьці беларуская мова ня ведае падвойнасьці зычных—яны выключна падоўжаныя. Пра гэтае зьявішча акад. Е. Ф. Карскі кажа так:—„Оно состоит в том, что согласный звук протягивается в произношении, при чем это протяжение в разных говорах, в произношении отдельных лиц и даже в отношении к отдельным звукам бывает различно: от *почти* двойного согласного до вполне явственно произносимого одного согласного. *Вполне явственное произношение двух согласных, с некоторой паузой после первого, можно наблюдать лишь тогда, когда по особому, так сказать, наказу медленно произносят отдельное слово*“ (б. 358; курсыў мой). Аналёгічнае становішча наглядалася

і ў нашай старадаўняй літаратуры, чым і тлумачыцца адсутнасьць аднолькавасьці ў напісаньні падоўжаных зычных: над радком; над радком пад цітлам; у радку цераз адну літару (і мяккі знак для мяккіх зычных); у радку цераз дьве літары. Такая рознастайнасьць вельмі красамоўная сама па сабе. Зразумела, што ў літаратурнай мове, пры існаваньні пэўнага правапісу, такую пярэстасьць дапусьціць нельга. Нашы граматыстыя Б. Тарашкевіч і Я. Лёсік, сьледам за практыкай, узаконілі спосаб напісаньня двух зычных цьвярдых (збожжа, каменны) двух зычных цераз мяккі знак урэшце выпадкаў (насеньне, судьдя).

Такі спосаб напісаньня даў пэўную аднолькавасьць у правапісе, чаго ня было ў дачыненьні да падоўжаных зычных у нашым старадаўнім пісьме, а таксама замацаваў і, так сказаць, падкрэсьліў гэтую цікавую асаблівасьць нашае мовы.

У гэтым заключаецца вялікая каштоўнасьць разгледанага спосабу заслуга нашых граматыстых.

Але жыцьцё ідзе няспыняна. Паступова мы ўдасканальваем паасобныя свае дасягненьні. Прышла калейка і да альфабэту. На чаргу дню пастаўлена пытаньне пра паасобныя літары для згукаў (афрыкатаў) *дз дж*, пастаўлена пытаньне рацыяналізаваньня нашага альфабэту ў цэлым. Папярэднікі, пачынальнікі разьвіцьця беларускае культуры, правялі надзвычайна вялікую працу. За гэта—чалом ім. Тым ня менш, у кожнай вялікай працы бываюць маленькія недагляды, маленькія недакладнасьці. Гэта зусім натуральнае зьявішча, а пастаноўка пытаньня пра пазбаўленьне такіх недакладнасьцяй паказвае толькі на поступ культурнага жыцьця і павінна быць спаткана прыхільна, як факт няхільны і мэтазгодны.

На маю думку, такім маленькім недаглядам зьяўляецца занадта неэкономнае напісаньне падоўжаных зычных цераз дьве, тры і нават пяць літар. Такое напісаньне ня толькі супярэчыць навуковаму азнаэньню гэтых гукаў і фактычнаму становішчу, ня толькі зьяўляецца цяжкім для ўспрыйманьня ў шырокіх гушчах працоўных, але і вельмі неэкономнае. Праверым, наколькі грунтоўны гэтыя меркаваньні.

Я падаваў ужо вынятак з працы акад. Е. Ф. Карскага пра характар падоўжаных гукаў. У далейшым ён усюды, кажучы пра падваеньне, адразу-ж дадае „или усиленное его произношение“, а гаворачы пра самую цікавую групу падоўжаных зычных, вядомую ў нас пад назваю „падвойных мяккіх зычных“ [1]), фактычна руйнуе погляд на іх, як на падвойныя, а на прыкладах даводзіць іхную працяжнасьць. Каб не займацца пераказам, я падам гэта цікавае месца з ягонай працы цалкам.—„Тут обращают на себя внимание группы *д'з'д'з'* и *ц'ц'*. Если

[1]) Прыгадаю іхную характарыстыку, хоць яна з большага агульна вядома.—Вполне типичным белорусским явлением оказывается то удвоение согласного, или усиленное его произношение, какое происходит и теперь всякий раз, когда известным согласным приходится вследствие выпадения *ъ*, сталкиваться с *j*, стоящим перед гласным звуком (Е. Ф. Карскі, „Белорусы“, т. II, в. I, б. 361).

принимать в расчет только их свистящий звук, а не орфографию, то группы эти представляют только усиленное *д'* и *т'* мягкие свистящие, а не слишком сложные соединения, как может показаться, судя по орфографии. Однако, эти две группы в разных говорах, а иногда и в одном, но в речи разных лиц, представляют еще иного рода особенность: в них первый звук (*д* и *т*) может терять свой свистящий характер, т.-е. те минимальные *з* и *с*, которые с ними тесно слились; вследствие этого возможны более упрощенные группы *д'д'з'* и *т'ц'*; первая часть этих групп на мой слух даже представляется не мягким согласным" (б. 364).

Падобнае-ж, толькі крыху ў іншым кірунку, можна сказаць пра рэшту цікавых для нас зычных. Сапраўды яно так: можна гаварыць пра падоўжанасьць, працяжнасьць зычных менавіта аж да падвойнасьці, але нельга казаць пра выразную падвойнасьць. Да гэтага сьцьверѕаньня далучыцца кожны, хто знаёмы добра з народнаю вымоваю.

2

Апрача ўсяго іншага, ня лішне зьвярнуць увагу і на рыфмоўку ў нашай народнай і кніжнай поэзіі. Праўда, наша поэзія любіць асанаваную рыфмоўку. Але выключна гэтым нельга вытлумачыць вельмі пашыраны спосаб сулаѕаньня ў рыфме падоўжаных зычных са звычайнымі. Каб у гэтым разе была падвойнасьць, а не падоўжанасьць, мы не спаткалі-б такой рыфмоўкі бадай ува ўсіх нашых поэтаў. Возьмем некаторыя прыклады з народнае творчасьці (падаю іх у нашым сучасным напісаньні).—

— Ты, ѕяўчына, сіраціна!
— А ці-ж я ў тым вінна? (Шэйн, Б. П., № 277).

Трэці сяѕіць на каменьні,
ѕяржыць дуду на рамені (Б. П., № 470).

Мяцеліца, мяцеліца!
Чаму ѕеўкі ня целяцца? (Б. П., № 482).

Мая тонка, высока--пераломіцца,
твая груба, касавока—ды работніца (Б. П., № 519).

А сват з свацьцяй
паплёў лапці (Б. П, № 563).

Наляцелі жураўлі,
селі-палі на ральлі (Б. П., № 216).

На гарэ жыта, ня ярыца,
казалі мой муж ня п'яніца:
прапіў коніка, ня хваліцца (Б. П., № 434).

Колькасьць іх можна павялічыць, але цікава не яна, а самы факт. Асаблівай увагі заслугоўваюць два апошнія прыклады: *нават* каб у слове „ральля" мы ўмовіліся разглядаць *л'* як падвойны гук, чатыры папярэднія аѕіночныя цягнуць яго ад такой падвойнасьці (наляце*лі*, жураў*лі*, се*лі*, па*лі*). Тое-ж самае і ў апошнім прыклаѕе: у першым

выпадку ярыца, п'яніца (два адзіночныя) цягнуць за сабою падвойнасьць у слове „хваліцца“. Як пабачым далей, гэты цікавы ўжо з формальна-мастацкага боку прыём пашыраны ў нашых выдатнейшых поэтаў, асабліва ў Янкі Купалы. Для ўстанаўленьня пэўнай паступовасьці я падам прыклады з усіх беларускіх поэтаў да-нашаніўскага часу.

Любіла тож Тараса й паня,
І войт ні разу не збрахаў,—
За тое-ж ён балота з раньня
Да цёмнай ночкі пільнаваў („Тарас на Парнасе“).

... І ў яму старчаком лячу!
Ляцеў, ляцеў—як разануўся.—
Аж стала зелена ў ваччу! (Там жа).

Дзякуй жа, панічу, за тваё каханьне;
Мілейшы-ж мне Саўка у мужыцкім стане (В. Д.-Марцынкевіч).

Усю зіму возам цягне
Да вакзалу рана збожжа;
Ногі зьмерзнуць, сам засьмягне
А на хлеб кажух заложа (Ф. Багушэвіч).

Калі будзе вецер, маладзік настане
І каму якое дзе будзе спатканьне (Ён-жа).

Хто-ж іх знае, што за людзі?
Мы над новым пакаленьнем,
Шчыра кажучы, ня судзьдзі (Я. Няслухоўскі).

Як вядома, гэтыя пісьменьнікі былі добра зьвязаны з народнай стыхіяй і ў адсутнасьці пачуцьця слова іх зьвінаваціць нельга. Выразна адчуваецца, што яны ў выбары такіх рыфм кіраваліся пачуцьцём музычнасьці такіх прыгожых спалучэньняў, як падоўжаны і звычайны зычныя. Такое спалучэньне надае вершу вялікае хараство, нейкія аксамітныя тоны, калі дазволена зрабіць падобнае параўнаньне. Зразумела, што ніякага хараства ня было-б, каб у даным разе былі не падоўжаныя, а падвойныя. Нашаніўцы таксама не занядбалі на гэта. Нябожчык Максім Багдановіч, які трымаўся дакладнае рыфмы, тым ня менш даволі шмат вершаў рыфмаваў на гэтыя падоўжаныя.—

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, сьветлы столп спусьціў
І рызай срэбнаю раздольле...

... Хтось трапіў к збожжу ад крыніцы;
Ды вось і вузкі сьлед капытца...

... У родным краі ёсьць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваёй нуды...

... Стварыў усе багацтвы на зямлі,
Правёў ён скібы на раульлі...

У яго-ж далей: зямлі—былі—ральлі; крыніца—прабіцца; жамчужніцы—заварушыцца і г. д. Цікавым спосабам ужываў падобную рыфмоўку і Алесь Гарун, набліжаючы яе композыцыю да згаданай ужо народнай.—

Завіруха скача ноччу
Патарочай, плача, вые:
Пухавыя сыпе ў вочы
Сьнегавінкі мне. рагоча...

Як бачым, тут асноўная рыфмоўка „ноччу—вочы—рагоча“ сама па сабе цягне падвойнасьць да падоўжанасьці, каб гэтая падвойнасьць сапраўды была. Апрача таго, тры словы з адзіночным *ч* у сярэдзіне вершу канчаткова вырашаюць лёс падоўжанага (скача, патарочай, плача). Гэты спосаб, пашыраны ў народнай поэзіі, пашыраны і ў кніжнай, у нашых лепшых поэтаў—у Зьмітрака Бядулі, у Янкі Купалы, у Якуба Коласа. Я ня буду падаваць звычайных прыкладаў, бо іх трэба лічыць сотнямі (па тыпу „цені—насеньне“), а падам толькі выключна складаныя.—

А над імі ў адзіноце
Сеюць жудасьці страхоцьце (З. Бядуля).

Для нязначных жуткіх зданяў
У такім сваім убраньні.
Ў вечнасумным сьвяткаваньні
Ноч-царыца над зямлёю.
Сто сажэняў пад ральлёю (ён-жа).

Якуб Колас часта-густа рыфмуе падоўжаныя з падоўжанымі (здарэньне—імкненьне і да т. п.). Але не зьяўляецца выключэньнем з яго і рыфмаваньне падоўжаных са звычайнымі.

Так і піў бы дух зямлі,
І расьлі-б здаецца дзеці,
Каб іх кінуць на ральлі (Сымон Музыка).

... Сьвет закрылі,
Каб ня даць разьняць нам крыльлі,
Каб ня ўніклі ў вашы былі.
Але мысьль—ня ў вашай сіле... (там-жа).

Ці ня вам гэтых хмарак зарніцы
Песень бляскаў зьвіваюць вяночкі?
Выплываюць з усходу чаўночкі
Слугі сонцу і яснай дзяньніцы.
Каб дзяньку адчыніць акяніцы,—
Адсланяе граніцы
Гэта песьня паўночы... (там-жа).

Пададзеныя прыклады красамоўна падмацоўваюць выказанае мною раней меркаваньне наконт уплыву звычайных на зьмяншэньне падоўжанасьці ў разгляданых намі зычных. Але найбольш дасканалыя ўзоры, пастаўленыя на вялікую вышыню і даведзеныя да пэўнага канону, мы знаходзім у Янкі Купалы. У гэтым кірунку ён стварыў пэўныя нормы, якія знайшлі сваё адлюстраваньне ў творах бадай усіх сучасных лепшых беларускіх поэтаў (Крапіва, Язэп Пушча, П. Глебка, М. Лужанін,

Ул Жылка, Т. Кляшторны і г. д.). Я ня буду падаваць прыкладаў з апошніх, а затрымаю ўвагу на рознастайных прыкладах з твораў Янкі Купалы. Зьвярну ўвагу толькі на тое, што калі ў папярэдніх поэтаў рыфмоўка падоўжаных з падоўжанымі таксама займае не малое месца, дык Янка Купала бадай выключна рыфмуе падоўжаныя са звычайнымі. Як ужо я казаў, гэта ў яго даведена да пэўнага канону. Возьмем спачатку некалькі звычайных прыкладаў.—

Сягні ў даўно заснуўшыя сталецьці,
Заслону дзён уцёкшых адхілі,
І глянь, як сёньня твае жывуць дзеці,
Як ты жывеш на прадедаў зямлі (т. V, б. 15).

Ты на бацькаўскім, моладзь, кургане
Узьнясеш нездабыты пасад,
Што расточыць сваё панаваньне
На ўвесь край, дзе сягне твой пагляд (б. 22).

Ня варта гэтак расьпінацца,
Мае шмялькі, ў чужым вульлі.
Зацесна вам у нашай хатцы—
Гайда! туды, адкуль прышлі (б. 33).

Ідзі, куды нядоля гоне,
Рабі, што скажа ўсё яна.
Будзь рад, калі пад'еў сягоньня;
Мучэньня чарку пі да дна (б. 58).

Зьлятаюцца ды дзіка гракаюць вароны..
Ідзе вясна... Каб быццам сьвет збудзіці сонны (б. 72).

Ў бездарожжа, ў бяспрыстаньне
Едуць, едуць паяжджане (б. 87).

Цень з таго сьвету ўстане мой ноччу,
Прыдзе пад вашы сховы гнілыя.
І засьмяецца грозна ў вочы,
Аж ваша хэўра гібельна ўзвые (б. 124).

Я ўзяў найбольш тыповыя прыклады, можна сказаць, першыя-лепшыя, ня шукаючы іх. Даволі-ж крыху прыглядзецца, каб падаць у якасьці прыкладаў складаныя, таксама ў любой колькасьці, па тыпу ўжо разгляданых у народнай поэзіі, у А. Гаруна, З. Бядулі і Якуба Коласа.

Не прамог, злажыў аружжа;
як быў дужы—стаў нядужы (б. 41).

Ночкай, вечарам, зараньня
маці-ўдоўка выйдзе, гляне,
выйдзе, гляне—стане досіць..
Просіць бога... не дапросіць (б. 40).

І галубіць шлях бледны зямлю яснавіцай,
Сочыць вочак мільёнамі долю людзкую,
То сьвятлей, то мглісьцей зацьвітае, мігціцца
Сее скрозь ні то сон, ні то яву такую (б. 91).

Зялёнае поле рунеючым збожжам,
Цьвітучае ў сонечны цьвет сенажаць
Мне песьню квяцілі узорам прыгожым,
Вучылі, як слова ў вянок завіваць (б. 135).

Абеглы прагляд пададеных прыкладаў як нельга лепш падмацоўвае сьцьверданьне, што мы маем у сваім гукавым альфабэце не падвойныя зычныя, а падоўжаныя. Прыклады ўзяты мною ад народнай поэзіі цераз усю нашу сучасную поэзію. Прыклады гэтыя я не выбіраў адмыслова, а проста ўзяў іх, раскрыўшы кніжку на любой балоне. Кожны, хто захоча працягнуць такую работу далей, можа зрабіць гэта вельмі лёгка. Але справа, бязумоўна, ня ў колькасьці прыкладаў. Красамоўнасьць іх заключаецца менавіта ў падмацаваньні нашага асноўнага палажэньня.

Наколькі аўторытэтны такія прыклады? Наколькі компэтэнтнымі і верагоднымі сьведкамі могуць быць у падобных пытаньнях менавіта поэты? Ці не зьяўляецца і тут звычайная поэтычная выгадка?

Так, бясспрэчна, што поэты часам даюць адхіленьні ад нормы, у шуканьні прыгожасьці даюць і шмат няпрыгожага. Рыфмуючы—часам зрыфмуюць зусім не рыфмавальныя складкі. Усё гэта *так* наогул, але ўсё гэта не падыходзіць у гэтым выпадку.

Я зусім сьвядома ўзяў прыклады не з аднаго якога поэты, а з усіх нашых выдатных поэтаў. Знайшліся яны нават у Максіма Багдадановіча, для якога больш уласьціва, як было казана, дакладная або клясычная рыфма. Ня можа быць абсолютна ніякое гутаркі пра выпадковасьць: тэорыя верагоднасьці выступае супроць падобных абвінавачваньняў.

Таксама нельга зьвінаваціць усіх згаданых мною поэтаў у адсутнасьці ў іх пачуцьця слова, музычнасьці. Наадварот, у асобе іх мы маем выдатных знаўцаў народнае мовы і творчасьці, яны далі і даюць бездакорныя, беззаганныя з эўфонічнага боку творы. Што датычыць Я. Купалы, у якога, як я казаў ужо, больш за ўсіх пашырана такая рыфмоўка, дык аналіз ягонай творчасьці даводзіць, што ён стаіць на недасяжнай вышыні і ў дачыненьні да эўфоніі даў шмат узораў дасканалай мілагучнасьці, роўных якім ёсьць мала ў сусьветнай поэзіі. Пра гэта ўсё я згадваю для таго, каб паказаць, што і разгляданы намі прыватны выпадак зьяўляецца не адмоўным, а станоўчым зьявішчам, зьяўляецца пэўным дасягненьнем. Апрача ўсяго іншага, гэтыя прыклады даюць аўторытэтнае пасьведчаньне ўстаноўленага вучонымі закону, што зычны гук толькі „протягивается в произношении“, што ён не зьяўляецца падвойным.

## 3

Другое меркаваньне, якім я кіруюся, выступаючы супроць сучаснага напісаньня падоўжаных зычных гукаў, гэта тое, што яно „зьяўляецца цяжкім для успрыйманьня ў шырокіх гушчах працоўных“. Ці трэба ўгрунтоўваць яго? Мне здаецца, што не. Той, хто спатыкаўся з гэтым на практыцы ў вёсцы, прыме гэтае палажэньне на падставе ўласнага досьведу і практыкі. У кожным разе прыгадаю, што самым цяжкім зьяўляецца ўтлумачыць селяніну тое, чаму фактычна адзін гук

передаецца аж цераз пяць літар („судзьдзя“). Практычны розум ніяк ня можа ўцяміць патрэбы гэтага. Ды і наогул цяжка мірыцца з такім напісаньнем...

Больш цікавым зьяўляецца трэцяе меркаваньне пра неэкономнасьць. Прызнацца, калі я сам узяўся вылічаць усю гэтую неэкономнасьць на паперы, дык доўга ня верыў у атрыманыя падрахункі. Дзеля гэтага і прашу шаноўных чытачоў абавязкова праверыць мае вывады на другім матар'яле самастойна. Мае вывады грунтуюцца на наступным матар'яле.

Я ўзяў артыкул Адама Бабарэкі „Беларуская літаратура да X гадавіны БССР“ (Узвышша, 6(12) 1928, б. б. 93—103) і падлічыў у ім усе лішнія літары, пакідаючы на кожны гук толькі па аднэй літары (сюды увайшлі, між іншым, *дз* і *дж*). Атрыманы былі такія вынікі (праз усе балоны папарадку): 52, 80, 40, 60, 46, 50, 51, 63, 53, 63, 32, або 590 лішніх літар на 22.880 зьмешчаных у гэтым артыкуле. Адгэтуль %=2,57. У аднаго аўтара можа быць большы процант, у другога—меншы. У кожным разе, спыняцца на адным нагляданьні нельга. Я ўзяў далей на выбарку па аднэй балоне ў многіх аўтараў яшчэ, прычым ня толькі пісьменьнікаў, але і палітычных дзеячоў, вучоных. Пра вынікі гаворыць наступная табліца (балоны рознага формату, затым бывае вялікая розьніца ў колькасьці літар).

| | Колькасьць лішніх літар на балону, або ў матар'яле | % |
|---|---|---|
| 1. Антон Адамовіч (Узвышша, 5,11) б. 133) | 53 | 2,4 |
| 2. Адам Бабарэка » 6(12) б. б. 93—103 | 590 | 2,5 |
| 3. » » » 3(9) б. 141 | 80 | 2,9 |
| 4. » » (Маладняк, 10, 1926, б. 87) | 69 | 3,6 |
| 5. Зьмітрок Бядуля («Салавей», 1928. б. 62) | 15 | 1,2 |
| 6. М. Галадзед (Справаздача ў Зьвязьдзе, сьнежань, 28) | 60 | 1,8 |
| 7. М. Гарэцкі (Выпісы, ч. II, б. 196) | 38 | 1,3 |
| 8. Ус. Ігнатоўскі («Маладняк», 10, 26, б. 51) | 41 | 2,4 |
| 9. Якуб Колас («Новая Зямля», б. 218) | 21 | 2,4 |
| 10. Крапіва («Узвышша», 3(9), б. 102) | 41 | 1,5 |
| 11. Я. Купала (т. V, б. 80) | 10 | 1,6 |
| 12. Ф. Купцэвіч («Узвышша», 6(12), б. 110) | 35 | 1,5 |
| 13. Г. Парэчын («Наша констытуцыя», 1928. б. 174) | 20 | 1,7 |
| 14. Я. Пушча («Узвышша», 3(9) «За бяседным сталом») | 22 | 2.1 |
| 15. А. Сержпутоўскі (Казкі, 1926, б 146) | 30 | 2,1 |
| 16. А. Чарвякоў («Да перав. саветаў», 1928, б. 38) | 40 | 1,9 |
| 17. Кузьма Чорны («Узвышша», 6(12) б. 91 | 61 | 2,6 |
| 18. В. Шэйн (т. II, б. 8) | 30 | 2,0 |
| Сярэдні процант | — | 2,08 |

Дапусьціўшы думку, што я ḑе-небуḑь мог залічыць лішнюю літару, або ў якога-небуḑь аўтара можа аказацца больш нізкі процант, я адкідаю 0,08 проц. Такім чынам застаецца, што ў агуле лішнія літары (уключаючы і падвойнае напісаньне *дз* і *дж*) займаюць у нас, як правіла, 2 проц. Іншымі словамі кажучы: ***два проценты усяе нашае кніжнай прадукцыі займаецца лішнімі літарамі з прычыны недасканаласьці нашага альфабэту.***

Пры сучасным крызісе паперы, пры прагалашэньні і ажыцьцяўленьні намі лёзунгу рэжыму эканоміі мы трацім марна два проценты ўсяе паперы, аплачваем два проценты лішняга набору і г. д. і г. д. Паўстае запытаньне, колькі-ж мы трацім кожны год на нерацыянальнасьць нашага альфабэту? Колькі новых кніжак можна надрукаваць замест друкаваньня лішніх літар? Прыблізны падрахунак я зраблю тут. Больш дасканалы няхай зробяць мае крытыкі.

| НА ШТО ТРАЦІЦЦА ПАПЕРА | Выдатак на год газэтнай паперы ў кілёграм. | | Кніжная аркушовая папера | Колькі на год траціцца паперы на друкаваньне лішніх літар | | Прыблізны кошт |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рулон. | Аркуш. | | У арк. | У клг. | |
| 1. На друкаваньне газэт «Зьвязда», «Беларуская вёска», «Савецкая Беларусь», «Чырвоная Зьмена» | 384360 | — | — | — | 7687,2 | 2311,80 |
| 2. На друкаваньне газэт «Магілеўскі Селянін» і «Камуніст» | — | 78000 | — | — | 1560,0 | |
| 3. На друкаваньне часопісяй у БССР (замест тых, якія друкуюцца парасейску, можна залічыць усю іншую непрадугледжаную беларускую прадукцыю) | — | — | 2249000 | 44980 | | |
| 4. Пэрыодыка беларускага дзяржаўнага выдавецтва ў 1927-28 г. | — | — | 219000 | 4380 | 19680 | 8265,60 |
| 5. Кніжная прадукцыя за той жа кругабег | — | — | 13932000 | 278640 | | |
| Разам | — | — | — | — | 28927,2 | 10577,40 |

Такім чынам, бадай дваццаць ḑевяць тысяч кілёграмаў, або 1766 пудоў паперы на год мы трацім на гэтыя самыя лішнія літары. Ḑесяць тысяч рублёў выкідваецца толькі на адну паперу. А яшчэ да гэтага трэба дадаць кошт набору, гонорар, афармленьне, што падвоіць гэту лічбу, давёўшы яе да 20-25 тысяч. ***Сто або нават сто дваццаць пяць тысяч рублёў мы затрацім на лішнія і непатрэбныя фактычна літары на працягу гэтай пяцілеткі.*** Факт, які прымушае задумацца. Калі дапусьціць, што я ḑе-небуḑь памыліўся, усё-ж сума застанецца вялікай, усё-ж яна прымушае нас паставіць пытаньне на вырашэньне.

4.

Што-ж я прапаную ў зьвязку з гэтым? Ня вынік поэтычнае фантазіі, не які-небудзь вокамгненны капрыз, а пабудаваны на навуковай і рацыянальнай аснове проэкт замены шматлітарнага напісаньня падоўжаных зычных адналітарным, са знакам падоўжаньня над літарамі. Непараўнана лягчэй і больш мэтазгодна напісаць адну літару са знакам падоўжаньня, чымся пісаць тры, а нават і пяць літар. Проэкт мой грунтуецца ня толькі на агульна-пашыраным у міжнароднай практыцы спосабе напісаньня падоўжаных гукаў, але і на старой беларускай традыцыі, якая выпрацоўвалася на працягу стагодзьдзяў. Розьніца між старым спосабам і маім проэктам тая, што даўней падоўжаныя пісаліся над радком, „взметывались под титлом“, як зазначае акадэмік Е. Ф. Карскі. Апрача таго, новаю і фактычна спрэчнаю зьяўляецца мая прапанова занесьці ў дачыненьні да напісаньня ў катэгорыю працяжных *н* у прыметніках („каменны“) і *ц* у дзеясловах („імгліцца“). У друку ўсё гэта будзе мець вельмі добры і прыгожы выгляд. Я не падаю тут малюнкаў, бо кожны можа лёгка уявіць сабе такое напісаньне, паставіўшы над адпаведнымі літарамі знак адваротны таму, які ставіцца над „й“.

Запроэктаванае напісаньне зьяўляецца вельмі лёгкім для успрыйманьня. Ня трэба тлумачыць кожную літару, а трэба растлумачыць сутнасьць знаку падоўжаньня адзін раз для ўсяго альфабэту.

Ня трэба забывацца і на тое, што такое напісаньне значна дапаможа і пры карыстаньні помнікамі старадаўняй беларускай літаратуры.

На гэтым выпадае і закончыць артыкул. Спадзяюся, што прыязныя чытачы неўзабаве пакажуць на яго хібы, або далучаць свае галасы да майго. Справа разьвіцьця культуры — справа ўсіх нас, а не паасобных спэцаў. Дапамажэце-ж парадаю сваёю, або крытыкаю[1]). Кажучы-ж словамі даўняга вучонага нашага Лаўрына Зізаняга: „Пріимѣте друзи мои възлюбленніи вдячне тоую мою малоую працу, а о большей самися постарайте, иншых и мене оувеселяйте“.

9 лютага 1927 г.
Масква.

**Ул. Дубоўка**

---

[1]) *Ад рэдакцыі.* Рэдакцыя просіць чытачоў прысылаць свае заўвагі да Дубоўкавага проэкту на адрас часопісі. Адначасна паведамляем нашых чытачоў, што літары да проэкту ўжо робяцца і пачынаючы ад № 3 нашай часопісі будуць друкавацца ў аддзеле «Культура мовы».

# Пра слова „вытварацьʺ

Няѕзіва, што „Беляржбуд „вытварае работы па пабудове унівэрсытэцкага гарадкуʺ, што Народны Камісарыят Фінансаў „вытварае спагнаньнеʺ падаткаў, а міліцыя „вытварае выкананьнеʺ пастановы суда і г. д. і г. д. (прыкладаў набраць можна вельмі шмат), бо ў нашых „практычныхʺ слоўніках гэтае слова паказана няправільна. У слоўніку М. Байкова і С. Некрашэвіча расійскае слова „произвестиʺ перакладаецца „вытварыцьʺ, а, значыцца, расійскае—„производитьʺ буѕе „вытварацьʺ. У слоўніку М. Байкова і М. Гарэцкага расійскае слова „производитьʺ перакладена „вытварацьʺ і там-жа ад гэтага слова „навытваранаʺ ліха ведае колькі такіх жа няправільных слоў перакладаў („вытвор, вытворца, вытворчасьць, вытворчы, вытвары, вытворныʺ). І цікава, што ніводзін „практычныʺ слоўнік не паказаў сапраўднага сэнсу гэтага слова, сэнсу, у якім яно ўжываецца народам.

Нават у школьнай граматыцы Яз. Лёсіка „кожная прыстаўка вытварае асобнае словаʺ, ня кажучы пра розныя школьныя праграмы па граматыцы, ѕе лёсікаўская тэрмінолёгія пераймаецца цалкам. Дый наогул на ўсю нашую літаратурную мову нападае пошасьць слова „вытварацьʺ у сэнсе расійскага „производитьʺ („вытворчасьцьʺ сельскай гаспадаркі, працуе на „вытворчасьціʺ, „вытворчасьцьʺ працы і г. д. г. д.). І пакуль ня позна, з гэтаю пошасьцю трэба змагацца. Цікавячыся гэтым пытаньнем, я прасачыў як гэтае слова ўжываецца ў розных мясцох Беларусі. Выходзіць, што слова „вытварацьʺ пашырана па ўсёй Беларусі. Ужываецца яно ў Гораѕеншчыне, Віленшчыне, Меншчыне, Віцебшчыне, Магілёўшчыне. І ўсюды ў адным толькі сэнсе, у сэнсе: „выделывать, хулиганить, проказничатьʺ і ніѕе—у сэнсе „производитьʺ.

„Вытварацьʺ Насовіч перакладае: „выделывать, натворить, выходить из границ в поступках своихʺ і там-жа дае прыклады: „Гляѕі, якія ён вытвараець штукі. Што ты тут вытварыў?ʺ А слова „вытварыццаʺ—перакладае: „твориться“—прыклады: „Не давяѕі бог, якое там ѕіва, ліха вытвараецца, вытварылась“.

У Віцебскім краёвым слоўніку М. Касьпяровіча яно перакладзена, як: „шалить выдумыватьʺ—прыклады: „Ты толькі вытвараеш (Стрэлкі, Беш. р.)ʺ.

На Гораѕеншчыне (у Сакольшчыне) гавораць: „Што ты там вытвараеш (вычаўпляеш)? А на вясельлі якія ён штукі вытвараў. Напіўшыся, яны і пачалі рознае вытварацьʺ.

У Магілеўшчыне (у Чавускім раёне) і ў Меншчыне (Сьмілавіцкі раён, і Капыльскі р.) „вытварацьʺ ужываецца ў такім самым сэнсе, як у іншых мясцовасьцях Беларусі, у сэнсе—„натворить, выделывать, хулиганитьʺ. І „вытворныʺ хутчэй буѕе „хулиганскийʺ, чымся „производныйʺ ці „производственныйʺ, а „вытворцаʺ хутчэй буѕе „хулиган, проказникʺ, чымся „производительʺ.

Як-жа перакладаць на беларускую мову расійскія словы „производить, производство, производный, производительʺ і інш.? Аднаго беларускага слова на ўсе разы тут вызначыць немагчыма дый няма патрэбы, бо, перакладаючы, нельга перакладаць слова ў слова. Замест „Беляржбудʺ „вытварае работы па пабудове ўнівэрсытэцкага гарадкуʺ лепш напісаць: „Беляржбудʺ будуе ўнівэрсытэцкі гарадок, ці унівэрсытэцкі гарадок будуецца „Беляржбудамʺ. Замест „вытварае спагнаньнеʺ—спаганяе, „вытварае выкананьеʺ—выконвае. „Работает на производствеʺ—працуе на фабрыцы.

„Производительность сельского хозяйства, промышленностиʺ—прадукцыйнасьць сельскай гаспадаркі, прамысловасьці.

„Производительность трудаʺ—прадукцыйнасьць працы.

„Бык-производительʺ—бугай.

„Производство машинʺ—выраб машын.

„Делопроизводствоʺ—справаводзтва.

„Произведения промышленности"—вырабы (продукты) прамысловасьці,
—прамысловыя вырабы (прадукты).

„Литературное произведение"—літаратурны твор.

„Производные слова (грамм. формы)"—выводныя (здабытыя) словы.

„Производственный план"—апэрацыйны (выробны) плян.

„Производственные отношения"—выробніцкія адносіны.

„Производство средств производства"—прадукцыя сродкаў **выробніцтва.**

**М. Карповіч**

# СЛОВА—ЧЫТАЧУ

## Апавяданьні Васіля Каваля

Творчасьць Каваля—дужа маладая. Яна выклікала шэраг невялічкіх рэцэнзій, часта-густа супярэчных у сваіх ацэнках.

Праўда, усе выказваньні пра гэтую творчасьць сыходзяцца на адным: на прызнаньні ў ёй значных задаткаў і магчымасьцяй. Гэта надказвае патрэбу агляду дзьвюх кніжак апавяданьняў - „Як вясну гукалі“ (1927 г.) і „На загонах“ (1928 г.),

Першы зборнік—„Як вясну гукалі“ найбольш характарызуе апавяданьне, што займае большую частку яго „Сяльчане“. Яно мае на мэце даць малюнкі рознастайных момантаў жыцьця сучаснай вёскі на працягу ўсяго году: вясна—раніца, поўдзень, вечар, лета—пакос, жніво, восень, зіма і зноў вясна—поўны круг. Усе рознастайныя абразкі сялянскага жыцьця ў ім выяўляюцца пераважна ў трох асноўных тэмах: сялянская праца, новы быт і рэшткі старога быту. Але гэтыя абразкі сялянскага жыцьця, як бы растаюць у асабовых пачуцьцях аўтара.

Апрача таго, гэтыя абразкі зьяўляюцца вынікам мімалётных, нагляданьняў—глянуў чалавек—запісаў, глянуў—запісаў, дык няма ў іх пэўнай упутранай сувязі.

Усе сяляне ў Каваля як быццам-бы беднякі, прынамсі, ў вёсцы Емарова толькі „некалькі двароў ёсьць новых, а то ўсё старыя, з абваленымі вугламі, скаціну яны кормяць струшанкаю“.

Магчыма, што вёска, якую меў на ўвазе аўтар, пішучы гэтае апавяданьне, і складалася з адных беднякоў.

Другі зборнік пачынаецца казкаю „Сіла зямлі“.

„Сіла зямлі“—гэта гісторыя чалавецтва ў прымітыўным пераказе, з ведамі з фізыкі і геаграфіі:

> „Няма на ёй (на зямлі. Г. С.) ні канца, ні пачатку, і прайдзі, чалавек, калі зможаш, кругом—прыдзеш на тое-ж месца!“

Якіх-небудзь новых ці самабытных думак тут няма, і толькі маладзы запал можа апраўдаць гэты твор.

Наступнае апавяданьне—„На загонах“ ужо мае сваю акрэсьленую тэму.

Тут маем і рэволюцыйную сьвядомасьць (у вобразе Андрона), і нават псыхолёгічныя мотывы—дагэтуль Каваль аглядаўся толькі ў сваёй уласнай душы, цяпер пачынае заглядаць і ў чужую, маем і ўспамінаньне пра вайну і праводзіны рэкрутаў. Але на наш погляд якраз у вапошнім—слабое месца апавяданьня,

Трэцяе апавяданьне—„Дзед Піліп“ малюе портрэт старога Піліпа і яго скананьне.

У апавяданьні „Ноч“ супроцьстаўляюцца дьве асобы—Алісей Сімчанок, адін з тых, што будуюць новае жыцьцё, і пячнік Халімон, безнадейны п'яніца, прадстаўнік старога быту. Сюды-ж устаўлены, у форме апавяданьня, эпізод з грамадзянскай вайны.

Нарэшце, апошні разьдел зборніка—вершы прозаю, тэмы якіх—думы аўтара аб сваім жыцьці і жыцьці наогул, аб маці—яе вобраз, супроцьстаўленьне сьветапоглядаў яе і аўтара, сьмерць маці.

Аглядаючы тэматыку зборніка наогул, трэба зазначыць, што тут ужо значна менш лірыкі,—відавочнае сьведчаньне большага ўзросту аўтара, калі ён імкнецца выразіць свае думкі і настроі ня простым выказваньнем іх, а перадачай праз малюнкі жыцьця. Лірыка другога зборніка носіць больш сталы характар.

Тыпы сялян у Каваля ня надта рознастайныя, але яны праходзяць перад чытачом даволі доўгай чарадой.

Папершае, выводзіцца шмат фігур, якія самі зьяўляюцца толькі фонам, зьліваючыся з агульнымі абставінамі дзеі. Гэта: Даніла з апавяд. „Як вясну гукалі“, які праходзіць сумным ценем на фоне радасных веснавых мотываў і ў пэўнай меры зьліваецца з імі; у апавяд. „Сяльчане“ ёсьць цэлы шэраг асоб, пра якіх мы нічога ня ведаем.

Таксама слаба выведзены два дзяды—стары Макар ды дзед Лявон, дужа падобна адін да аднаго, Алена, сэкратар ячэйкі Сяргей і інш.

Трошкі больш абрысаваны фігуры—Нічыпар, высокі, моцны чалавек, які карыстаецца пашанай. Ён моцна трымаецца на зямлі, лічыць сябе практычным чалавекам, але карысьць для сябе бачыць і здабывае толькі ў цяперашнім, у далейшае-ж ён не заглядае. Ён упарта трымаецца старых парадкаў і перашкаджае новаму, якое ўводзіць моладзь. У сям'і трымаецца начальнікам, б'е жонку.

Пераходным тыпам да чалавека з больш паступовымі поглядамі зьяўляецца Халімонаў Адась. У вайну ён прыйшоў з Польшчы ды пачаў жыць са ўдавой Грыпінай, якая на дванаццаць год старэй за яго. — „Заела ты, сволач старая, мяне“—скардзіцца на яе Адась. Ён хоча пайсьці ў сьвет, адшукаць новае лепшае жыцьцё, але ня мае сілы пакінуць жонку з дзяцьмі, з гора п'е, а „нешта цягне чалавека, захапіць каб адным абыймам, прымушае нешта шукаць нечага“. Сіла ўсё-ж у ім ёсьць, і ён з упартасьцю працуе на зямлі.

Праўдзівым вясковым актывістым выводзіцца ўжо Канцавы Зьмітрок.

Вельмі падобным да яго зьяўляецца Алісей Сімчанок з апав. „Ноч“ (зб. „На загонах“), праўдзівей нават Алісей—гэта той самы Канцавы ў больш разгорнутым выглядзе. Ён—бядняк, хадзіў па заработках, быў у Чырвонай арміі—„чалавек усяго паспытаў у жыцьці і многа чаго зразумеў“. У вёсцы ўзяўся за грамадзкія справы, сяляне сталі слухаць яго. На ягоным твары заўсёды ляжыць выраз заклапочанасьці справаю. І думы яго—

„Устрывожыць-бы чалавека, падняць яго на ногі ды сказаць: „ты—чалавек! А раз так—не рабі подласьці, жыві па праўдзе, дружна...“

Усім гэтым тыпам супроцьстаўляюцца Курыла Жук (апавяданьне „Сяльчане“) і муляр Халімон (апавяд. „Ноч“), якія таксама зьяўляюцца як-бы адным вобразам, толькі на розных, але недалёкіх, ступенях разьвіцьця.

Халімон ужо і свае гаспадаркі ня мае, „ходзіць ён ад вёскі да вёскі з цагельнай формаю ў руках. Робіць цэглу, кладзе печы“. Ён заўсёды чорны, п‘яны, з адборнай лаянкай. Што ні заробіць—усё прап‘е. Ён „усякай бяды можа натварыць. Ад мінулага ў яго засталося ўсё гэта“, гаворыць аб ім Алісей Сімчанок.

Найбольш выразна выяўленым тыпам зьяўляецца дзед Пілiп з апавяданьня таго-ж назову ў зб. „На загонах“.

За сваё жыцьцё дзед Піліп шмат чаго бачыў, многа крыўды перажыў, памятае яшчэ прыгон. Ён расказвае розныя байкі, песьні і казкі, укладаючы ўсю душу ў іх, а таксама добра грае на дудках.

Цікавы вобраз папа Назара Мікольскага. Ён „да царквы ставіцца абыякава, у сям‘і нялад́зіца“. Заўсёды сумны і задумёны, ён повен дум аб вялікім і неразьвязаным, што паўстае перад ім. У выніку гэтых дум ён „адрокся ад царквы, скінуў з сябе вопратку папоўскую і працуе цяпер на зямлі“.

Трохі ў іншым асьвятленьні бачым мы тыпы ў апавяд. „На загонах“. Тут супроцьставяцца, праўда, вельмі павярхоўна і ў нязначнай меры, селянін і начальства ў выглядзе земскага і пісара.

Селянін—Максім Холад—

> „многа сіл паклаў на зямлю, бо любіць яе лепш, чым жыцьцё...“ „ішоў у карчму ў невясёлыя часы, напіваўся там да паўсьмерці, а на другі дзень працаваў ледзь не да сьмерці, каб забыць мужычае гора...“.

Звычайна ён—ціхі чалавек, але, калі яго садзяць у халодную, ён, поўны абурэньня, выхапляе нож і ўдарае ім старасту Макея. У жаху ён уцякае і ў лесе, баючыся, што яго павесяць ці сашлюць на катаргу,—сам вешаецца. Усё добра, селянін як селянін, але вось наконт самагубства, дык яно слаба матывавана ў апавяданьні. Здаецца, што аўтар павесіў Максіма Холада сам.

Другі прадстаўнік сялян—Андрон. Яму—„буйнаму мужыку з сілай мядзьведзя—хацелася размаху і шырыні“. І на сяле гаварылі, што ён разумны чалавек але „разгульны“—у пятлю можа папасьці. Андрон прыносіў аднекуль газэты, кніжкі і цішком чытаў іх сялянам, гаварыў аб лепшым жыцьці, аб крыўдзе сучаснага жыцьця, узьнімаў голас і супроць вайны.

Наўсупроць гэтым сялянам выводзіцца стараста Макей—„хітры, багаты мужык“, якога пісар уважае за адзінага „ідэёвага“ мужыка.

Да гэтай-жа групы „начальнікаў“ належыць і земскі, які мяккім голасам расказвае пісару пра баль у губарнатара, пераконваючы яго ў той-жа час у сваім замілаваньні і павазе да мужыка, „галоўнае таму, што ён—ціхі, уласнымі мазалістымі рукамі здабывае хлеб“... Але калі перад ім зьяўляецца гэты мужык, ён думае: „супакою не даюць“,

злуецца і канчае сваю гаворку з ім пагардальным —„Іды-ё-т-ты..“ Сюды-ж можна далучыць і пісара, які старанна паўтарае кожны выраз настрояў свайго начальніка і ўрадніка абы якога ў дачыненьні да тых, каго яму прыхоѕіцца ваѕіць пад арыштам—бо шмат іх было. Аднак, вобразы гэтых апошніх асоб—традыцыйныя маскі, якія не прадстаўляюць нічога цікавага ці новага.

Такім чынам, мы бачым, што Каваль імкнецца зарысаваць усе тыя тыпы, якія сустракаюцца ў вёсцы.

Цікава, што Каваль дае толькі тыя абразкі з сялянскага жыцьця, ѕея ў якіх адбываецца на вуліцы. Толькі раз у вапавяданьні „Сяльчане“ і другі раз у вапавяд. „Ѕед Піліп“ мы ўваходзім у хату, каб пабачыць ѕеда Кліма і ѕеда Піліпа, якія амаль што ня выхоѕяць з хаты. Але і ў гэтых выпадках хатняе жыцьцё селяніна застаецца па-за полем пісьменьнікавай увагі.

Аднак усё-ж вёска—асноўная стыхія творчасьці Каваля. Чытаючы яго творы, кідаецца ў вочы, што піша гэта не об'ектыўны назіральнік, а чалавек, моцна зьвязаны з усім тым, аб чым ён піша. Каваль моцна любіць сваю вёску, сваіх сяльчан, глыбока працяты інтарэсамі вяскоўца.

Паміж вясковых людзей Каваль асабліва адзначае вясковую моладзь, пра якую гаворыць шчырымі ласкавымі словамі, і людзей, якія імкнуцца стварыць на вёсцы новае жыцьцё.

„Хочуць будаваць яны новае, недаробленае іншымі, на тых загонах, ѕе цяпер і ляжыць белы сьнег“.

Дый сам ён з гэтай-ж моладзі; уся яго творчасьць прасякнута радасьцю жыцьця.

У першым зборніку радасьць носіць яшчэ немотываваны характар,—гэта проста радасьць адчуваньня вясны—у прыроѕе і ў сваім жыцьці:

„Калі вясна й сонца, тады пяюцца журліва-вясёлыя песьні аб вясьне, тады нейкая маладая радасьць, быццам поўніцца ў жыцьці тое, што было важнага незапоўненым“.

Але таму, што гэтая радасьць яшчэ не мотывавана, яна мяжуецца з незразумелым сумам:

„І радасьць—і сум... А можа гэта ад таго, што і ў жыцьці вялікая радасьць заўжды мяжуецца з незразумела ціхай салодкай журбой?“

Гэта прычыняецца да таго, што Каваль нават як-бы „не адрозьнівае абодвух настрояў“.

„Сум і радасьць—жніво“.

Шэпт лісьця „у думках гоніць ціхія, маўклівыя радасьці- сум, апранутыя ў ѕеньне жаўцелі“.

У бары з жалем галосяць сосны... ці сум чуецца, ці радасьць?

Тая-ж немотываванасьць у настроях выклікае і сусярэданьне маладых сіл Каваля на думках, якія мяжуюцца з марамі:

Думы—часты мотыў першага зборніка. Цікава, што на 60 балонах тэксту 40 разоў паўтараецца слова „думка“, г. зн. у сярэднім па адным слове „думка“ праз кожныя паўтары балоны.

Аднак, ў першым зборніку ёсьць думкі, у якіх выяўляюцца больш выразна і сталыя адчуваньні.

У другім зборніку радасьць і адчуваньне сілы ўжо набываюць іншы сэнс.

„Старое забрусанае вогнішча“ выклікае захапленьне праціlежным—і Каваль з усёй сілай сваёй маладосьці імкнецца да новага, сьветлага і моцнага.

Так, ад адчуваньня „нікчэмнага“ і „змрочнага жыцьця праз радасьць маладосьці і сум няяснага імкненьня Каваль прыхоѕіць да больш сьвядомага погляду на сваё дачыненьне да вакольнага сьвету, бачачы перад сабой ужо і пэўную мэту.

Цяпер радасьць у аўтара ня проста вынік добрай пагоды ці вясновых настрояў, за ёю стаіць сьвядомае адчуваньне жыцьця.

Каваль уважліва прыглядаецца да жыцьця, і яго назіраньні прымаюць з цягам часу філёзофскі характар.

І ў выніку назіраньняў зьяўляецца ўпэўненасьць.

Шлях, якім ішоў Каваль у сваім разьвіцьці, гэта шлях усяе маладое вёскі.

Моладзі наогул уласьціва радасьць—радасьць адчуваньня свае маладое сілы.

У вёсцы гэтыя сілы імкнуцца знайсьці сабе дапасаваньне і разумную матываванасьць.

Але элемэнты новага быту, новыя думкі, у вёску прахоѕяць павольна і не адразу ўспрыймаюцца селянінам. Гэта і выклікае чаргаваньне немотываванай радасьці з сумам, выхад маладых сіл у шырокія прасторы дум. Аднак, моладзь інстынктыўна адчувае ў тым новым, што іѕе на вёску з гораду, нешта грунтоўнае, пачынае цягнуцца да яго і з усім сваім маладым запалам прасякаецца ім. Кавалёва творчасьць і адлюстроўвае паступовы рост сьвядомасьці сялянскай моладзі.

Паглянем-жа цяпер на гэтую творчасьць з мастацкага боку. Яна густа прасякнута лірызмам. і гэта часткова абумоўлівае слабае разьвіцьцё сюжэту,

Пёршы зборнік „Як вясну гукалі“ ня мае блізка што зусім разьвітых сюжэтаў. Апавяданьні „Як вясну гукалі“ і „Сяльчане“ выяўляюць з сябе творы чыста апісальнага характару, зусім ня маючы больш менш разьвітога ѕеяньня.

У другім зборніку—„На загонах“—казка „Сіла зямлі“ і вершы прозаю таксама зьяўляюцца амаль бязьсюжэтнымі творамі. Апавяданьні„ На загонах“, „Ѕед Пiлiп“ і „Ноч“ ужо маюць свой сюжэт, але разьвіваецца ён слаба. Найбольш сталы сюжэт у вапавяданьнях „На загонах“ і „Ѕед Пiлiп“.

Апавяданьні першага зборніку вызначаюцца композыцыйнай няўвязкаю—гэта паасобныя абразкі, зьвязаныя паміж сабою толькі натуральным парадкам зьмен пары году. Тут шмат лірычных адыходаў,—нават можа здацца, што яны— галоўнае.

Народныя легенды таксама ўстаўлены ў асадкі асабовых аўтарскіх разважаньняў („Буй-вецер", „Пра кветку „брат-сястра") ці ў нейкі іншы—неразьвіты і нязначны—сюжэт („Легенда пра песьню").

Больш зьвязанасьці ў апавяданьні „На загонах", але і тут паўстаўлены цэлыя эпізоды, якія можна выкінуць бяз усякай шкоды для зьместу, прыкладам—заўвага пра ҙел Максіма і Андрона, эпізод абвяшчэньня вайны.

Апавяданьне „Ҙед Пíліп" адзначаецца найбольшым композыцыйным аҙінствам сярод іншых апавяданьняў. У ҙвух апошніх апавяданьнях—„На загонах" і „Ҙед Піліп" амаль што зусім няма лірычных адыходаў, якімі характарызаваліся творы першага зборніку.

У апавяд. „Ноч" наяўны тры, зусім асобныя, лініі апавяданьня: лінія Алісея Сімчанка, лінія муляра Халімона і апавяданьне ў апавяданьні, уложанае ў вусны ҙейнай асобы. Лініі Алісея Сімчанка і муляра Халімона зьвязваюцца паміж сабою толькі супраціўнасьцю фігур сваіх тыпаў, але стаяць зусім паасобна. Устаўлены эпізод з грамаҙянскай вайны стаіць таксама зусім асобна і ня зьвязан з іншымі лініямі апавяданьня, калі ня лічыць зьвязкам агульнасьць ҙейнай асобы.

Наогул, композыцыя Кавалёвых твораў адзначаецца сваёй статычнасьцю. У першым зборніку мы бачым нярухомыя абразкі, зусім бяз ҙеяньня, якое-б зьмяняла даҙены стан. Лірычныя адыходы таксама зьяўляюцца чыста статычнымі момантамі.

У вапавяданьнях другога зборніку мы маем нават мотывы ў істоце дынамічныя, як забойства старасты Макея, Максімава самагубства, арышт Андрона (апавяд. „На загонах"), скананьне ҙеда Піліпа (апавяд. „Ҙед Піліп"), сутычка двух чырвонаармейцаў з бандытамі (апавяд. „Ноч"). Але-ж перададзены гэтыя моманты ў выгляҙе, поўным статычнасьці, як прыкладам:

> „Дзед Піліп застагнаў, захацеў сагнуцца, але ня ўтрымаўся і паляцеў галавою аб сьцяну. Прышла млосьць і няпрытомнасьць, стала дужа балюча ҙеду. Замітусілася ўсё кругом, заскакала, забегала. Вось і Гняды ўпіўся агнявым зрокам і кажа. Ҙед разумее гэту гаворку так: „Дваццаць два гады мы з табою пражылі"...

Далей конь гаворыць цэлую прамову ў той час, як „ҙед Піліп ня мог пашавяліцца, ня мог устаць". Напружанасьць настрою, войстрасьць руху гэтай прамовай касуецца.

Яшчэ прыклад: у казцы „Сіла Зямлі" Каваль піша:

> „Люҙі працоўныя—ад самай ад зямлі, тыя, хто здабываў багацьці—сіла зямлі—усё зробленае імі сталі руйнаваць, каб потым будаваць сваё жыцьцё".

Параўнайце гэтыя словы да наступных:

„Стары парадак мы зруйнуем
Магутным выбухам сваім,
І сьвет на новы лад збудуем,
Хто быў нічым, той будзе ўсім“.

У вапошніх словах у больш сьціслым і дынамічным выглядзе выказаны той самы зьмест, што і ў пададзеным урыўку. Нам здаецца, што ня варта было перапісваць, калі ў выніку гэтага не зьявілася нічога лепшага.

Дынаміка больш родная нашаму часу, і ці будзе чытач здаволены творамі Каваля ў гэтым дачыненьні, гэта яшчэ пытаньне.

Дзейныя асобы ў Каваля звычайна абмалёўваюцца павярхоўна, знадворна і аднабакова. Для прыкладу вазьму толькі адну фігуру—Максім Холад. Пра яго падаецца, што ў яго мала зямлі, што яму цяжка жывецца, і за нявыплат ў тэрмін падатку яго вядуць да земскага. Максім дужа пакрыўджаны, ён злуецца. Перад земскім ён ня можа, ня ўмее апраўдацца. Земскі садзіць яго ў халодную. Зьняважаны Максім забівае старасту, уцякае і ў жаху перад вынікамі зробленага вешаецца.

З усяго гэтага мы атрымліваем чыста знадворныя веды пра гэтага тыпа. А з яго характару мы ведаем адно, што ён адчувае крыўду свайго стану і абураны ёю, што ён ня вытрыманы ў сваіх дзеяньнях. Больш пра яго нічога не вядома. Гаворыцца, што ён „шмат чаго пержыў“, але што і якую практыку з гэтага вынес, гэтага мы таксама ня ведаем.

Такі-ж характар маюць апісаньні і іншых асоб. Характарыстыка, звычайна, даецца простая—г. зн. аўтар сам дае належныя весткі пра свайго гэроя, пры чым Каваль робіць гэта ў вельмі сьціслай, скупой форме.

З боку маляўнічасьці адзначаюцца легенды, з якіх найбольш удалая—„Пра кветку“ „брат-сястра“. Гэтая легенда, песьня пераказана ў прыгожым, апрацаваным у стылі народнае песьні выглядзе.

Прыкладам эмоцыянальнага стылю могуць быць вершы прозаю, з якіх найбольш выдатны „Зіма лютая, сьнежань“...

З прыёмаў мастацкай мовы Каваль найбольш карыстаецца у першым зборніку эпітэтамі, крыху ў меншай меры—мэтафорамі і яшчэ менш-параўнаньнямі. У другім зборніку павялічваецца ўжываньне мэтафар.

Характэрны для Каваля эпітэт—гэта складаны з двух слоў (пад уплывам народнае поэзіі):

Зялёна радасная вясна, неба далёка-бяздоннае, зорна-бліскучае, ветрана-хмарная, незразумела-ціхая журба, дзіўна—чароўная, стара-непазбыўная песьня, блакітна-бясхмарная вышыня, чорна-маршчыністы твар, буйна-квяцістае, гулка-звонкае жыцьцё, песенна-казачная Беларусь і інш.

Іншыя эпітэты звычайна сталыя, традыцыйныя, як:

Маладая, вясёлая вясна, нязьведаныя шырокія думы, шырокія баразны-шырокае поле, празрысты нярухомы туман і г. д.

Спаміж мэтафар трапляюцца самабытныя і цікавыя, як:

Сінякудрэя раніца, вятры кувязаюцца па блоньню, старэнькая хатка мяцеліцай гадоў засыпана.

Але шмат мэтафар і традыцыйных, якія нават ня вылучаюцца з мовы:

пабягуць думы, кудрыватыя бярозкі, усьміхаецца сонца, вуліца загаварыла, раніца пасыпала золата на стрэхі, прастор шкляны, залацістае сонца-срэбраная павуціна і інш.

Параўнаньняў у творчасьці Каваля значна менш, і ўсе яны маюць на сабе адбітак вёскі:

думы зарунеюць, як зелень збожжа ў полі, голас, як пералівы жалейкі, „ня поймеш, ці-то бура плача, ці-то русалка з лясуном“, маўклівы, як хмара, ноч „махае, як кажан крыльлямі павевамі ветраў“, „зьвёзды рассыпаюцца драбней маку іскрамі“, „рояцца думы, як пчолы у вульлі“ і г. д.

Звычайна Каваль піша проста і ўдумліва, і такі вобраз, як „белабрысае сонца рагатага ў небе і спускалася на зямлю жоўта-чырвонымі касьнікамі“, здаецца лішнім і штучным.

На Кавалёў стыль зрабіла значны ўплыў народная поэзія, і гэта выявілася ў частым скарыстаньні прыёму паўтораў. Так абразок жыцьця вясковай вуліцы пачынаецца і канчаецца словамі: „вуліца вясною жыве і гаворыць“.. У XI разьдзельчыку апавяд. „Сяльчане“ паўтараюцца сказы:

„ляжыць сьнег—сыпучы і мяккі, белы, бы частая радасьць“, „Вецер гуляе па загонах“, „Вясна будзе радасьней жыцьця“.

Пры апрацоўцы легенд Каваль карыстаецца прыёмам народных казак—злучэньня двух слоў—сынонімаў:

канец-край жыцьця, журавінна-жалобныя сьлёзы, шуміць шумам-гудам зямля, ішлі гады карагодам-чарадою.

Часта карыстаецца Каваль і эпіграфамі, пры чым таксама бярэ іх пераважна з народных песень.

Апрача ўсяго гэтага, можна адзначыць цэлы шэраг вобразаў і думак, якія паўтараюцца у розных творах блізка што літаральна. Так, у зборніку „Як вясну гукалі“ ёсьць такі выраз:

Думы абвіваюцца дзеразою і губяцца ў прасторы“.

У зб. „На загонах“:—

„Многа дум, не разьвеяных ветрам, як дзеразой абвіваюць малады розум“.

У зб. „Як вясну гукалі“ на 10 бал. ёсьць:

„Тады шэрань вісела кавалкамі на цёмных вокнах, а за вакном ляжаў белы-белы сьнег“;

На 62 бал.—

„Пелі яе (песьню. Г. С.) бабы, калі сьнег ляжаў гурбамі за вакном, а на бярозках вісела шэрань.

На 11 бал:—

„Хочацца мне цяпер думаць думы шырокія, вольныя—ды бегчы ў даль па бяскрайнай зямлі. На прыполе слухаць вялікую, дзіўную музыку жыцьця“.

На 47 бал.—

„Хочацца мне думаць думы шырокія, звонкія і ізноў іці ў даль, па нязьведаных сьцежках іці.— а іх ніколі не пратопчаш ты, ніколі не абойдзеш“.

На 10 бал:

„Калыхаў зорны вечар думкі“

На 45 бал:

„Гудзіць думкамі вечар“.

Гэтыя прыклады паказваюць, што Каваль не заўсёды ўважліва ставіцца да ўжываньня сваіх вобразаў.

Вывад адзін: пазбаўляючыся недахопаў, Каваль здолее найбольш поўна раскрыць і разгарнуць тыя задаткі, што ў ім заложаны.

Г. С.

# Пра „Ўзвышша“ і наогул

Перш чым сказаць што-колечы пра „Ўзвышша“, я павінен зрабіць агаворку, што я разглядаю яго як чытач, а не як крытык.

За два гады працы „Ўзвышша“ паказала сябе, як моцная літаратурная арганізацыя. З нараджэньнем першага нумару „Ўзвышша“, на „Ўзвышша“ былі як-бы нападкі, стараліся абліць яго гразёю, але нічога крытычна-здаровага ў гэтым ня было, праўдзіва кажучы, „крывіліся“ на „Ўзвышша“ (невядома за што). Цяпер, калі „Ўзвышша“ дало такія рэчы, як „Сястра“, роман К. Чорнага, „Салавей“, „Дзесяць“, „Тры пальцы“, „Язэп Крушынскі“ З. Бядулі, чатыры поэмы: „Кругі“ Дубоўкі, „Песьня Вайны“ Пушчы, „Калі асядае муць“ Т. Кляшторнага і „Рабінавае шчасьце“ М. Лужаніна; дзьве нізкі вершаў: „Краса маладосьці“ і „Матчыны казкі“ П. Глебкі, і другія аповесьці, а гэтак сама шмат апавяданьняў і вершаў, а гэта вялікая значнасьць у сучаснай беларускай літаратуры, гэта буйны плюс,— дык толькі пасьля гэтых вынікаў працы „Ўзвышша“, погляды на яго перамяніліся. Наогул мне здаецца, што тады рана было і бескарысна абліваць яго памыямі, пакуль ніхто ня бачыў яго твораў.

Я ўжо сказаў, што я яго разглядаю не як крытык, а як чытач, вось цяпер пра некаторыя рэчы.

Напрыклад, аповесьць „Салавей“ З. Бядулі вельмі цікавая сваім зьместам і падзеямі і цікава тым, што там? паказана сапраўднасьць мінулага жыцьця. Адзін дзед 78 год, якому я чытаў гэту аповесьць, нават заплакаў, калі я яму прачытаў, як пані апраўлялася, ня стыдаючыся, праўдзівей не паважаючы парабка, і дзед мне заўважыў: „ты думаеш, што гэта толькі ў кніжках пішуць?... гэта было сапраўды“.

Аповесьць „Дзесяць“ напісана лёгкай мовай, чытаецца лёгка, наогул трэба сказаць, што ўсе апошнія творы З. Бядулі чытаюцца лёгка. Толькі ў такія зьявы, як напр.: селянін убачыў першы раз самалёт, сеў і паляцеў—у гэта чытач не паверыць.

Аповесьць „Язэп Крушынскі“—ўзята вельмі цікавая тэма, самая сучасная і амаль некранная.

Захапляюць вершы П. Глебкі, калі ўзяць „Краса маладосьці“, „Агні сусьвету“, поэта, маючы такі вялікі талент, разважае:

„Ці жыцьцю пакланіцца у ногі
Ці павесьці ў цалік яго ўсьлед?“

І чытач мімаволі ўцягваецца ў гэтыя два радкі, але пераважнае жаданьне ў другім радку.

Альбо такія радкі:

„Галасіла Маці—Беларусь
спрадвеку
чакала сына,
сына—Чалавека."

Наогул вершы Глебкі—сталёвая лірыка. „Калі асядае муць", поэма Т. Кляшторнага, чытаецца па некалькі раз. хоць тэма аўтарам узята: гнілыя бакі сучаснага жыцьця. Але як поэта сказаў:

„Эх вы, Яські"

І праўда, гэтыя Яські яшчэ маюць досыць вялікае месца ў нашым жыцьці; трэба іх адпець назаўсёды.

Цяпер, калі ўзяць аддзел крытыкі, таксама „Ўзвышша" дало вельмі багатыя матар'ялы: праглеєваны поэмы Я. Купалы, творчасьць М. Багдановіча, Ц. Гартнага, Ул. Дубоўкі і др.

Ва „Ўзвышшы" можна знайсьці і замежную ў пераводзе на беларускую, а таксама і аб замежнай літаратуры, а гэта вельмі цікавіць сёньняшняга чытача.

Але, як я ўжо сказаў. што я разглядаю „Ўзвышша" як чытач,—ня буду падрабязна гаварыць аб тым, што ў багатых зьместах дало „Ўзвышша" чытачу за два гады свае працы.

Наогул „Узвышша" апраўдала сваю назву, і популярнасьць яго сярод чытачоў вырасла.

Адно кепска, што крытыка мала зьвяртае ўвагі на часопісі, я тут кажу ня толькі аб „Узвышшы", а і наогул аб усіх.

Бывае ў газэце праскоча рэцэнзія, у якой пералічаны зьмест і аўтары тае ці іншае часопісі, а пра самую творчасьць ні гуку.

Гэтак сама і з літаратурнымі балонамі і літдадаткамі: крытыка на іх не зьвяртае ўвагі, як-бы гэта не адносіцца да літаратуры. А між іншым, часопісі, літдадаткі—гэта літаратурныя рэшаты, і што надрукавана, хаця-б у газэце ці літдадатку, гэта заносіцца ў літаратуру. А колькі там бывае недарэчнасьці!

Трэба ведаць, што беларуская літаратура расьце, от-жа трэба дагледзець, каб яна не засыпалася сьмецьцем, а садоўнікамі ў гэтым сэнсе—крытыкі, яны і павінны дагледзець, каб праз гэтыя рэшаты прасявалася ў літаратуру толькі добрае, толькі здаровае. А то ўжо, калі выходзе ў сьвет які-небудзь зборнік таго ці іншага аўтара, тады крытыкі накідаюцца на яго з вар'яцтвам, а ўсё-ж роўна не сягоньня-заўтра ён павінен быў быць надрукаваны, бо ўвесь матар'ял зборніку друкаваўся раней у часопісях, літдадатках і літстаронках. А крытыка, пераглядаючы часопісі, давала-б кірунак ці, як кажуць, параду. Але вядома, што тут крытыка павінна быць здаровая, без умыслага абражаньня організацыі ці асобнага пісьменьніка. А то мы бачым артыкул у „Полымі" (№ не памятаю) пра Ўзвышша", дзе яго абзываюць „літаратурным балотам". На што гэта гэткія абражаньні? І наогул у гэтым артыкуле нічога здаровага ня сказана. Праўду мне аднойчы заўважыў мой сусед, чытаючы гэты артыкул: „глядзі, каб той, хто пісаў гэты артыкул, не палез у гэта балота па кветкі". Я не абароньваю спэцыяльна „Ўзвышша", я толькі чытаю яго, я бяру гэта, як прыклад, і ўсё-ж такі, калі крытыкаваць, дык здаровай крытыкай, а то гнілая крытыка, апрач гонорара крытыку, нічога нікому не дае.

Трэба, каб крытыка зьвярнула ўвагу на пэрыодычныя выданьні: толькі тады можна будзе даць здаровую літаратуру. А то, хоць у Беларусі і налічваецца да 500 поэтаў і пісьменьнікаў (калі ня болей), яны бяз гэтага лякарства бадай добрае што ці зробяць, і мы, як чулі, так і будзем чуць голас чытача: „пішуць, пішуць, а чытаць няма чаго".

**І. Чарняўскі**

Жыздра,
Чырвоная армія.

# Роман Кузьмы Чорнага—„Зямля“

Тут паказана шмат вясковых людзей. Вось яскрава абмалёўваюцца два родных браты Сабастыян—багаты і Мацьвей—бядняк, гэта тыя дзьве варожыя сілы, тыя дзьве клясавыя лініі-групоўкі, адна з якіх імкнецца выбіцца на лепшы шлях жыцьця, а другая—якая звысаку глядзіць на першую (бядняцкую) групоўку, абзываючы лайдакамі. Усю крыўду, накіпеўшую ў сэрцы і выказаў Мацьвей, абвінавачваючы брата Сабастыяна ў дрэнных адносінах да сястры Наталі, якая хварэла на сухоты.

Прадстаўнікі першай клясавай групоўкі (беднаты) не агітуюць у романе рэвалюцыйнымі фразамі, што надта часта сустракаецца ў нашай літаратуры, а гавораць звычайнай, будённай мовай, якая ад гэтага робіцца сапраўднай, яскрава адлюстроўвае клясавае змаганьне ў вёсцы. Паказан і вясковы заможнік—гэта Барановіч.

Алесь і Тамаш—гэта два чалавекі, якія жывуць і ставяць грамадзкія інтарэсы вышэй сваіх; яны зьяўляюцца тэй сілай вёсак і мястэчак, што застаўляюць хоць памаленьку, але ўпарта перабудоўваць жыцьцё па-новаму.

Юрка—сын Мацьвея, малы дванаццацігадовы хлапчук, прагне да больш сьветлага жыцьця, чымся меў яго бацька. Шкадуе сваю ўсё жыцьцё гараваўшую матку, давёўшую сябе (з-за нядахопаў сродкаў і адсутнасьці рабочых рук у гаспадарцы) да сьмерці.

Сьмерць яе, хаўтуры—гэта сапраўдны малюнак вясковых хаўтур, на якіх можна паплакаць, пагаварыць аб хатніх рэчах...

І ў дзень гэтых хаўтур хаўтурным маршам гучаць словы Тамаша пра старыя часы, якія ўжо ня вернуцца ў новую савецкую вёску.

...Кажаж, боты пашыць!?.. Я, можа, іх і не пашыю, можа і Мацьвей не пашые, а хлапчук яго, што унь босы за няжывою маткаю ў царкву прышоў, той пашые, і такія боты, пра якія ніхто з нас ніколі ня сьніў. Чуеш!... Пашые!...

Добра паказаны тып жанчыны, грамадзкай працаўніцы Волькі.

Дзьве натуры, двое маладых Алесь і Волька, не апускаюць рук перад цяжкасьцямі, а цьвёрда глядзяць у будучыню з упэўненасьцю, што перамога будзе за імі.

—... „Якія дарогі ў полі ляжаць“... пачынаецца трэцяя частка роману.

Гэта тыя дарогі, на якіх разойдуцца ўсе гэроі ў романе. Гэты шлях павёў Ганну ў горад, Юзіка і Юрку ў школу, а Тамаша на могільнік.

Прайшло, прытупіліся першыя ўражаньні аб сьмерці блізкага чалавека, у Алеся зноў думка аб жыцьці па новаму, аб арганізацыі комуны.

—... Расьцеце, сынкі, расьцеце, браткі. Вучыцеся! Вырастайце моцнымі, дужымі... Гаворыць ён малым.

У гэтым вера ў будучыну і перамогу.

Трэба адзначыць, што кніжка напісана простаю, зразумелаю для кожнага, моваю.

Ад гэтага павялічваецца яе якасьць. Бо мала таго, што пісьменьнік напіша добрую кніжку, асноўнае—гэта, каб яе зразумеў радавы чытач, на якога яна разьлічана.

Вартасьць кніжкі яшчэ і ў тым (а гэта па мойму галоўнае), што яна абуджае да дзейнасьці, прымушае азірнуцца вакол і зірнуць пільным вокам, што такога новага зроблена ў сваёй вёсцы (мястэчку), і што можна і трэба зрабіць. Вартасьць кніжкі ў тым, што яна паказвае новае ў соцыяльным разрэзе, паказвае, што добрае і дрэннае ў жыцьці засталося ад старога.

**Сьцяпан Нортман**

# КНІГАПІС

## Пра Бядулеву аповесьць „Салавей“

Перад прыгожым пісьменствам соцыяльная рэволюцыя паставіла вельмі востра пытаньне, з кім яно, і патрабавала яснага і выразнага адказу. За рэволюцыю ці проці яе,—так стала яно перад шмат якімі і беларускімі пісьменьнікамі, што прышлі ў кастрычнікавую эпоху з „Нашае Нівы“. Пры гэтым яно патрабавала адказу не дэклярацыйнай заявай, а фактамі мастацкае творчасьці. Бо й сапраўды, што магло быць лепшым, больш пэўным і верагодным адказам, як не мастацкі твор. І калі гэтакі мастацкі твор ды служыць рэволюцыі, зьяўляючыся ў яе руках сродкам змаганьня з варожымі ёй густамі, ідэямі ды ідэаламі, калі гэты твор ёсьць мастацкі орган яе, гэта значыць: адказ даны станоўча. Напісаць гэтакі твор і адзначае даць адказ на пастаўленае рэволюцыяй пытаньне. Таму вось пролетарскі чытач прымае кожны твор беларускага пісьменства перадусім як адказ на рэвлюцыйнае патрабаваньне і потым вызначае яго характар. Ва ўмовах такога дачыненьня да мастацкага слова з боку пролетарскага чытацтва зьявіўся ў сьвет і дзейнічае (чытаецца) Бядулеў твор „Салавей“.

У непасрэдным дачыненьні да яго ён робіць ураҗаньне вельмі цікавай казкі пра даўно мінулыя дзеі і прыгоды, што адбываліся якраз вось на тым месцы, дзе цяпер пануе новы лад, і дзе цяпер гаспадарыць былы нявольнік. Расказана гэта казка ня проста з „любви к искусству“, а сілаю ўнутраной патрэбы выказаць сваё разуменьне наконт месца мастацкага таленту ў грамадзкім жыцьці і тае ролі і яго значэньня, якія вызначаюцца яму гэтым месцам. Разуменьне гэта—такое ўражаньне робіць твор—як-бы ня ёсьць годнасьцю ці ўласнасьцю аднаго толькі аўтара твору. Не, гэта разуменьне ёсьць мудрасьць глыбокіх вякоў; яно ў іх глыбі ўтварылася на грунце жыцьцёвай практыкі мастацтва. Цяпер яно—годнасьць старых дзядоў—„вартаўнікоў“ новай „гаспадаркі“. І вось паколькі яно асьвечана мудрасьцю вякоў, яно як-бы непарушнае. Аўтар твору гэта толькі носьбіт яго, як „спадчына вякоў, сын даўных пакаленьняў“. Гэтым ён як-бы самаапраўдваецца за свае учынкі і дзеі. Такое непасрэднае ўражаньне ад твору „Салавей“.

Што-ж гэта за твор, і якое яго месца ў сыстэме літаратурных паняцьцяў? Бядулеў „Салавей“—гэта адзін з відаў эпічнай творчасьці—аповесьць. У сыстэме іншых відаў поэтычнай творчасьці ён займае прамежнае месца між апавяданьнем і романам як сваім памерам, так і па іншых адзнаках. Уласна-апавядальным элемэнтам у „Салаўі“ ёсьць яго аправа; яна набліжае твор да апавяданьня. Дзякуючы ёй „Салавей“ уяўляе сабою карціну ці праўдзівей композыцыю малюнкаў (монтаж), апраўленую ў прадапавяданьне. Сама-ж композыцыя сваёю цэнтральнаю тэмаю становіць адну зьяву такога памеру і абхвату, што набліжае твор да роману. Набліжаецца ён да роману яшчэ і лікам дзейных асоб і інтрыгамі. Па часе, да якога аднесена цэнтральная зьява і фон, на якім яна вырысавана, „Салавей“—аповесьць гістарычная. Аднак гэта гістарычнасьць узглядная і ў некаторай ступені дэкарацыйная. Яна, як і іншыя элемэнты аповесьці, ёсьць нішто іншае, як поэтычны спосаб, адзін з поэтычных сродкаў. Довадам гэтаму служыць і тое, што ў „Салаўі“ бракуе стылізацыі пад той час, да якога аднесена дзея аповесьці. Па форме канцоўкі яна зьяўляецца аповесьцю казачнай, што мяжуе ўжо з прыгодвіцкаю аповесьцю, але усё-ж з ёю не супадае цалкам. Па асобах аповесьць характарыстычна. яна дае іх т. ск. у псыхо-фізіолёгічных іх катэгорыях, а гэта робіць некаторых з іх адгучнымі нашаму часу. Па характары гэроя аповесьць належыць да гэроічнага эпосу. У аснове сваёй—аповесьць конструкцыйная.

Па сваёй структуры „Салавей“ як-бы апавяданьне ў апавяданьні, ін. кажучы, гэта аповесьць двухпавярховая. Першым

сваім паверхам яна пабудована па вобразу бытавое зьявы (паездка ў саўгас і расказ старога ѕеда), перанесенай на палатно. Другім паверхам яна пабудована на ўзор літмонтажу, у якім адны моманты адыгрываюць ролю надпісаў, другія наяўных малюнкаў, трэція сувязі і да г. п. Словам, усе элемэнты ў гэтым паверсе служаць таму, каб даць уражаньне архітэктурнасьці твору, у якой усе лініі накіраваны да аднаго цэнтральнага пункту. І з якога б вы боку ні зайшлі ў гэты будынак, вы абавязкова прыѕеце да гэтага пункту. Твор цэнтраімклівы. Такім чынам вобразы гэтых двух паверхаў сваімі карэньнямі выхоѕяць з двух абсягаў: а) натуральна-бытавога і б) творча-конструкцыйнага. Кажучы пра будову гэтага твору, вынікае яшчэ адно пытаньне, з якіх старон складаецца аповесьць „Салавей“. Цэнтральную лінію складае Сымон Салавей, паабапал яго ідуць ѕьве стараны — панская і сялянская. Т. ч. утвараецца якбы трыкутнік. І з якое-б стараны ні ўвайсьці ў яго, прыѕеш да мастацтва як жыцьцёвай проблемы ў аспэкце гэтых старон быцьця. Цікава зьвярнуць увагу на вонкавую будову. У яе аснове ляжыць тая-ж тройнасьць: аповесьць складаецца з 33 разьѕелаў. Гэтага, канечне, нельга лічыць выпадковым. Знадворнае ёсьць матар'ялізаванае аблічча ўнутранога.

Якую-ж плынь поэтычнай культуры прадстаўляе сабою аповесьць „Салавей“? Аналіз твору з гэтага пункту гледжаньня паказвае на наяўнасьць у ім некалькіх струменьняў поэтычнай культуры. У сваім сынтэзе яны становяць тое, што зазвычай называецца Бядулевым манерам у поэзіі. Гэты манер аѕін з элемэнтаў, што ўвахоѕяць у склад паняцьця сучаснай поэзіі. Калі-ж разглядаць яго асобна, як некаторае самастойнае аѕінства, то нельга не заўважыць асобных момантаў, якімі ён характарызуецца. Гэта: а) літмонтажаваньне малюнкаў па творчым узоры; б) актывізм аўтара ў дачыненьні да паасобных момантаў свайго твору; в) казачная сказавасьць, якая ў даным творы чаргуецца з г) наяўным прадстаўленьнем або моўнаю жывапісьсю. Усё гэта набліжае Бядулеў манер поэзіі да романтычнага кірунку ў новым яго праяўленьні, а менавіта тым, што сваімі карэньнямі выхоѕіць з мясцовай нацыянальнай творчасьці ў першую чаргу і што ў нашых умовах як-бы модэрнізаваўся, ахварбаваўшыся ў конструкцыйныя імкненьні і тоны нашай сучаснасьці. Гэта кірунак, калі льга так сказаць, натуральнага романтызму, словам, адна плынь таго кірунку, які ў свой час быў названы мною адраджанізмам. У постаці твору „Салавей“ ён прадстаўлены ў сваім пераломе да рэальнай конструкцыйнасьці. З гэтага боку „Салавей“ — гэта романтычная поэма прозаю з конструкцыйнай імкнёнасьцю.

У абсягу псыхолёгічным аповесьць „Салавей“ прадстаўляе сабою талент высокага тэмпэрамэнту, талент захапленьня вобразамі, створанымі выабражэньнем. Гэта талент, у якім пачатак стыхійнай актыўнасьці пераважае над творчым. Гэта талент расказчыка пра свае ўласныя творы, об'ектывізаваныя і адлучаныя ад сябе ды прынятыя за натуральную рэальнасьць. Яшчэ ёсьць адна асаблівасьць у гэтым таленце: ён больш выказвае сябе, як шукальнік абсолюту або яго служыцель, ніж творыць новыя формы мастацкага ажыцьцяўленьня. У аповесьці „Салавей“ асабліва яскрава выяўляецца гэта старана таленту яго аўтара, а менавіта — шуканьне абсолютнай каштоўнасьці. Такімі талентамі зазвычай кіруюць ідэі, але не наадварот. Калі такога роду талент перастае захопліваца пэўнай ідэяй, як абсолютнай, ён фактычна перастае быць і талентам-творцаю, ён перастае тварыць. Гэта, канечне, ня значыць, што ён пакідае пісаць (хоць часта бывае і гэтак). Не, ён можа і пісаць, але гэта ня буѕе ўжо творчасьцю ад паўнаты захапленьня, ад паўнаты пачуцьцяў. Таленты, што прадстаўлены аповесьцю „Салавей“, больш песьняры, якія твораць чуцьцём, інтуіцыяй, ніж поэты-майстры, што могуць дасягаць пэўных мэт поэзіі сваім умельствам і майстэрствам.

Які-ж сьветагляд прадстаўляе сабою аповесьць „Салавей“? Адказ на гэта пытаньне дае аналіз будовы твору. Інакш кажучы, выяўленьне стасунку між элемэнтамі, што складаюць твор, буѕе аднача́сна выяўленьнем і ідэолёгічнай сыстэмы, носьбітам якое ёсьць даны твор. Зьвярнеце ўвагу на форму стасунку ў аповесьці „Салавей“. Сымон Салавей — цэнтр, а паабапал: сялянства і панства, між якімі йѕе адвечная варожасьць

і змаганьне. Сымон выходзіць з сялянства і да сялянства прыходзіць, перайшоўшы праз панства. Адгэтуль: доля мастацтва (вобраз Сымона ўцелаўляе сабою мастацкі талент) быць зброяй у змаганьні з пануючаю клясаю, а не забаўкаю для апошняе. Пры гэтым яно не павінна зьмяняць свае уласнае прыроды, не па інна пераставаць быць нацыянальным у грамадзе, у якой ідзе клясавае змаганьне. Прырода-ж мастацтва ў тым, што яно ёсьць асобы дар, што яно тайна, якая выяўляецца ў пераўвасабленьнях чалавека ў розныя ролі. Словам, мастацтва, як талент, тайна дадзеная ад прыроды. Вось прыблізна той сьветагляд, носьбітам якога ёсьць „Салавей". Як бачыце, ён становіць сабою пераход ад ідэалістычнага да матарыялістычнага разуменьня жыцьця і творчасьці, і, як пераходны ён носіць на сабе адбітак ідэалістычнага разуменьня ў высьвятленьні прыроды мастацтва.

Апошнім пытаньнем у абсягу аўтарства твору ёсьць пытаньне наконт тых форм соцыяльнага быцьця, якія вызначылі сабою дадзены твор, як пэўную форму сьвядомасьці, матар'ялізаваную у мастацкім слове. У дачыненьні да Бядулевага твору пытаньне стаіць так: продуктам якой соцыяльнасьці ёсьць аповесьць „Салавей". Увагі, што зроблены па лініях, вызначаных вышэй, падрыхтоўваюць вырашэньне пытаньня соцыялёгіі твору. Ужо тыя факты, што ў аповесьці „Салавей" ёсьць струмень народнай творчасьці, струмень, т. ск., „нэоромантызму", далей такія моманты, як шуканьне абсолюту, падпарадкаваньне свае творчасьці зноў-жа абсолютнай ідэі, нарэшце, наяўнасьць дуалізму ў ідэолёгічнай сыстэме, прадстаўленай творам,—усё гэта гаворыць пра тое, што соцыяльным аўтарам аповесьці „Салавей" ёсьць такая соцыяльная група, якая вымушана ходам грамадзкае гісторыі рабіць пераход ад аднае клясы да другое. У Беларусі такою групаю ёсьць у першую чаргу тая інтэлігенцыя, якая выйшла з вёскі і пэўны час свой лёс зьвязвала з лёсам народу (разумеючы пад ім, галоўным чынам, сялянства), а потым розумам пасягнула ідэі пролетарыяту і перайшла к яму на службу. Гэта тая група, што карэньнямі сваімі ўваходзіць глыбока ў вёску дарэволюцыйнага часу, а сваёю верхавінаю ўрастае ў гарадзкія ўзвышшы пасьлякастрычнікавай пары. Вось гэта група і ёсьць соцыяльны аўтар аповесьці „Салавей".

Па сваёй чытацкай орыентацыі аповесьць „Салавей" зьвернута тварам як-бы да самога аўтара. Гэтым тлумачыцца ўражаньне, быццам аўтар гэтым творам самаапраўдваецца ў сваіх дзеях і ўчынках. Гэтае-ж робіць твор цікавым для чытачоў розных груповак. Тыя, каму ўласьціва шуканьне апраўданьня сваім учынкам, каму ўласьціва выводзіць свае дзеі з адзінага закону, якому, на іх думку, падпарадкавана ўсё жыцьцё іх, знаходзяць у гэтым творы шмат роднага і блізкага сваёй натуры. Яны адчуваюць аўтара гэтага твору блізкім для сябе. Другія знаходзяць у ім, так сказаць, чалавечы докумэнт для азнаямленьня з псыхолёгіяй пераходных уздымаў і парываньняў. Яны пазнаюць у гэтым творы вобраз пераходніка кастрычнікаўскага часу. Трэція бачаць мастацкія малюнкі і портрэты цэлай галерэі тыпаў, у якіх адлюстравалася шмат чаго з' обліку дзейных асоб сучаснага быцьця. Нядарма гэтая аповесьць амаль адначасна выходзіць у перакладах на расійскай, украінскай, яўрэйскай і польскай мовах. Словам, аповесьць „Салавей" знаходзіць сабе шырокі круг чытацтва і паказвае яму, як разьвязваецца пытаньне наконт мастацтва тымі, што ў нашу эпоху прыйшлі з „Нашае Нівы" і цалкам аддалі сябе на службу пролетарскай рэволюцыі.

Крытыка таксама знойдзе пажытныя для сябе матар'ялы ў аповесьці „Салавей". Яна ўгледзіць, у які бок разьвіваецца творчасьць З. Бядулі, да якіх шырокіх мастацкіх абагульненьняў яна прыходзіць пасьля тых перажываньняў і пераломаў, якія ёй давялося перажыць за час „сказаў бур і віхраў" ды „бураломаў".

А. Бабарэка

**Кузьма Чорны. Зямля, роман у трох частках, балонак 353,** *цана 1 р. 95 к. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1928 г.*

Роман, як жанр, у нашай мастацкай літаратуры, можна сказаць, толькі нарастаецца, зьяўляецца толькі навінкай; вось чаму і чытачу ён яшчэ ня спрыкрыў, чытач яго любіць. Зьяўленьне роману, проста як тоўстай кніжкі, і то чытач не адкідвае, а сквапна працягвае да яго свае рукі; ён яшчэ ня шукае ў романе мастацкага эквіваленту, ён падыходзіць да яго па звычайнаму, па будённаму,—проста, каб правесьці за кнігай свой вольны час, якога ён мае, праўду кажучы, шмат. Яго яшчэ ня цікавіць конструкцыя роману, усёроўна, якім-бы ён ні быў, а ў нашых умовах будзе нечым новым; яго яшчэ таксама ня цікавяць і спосабы пабудовы гэтай конструкцыі. Вось чаму і карысталіся посьпехам у нашага чытача ўсе нашы романы, хоць некаторыя з іх з цягам часу і зусім забудуцца, адамруць. Але ня гэткі лёс чакае роман Кузьмы Чорнага „Зямля“, бо ён сапраўды зьяўляецца першым нашым романам высокай мастацкай вартасьці.

„Зямля“—роман глыбока социяльны, і социяльнасьць яго не старая, а новая—сялянская. У ім паказана сялянскае жыцьцё з розных бакоў і ў розных абставінах. Паказана нарастаньне новага ў сялянскім быце, абуджэньне грамадзкай сьвядомасьці, спадчынасьць беднасьці, якая яшчэ і цяпер некаторых прагне ўтрымаць у сваіх кіпцях. Але поплеч з гэтым паказаны і прасьветы гэтай беднасьці; хоць бываюць у жыцьці вялікія ўтраты, якія выклікаюць гора, але ёсьць шмат і радасных часін.

Аўтар паказаў нам сваіх гэрояў у вёсцы, а ня ў горадзе, у гэтым суцэльнасьць іхніх натур, не адчуваецца раздвоенасьці характару; гэроі любяць і жывуць зямлёю. Хоць у ваднэй-дзьвюх вёсках, мястэчку, але аўтар здолеў разгарнуць дзею роману ў псыхолёгічнай роўніцы. Праўда, аднаго стрыжня, вакол якога адбывалася-б дзея, як быццам і няма, ён не выпірае, але ўсё-ж мы адчуваем, што Зямля—гэта нейкі цэнтр, асяродак, да якога дзеяньне ўнутраной сілай прыцягваецца, гэта-ж зьяўляецца адным з спосабаў конструкцыі роману. „Зямля“ складзена з паасобных новэль—разьдзелаў; амаль кожны разьдзел дае закончаны мастацкі вобраз, і ў гэтым яе композыцыя.

Аўтар адмовіўся ад апавядальнай манеры, замяніў яе дыялёгам, што набліжае роман да рытму нашых дзён. Дзякуючы гэтаму способу, аўтар амаль нідзе не гаворыць за сваіх гэрояў, а ўсюды яны самі і асабліва важна і дадана тое, што кожны з іх умее гаварыць па-свойму, адчуваеш іх жывымі людзьмі. Ім аўтар не завязаў роту, не ўвіхаецца за іх усё сказаць і за іх-жа прагаласаваць, як гэта некаторыя робяць. Адсюль ужо выцякае і тое, што аўтар вонкава не стараецца нарысаваць сваіх гэрояў, але мы іх добра помнім у твар, яны яго нам самі паказалі—выявілі.

Прачытаўшы роман, адчуваеш сьвежую сочную беларускую мову і глыбокі ўнутраны лірызм, асабліва ў пэйзажных малюнках нашай восені, адчуваеш магутны пульс зямлі, за якую ўхапіўся аберуч і слухае цэлам і душою беларускі селянін.

Вельмі ўзрушвае сьмерць Юркавай маткі, але крыху расхалоджвае момант зьбіваньня труны, бо ён крыху расьцягнены, і мы чыталі пра гэта ў ранейшым апавяданьні нашага пісьменьніка.

У романе паказана здаровае каханьне беларускай сялянскай дзяўчыны і хлопца, бяз эротычных смакаваньняў яго самім аўтарам.

Мне выдаліся крыху не маляўніча зробленымі зарысоўкі новага сучаснага вясельля Ганны, а таксама і Алеся. Тут аўтар адчуваецца халаднаватым, як-бы ад нечага знарок ухіліўся, ці нешта знарок дадаў—модэрнізаваў рэчаіснасьць.

Калі пачатак трэцяй часткі можа крыху разхалодзіць, дык затое канец яе, а значыць і роману, запальвае здаровым імкненьнем да творчай працы.

**Я. Плашчынскі**

**Янка Купала. Збор твораў з крытычна-біографічным нарысам. Том першы. Бал. 381.** *Цана 2 р. 25 к. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск 1928 г.*

Крытычна-біографічны нарыс Жылуновіча, напісаны па-таварыску, цёпла, мабыць усяго гэта аўтар нарысу і меў на ўвазе. Тыя абзацы нарысу, у якіх аўтар выказваецца ў пляне літаратурна-тэорытычным, вышлі надзвычай наіўнымі і блытанымі. Каб пераканацца ў гэтым, вазьмеце і прачытайце, хоць-бы абзацы, прысьвечаныя трактоўцы расійскага сымболізму і купалаўскага.

Жылуновіч вобраз Купалы паказаў праз сваё люстра, але мабыць ня ведаў, што яго люстра надта крывіць.

Калі крытык піша артыкул пра творчасьць выдатнага поэты, дык найчасьцей бывае так, што ён сваім стылем, манерай сваіх выказваньняў пападае ў эмоцыянальны і слоўнікавы тон твораў поэты, але Жылуновіч ня здрадзіў сабе ў гэтым. Артыкул напісаны ў стылі жылуновічаўскіх (Цішкі Гартнага) твораў. Калі чытаеш крытычна-біографічны нарыс, дык адчуваеш, што аўтар яго творчасьць Купалы не патурбаваўся вывучыць, а пісаў па-таварыску. Хоць нас і вельмі абурае, але ня дзівіць пасьля гэтага канцоўка нарысу:

І даданая ў наступным (?) да ўсяго ім напісанага зложыць яму
„...памятник нерукотворный“,
да якога
„...не зарастет народная тропа“.

Закончыць нарыс пра творчасьць поэты чужымі радкамі ня зусім прыгожа; у Купалы па мастацкай сіле можна было-б знайсьці не слабейшыя радкі, але чамусьці Жылуновіч не захацеў гэтага зрабіць.

Пераходзячы непасрэдна да характарыстыкі купалаўскай поэзіі гэтага тону, я дазволю зрабіць сабе адну агаворку. Шкада, што Купала, падрыхтоўваючы да выданьня першым томам „Жалейку“ і „Гусьляр“, не зрабіў, асабліва над вершамі „Жалейкі“, апошняй аўтарскай рэдакцыі,—я разумею аўтарскай творчай рэдакцыі. Крыху дзікаватымі выдаюцца невядомай (га) „рэд“ заўвагі да тэксту некаторых вершаў, бо нідзе на тытульным аркушы не аднатавана, што поўны збор твораў Янкі Купалы выходзіць пад такой-та „рэд“.

Хоць рэцэнзія і не павінна ставіць перад сабою пытаньняў дасьледчага парадку, але ўсё-ж у гэтым выпадку пытаньне гэнэзісу купалаўскай лірыкі мы павінны закрануць.

„Жалейка“ і „Гусьляр“ гэта першыя зборнікі лірыкі нашага поэты, дык цікава тут устанавіць нам купалаўскіх літаратурных родзічаў. Па лініі беларускай літаратуры можна-хіба адну Цётку, па лініі польскай—Канапніцкую, украінскай—Шэўчэнку, расійскай—Некрасава, Кальцова—мы на гэта маем падставы, як у разрэзе ідэолёгічным, так і формальным; але гэтыя ўсе лініі хутка сьціраюцца, і Купала становіцца сам сабою, орыгінальнай творчай індывідуальнасьцю. Жывою крыніцаю купалаўскай поэзіі—мужычая Беларусь на шляху адраджэньня; гэта крыніца незабросьнела, а прабілася на сьвет да жыцьця з сваім найвялікшым песьняром Купалам.

Купала прышоў у нашу поэзію не з позай поэты, але з поэтам у душы, які пытаўся ў сваіх песень:

Песьні мае, песьні!
Смутку майго дзеці,
Калі-ж час ваш прыйдзе
Весела запеці?

Ён прышоў нясьмелым вясковым юнаком, якому дарага было да сьлёз усё блізкае і роднае. Ён шукаў для сябе і адпаведнага вобразу, праз які можна было-б як найшчыльней з гэтым родным і блізкім зьліцца, яму хацелася быць варабейкам з-пад Гайны. Але гэта так было на пачатку (чытай верш „Я ня сокал“) у „Жалейцы“. У „Гусьляры“ Янка Купала ўжо магутны, як сокал і вецер:

І вецер, і сокал, і я—
Сыны аднэй долі жыцьця;
і далей
Як вецер, свабодны мой дух,
Хоць гора цягаю ланцуг.

Янка Купала пісаў пра тое, што глыбока пераўжыў сваім нутром, вось чаму ён так беспасрэдна, праўдзіва, сьмела і гнеўна ўпісаў у нашу поэзію гімны мужычай нядолі.

Проста ня верыш, і жах бярэ, што з-пад пяра маладога поэты, за плячыма якога была такая бедная літаратурная традыцыя

у тыя часы мог зьявіцца такі пякучы гімн эпохі беларускай няволі,—хоць яго кожны ведае, але не пашкодзіць яшчэ раз прывесьці:

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У вагромністай такой грамадзе?

— Беларусы.

А што яны нясуць, на худых плячох,
На нагах ў крыві, на нагах ў лапцёх?

— Сваю крыўду.

А куды-ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды-ж нясуць на паказ сваю?

— На сьвет цэлы

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несьць навучыў, разбудзіў іх сон?

— Бяда, гора.

А чаго-ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сьляпым, глухім?

— Людзьмі звацца.

У „Жалейцы“, поплеч з такімі сапраўднымі пэрламі поэзіі, ёсьць і слабыя вершы, у якіх поэта яшчэ часамі ня можа справіцца з рытмічнымі хвалямі і ўпадае ў звычайную пісаніну, для прыкладу дзьве страфы з вершу „Да дзяўчатак“:

Бачу, так здаваецца,
Што мне бедаку
Таго штось жадаецца,
Што і галубку.

Адну ненаглядачку
За жонку вазьму,
Тады можа радачку
Дам гору сьвайму.

Такой беднай інструмэнтоўкі мы ўжо бадай не знаходзім у „Гусьляры“; у гэтым зборніку наш поэта сягнуў вельмі далёка: культуру, гучнасьць беларускага вершу ўзьвёў на вышыню поэзіі багоў, калі-б такая магла быць:

Гэй, гусьляр, гусьляр!
Ты удар, удар
Па струнах, званах,
Дай нам з песен дар,
Дум вялікіх чар,
К сонцу зорны шлях,
Дай гусьляр, гусьляр!

У гэтым сваім другім зборніку Янка Купала пашырыў кола і свае тэматыкі; у ім ужо адчуваецца, што нашага поэту зачапіла гарадзкая, кніжная культура, але ўсё-ж ён заставаўся праўдзівым сабе, гэта ня выветрыла з яго наіўнасьці сапраўднага поэты: адчуваецца знаёмства з расійскім сымболізмам.

„Жалейка“ і „Гусьляр“ падрыхтоўваюць і ўводзяць нас у клясычную пару купалаўскай лірыкі; гэта яны нам узьнімаюць заслону ў другі том збору твораў, у які ўвайшоў зборнік „Шляхам жыцьця“. Пра гэты том спадзяюся напісаць у бліжэйшыя часы.

**Я. Плашчынскі**

---

**В. Винниченко. Сонечна машина. Державне видавництво України. 1928. Частина перша, ст. 314 с портретом; частина друга, ст. 235, частина третя, ст. 266. Часткі выданы паасобку у ліку 7.000.**

З вялікай зацікаўленасьцю чытаецца новы твор Вінніченка „Сонечна машина“, выданы Д. В. У. у канцы 1928 года. Напісан ён раней у 1922-24 г. г. і па сутнасьці адносіцца к ліку прыгодніцкіх романаў.

Вінніченка вядомы як аўтар роману „Записки кирпатого Мефістофеля“ („Твори“ т. XXI. До друку зібрав Т. Черкаський Выд. „Рух“—1926 Х.—К .4.000), якія малююць жыцьцё адваката Міхайлюка, яго гнілы быт відавочна распадаецца, разам з туманным жыцьцём другога гэроя, доцэнта філёзофіі Апанаса Крывулі. Гэта прадстаўнікі гор. Кіева, гораду, які жыве больш тым, што шчырая украінская глеба прыносіць на сялянскіх палетках, гораду з малым лікам пролетарыяту. Вінніченка вядом як аўтар драматычных рэчаў і апавяданьняў, у якіх трактуюцца проблемы моралі і сучаснасьці.

З другога боку, Вінніченка вядомы як кіраўнік соцыял-дэмакратаў Украіны, як галавар „Цэнтральнае Рады“, а потым „Дырэкторыі“, вядомы як сучасны Парыскі эмігрант, вораг саветаў... Усё гэта гаворыць за тое, што ў новым творы украінскі чытач будзе шукаць сучаснага політычнага твару Вінніченкі, што робіць твор тэмой сёняшняга дню з політычнага боку.

Да ацэнкі твору трэ' падыйсьці як належыць. Трэ' прыглядецца да яго добрых і адваротных бакоў.

З пункту гледаньня літаратурна-жанравай, з пункту гледаньня мастацкай вартасьці твору і тэхнікі яго пабудовы, трэба адзначыць, што гэта вельмі добра зробленая рэч. Мяккія хвалі жыцьцёвых кругоў, умелае і вельмі сталае разгортваньне сюжэту адразу захапляе чытача і не дае магчымасьці адарвацца ад твору. Асобы ў дзеяньні зразу паўстаюць як жывыя, адчуваецца іх рухомасьць і псыхолёгізм.

І гэтым Віннічэнка становіцца ў шэрагі лепшых украінскіх пісьменьнікаў; яго можна паставіць вышэй большасьці сучасных мастакоў, як вялізарнага прозаіка і культурную асобу эўропейскага маху.

Па сутнасьці „Сонечна машына"—утопія пабудовы соцыялізму. Асноўная ідэя —соцыяльны пераварот, які учынен новай машынай, што дабывае яду без усялякай працы. Гэта механізацыя вызваляе ўсе колы насельніцтва з рамак капіталістычных адносін. Працоўныя могуць жыць без капіталізму і нават без вытворчай працы. Выходзіць, што дасягненьне комунізму на зямлі магчыма—ня шляхам організацыйнага змаганьня працоўнае клясы, а шляхам тэхнічнага перавароту, зробленага вынаходцам Рудольфам Шторам. І зразумела, што працоўная кляса адлюстравалася ў романе не ў такім выглядзе, у якім яна існуе, ці можа існаваць. Ды наогул у романе яе амаль што і няма. Ёсьць жменька людзей, якія цікавяцца, абураюцца, але застаюцца пасыўнымі сваім унутраным сэнсам. Нашаму чытачу гэта здаецца наіўным. Мы вельмі добра ведаем, што значыць клясавае змаганьне, бо выносім яго на сваіх плячох, і гэты ўтопізм захапіць нас ніяк ня можа. Дый ідэю пабудовы соцыялізму па Віннічэнку мы ўспрымаем з нейкім сьмехам, дый гісторыя вучыць іншаму. „Факты цьвёрдая рэч!" Пасьля Маркса, Энгельса, Леніна—гэты малюнак будучыны ўражае нас сваей бязыдэйнасьцю.

Віннічэнка не шкадуе капіталізму. Ён чэрніць яго ўсімі рысамі адваротных уяўленьняў... У яго свой шлях пабудовы соцыялізму, які па сутнасьці адлюстроўвае плыні дробна-буржуазнае інтэлігенцыі Захаду. З гэтага боку і цікава новая ілюзія Віннічэнкі.

Лавіруючы паміж фашызмам і комунізмам заходняя інтэлігенцыя ў большасьці губляе шляхі, заходзячы ў ідэйны тупік, ня маючы выйсьця. А знайсьці выйсьце так пажадана, так хочацца марыць аб лепшай будучыне. Плыні гэтых думак выліваюцца ў буржуазныя партыі, меншавізм і інш.

Як адлюстровак гэтых плыняў і ідэйных хістаньняў самога Віннічэнкі і зьявіўся новы роман.

**Б. Папкоўскі**

---

*Рэдагуе* **Рэдколегія.** *Выдае* **„Узвышша"**.

**ВЫПІСВАЙЦЕ, РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ**

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, КРЫТЫКІ

# „УЗВЫШША“

„УЗВЫШША“ друкуе мастацкую творчасьць беларускіх і іншакраёвых пісьменьнікаў, шырока высьвятляе пытаньні поэзіі і наогул усіх галін мастацтва, адгукаецца на выдатнейшыя праявы літаратурнага кніжнага і мастацкага жыцьця.

„УЗВЫШША“ —лепшы дапаможнік настаўніку беларускай літаратуры.

„УЗВЫШША“ мае сваімі супрацоўнікамі выдатных профэсароў і тэорэтыкаў мастацтва, як беларускіх, гэтак і іншакраёвых (сьпіс гл. ніжэй)

## СУПРАЦОЎНІКІ „УЗВЫШША“

Адамовіч Ант., Атраховіч К., Бабарэка А.. Барычэўскі А. І., проф., Бядуля З., Бялькевіч Я., Бярозка Ю.. Вазьнясенскі А. Н., проф., Вайскопф Ф. (Нямеччына), Вольскі Віт., Гараўскі В., Гарэцкі М., Глебка П., Гушча Т. (Якуб Колас). Дарожны С., Дзяржынскі Ўл., Дрэйзін Ю., Дубоўка Ўл., Жылка Ўл., Замбржыцкі С., Замоцін І. І., проф., Іпалітаў-Іванаў М., проф. (Масква), Каладзе К. (Грузія), Калюга Л, Кляшторны Т., Крапіва, Кудзер Я., Кундзіш К., Купцэвіч Ф., Лёсік Я.. Лужанін М.. Лявонны Ю., Маракоў В., Мачульскі В., Мрый А., Ордубадзі М.-С. (Азарбайджан), Плаўнік І, Плашчынскі Я., Пратасевіч І., Пушкарэвіч К. (Ленінград), Пушча Я., Порго Ф. (Фінляндыя), Равенскі М. (Масква), Сааруні Ц. (Масква), Скрыблюкас І. (Масква), Сьнежка Зьм., Тайзарашвілі Г. (Масква), Трыер Л., Туянец В., Хадыка Ўл., Хлябцэвіч Аўг. (Масква), Чарэнц Е. (Армэнія), Чорны К., Шашалевіч В., Шлюбскі А., Шынклер Хв., Яр і інш

## УМОВЫ ПАДПІСКІ НА ЧАСОПІСЬ „УЗВЫШША“

1. Падпісная плата на часопісь на ўвесь 1929 г. (10 нумароў) . . . 5 р. — к.
2. На паўгода (5 нумароў) . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3 р. — к.
3. Комплект часопісі (6 нум.) за 1927 г. каштуе пры падпісцы 2 р. 50 к.
4. „ „ „ „ 1928 г. „ „ „ 5 р. 50 к.
5. Пры адначаснай падпісцы на 1928 і 1929 гады—1 компл. каштуе 8 р. — к.
6. Пры аднач. падпісцы на 1927, 1928 і 1929 г. г.—1 компл. каштуе 10 р. — к.

Пры падпісцы на тры гады даецца рассрочка: 5 руб. пры падпісцы, 3 руб. пры атрыманьні 1-га нумару за 1929 год і 2 руб. пры атрыманьні 3-га нумару за 1929 г.

**У паасобным продажы кожны нумар часопісі за 1927 г. (можна накладною платаю) каштуе 1 р. 25 к., за 1928 г.— 1 р. 50 к., за 1929 г.—80 к.**

## ПАДПІСКУ ПРЫЙМАЮЦЬ:

усе паштова-тэлеграфныя і выдавецкія канторы і іх адзяленьні, упаўнаважаныя і рэдакцыя „УЗВЫШША“.

**Адрэс рэдакцыі: Менск, Савецкая, 63, „УЗВЫШШУ“.**